ДЫЯЛОГ З ГАЛОЎНЫМ ІНЖЫНЕРАМ В. П. ЦАРОВЫМ ПРА НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ, ЯКІЯ АДБЫВАЮЦЦА НА МІКРАЭКРАНАХ РАЗНАСТАЙНЫХ ВЫРАБАЎ З МАРКАЙ МІНСКАГА ЗАВОДА «ЭЛЕКТРОНІКА».



# УТАЙМАВАННЕ ЭЛЕКТРОНА



● Начальнік бюро персанальных камп'ютэраў Аляксандр ДУНАЕЎ; ● Інжынер-тэхнолаг Ларыса ЮРКЕВІЧ з персанальным камп'ютэрам на ты;

**— Валерый Паўлавіч, наколькі я дасведчаны — ваша прадпрыемства не зусім звычайнае...**

— Увогуле, так і ёсць. А незвычайнасць найперш у тым, што нас можна аднесці да тых нешматлікіх сёння заводаў, якія па-ранейшаму выконваюць і доўгатэрміновыя праграмы, і вытворчыя планы, нягледзячы на сітуацыю, блізкую да эканамічнага хаосу... Аднак, пра ўсё па чарзе. За параўнаўча кароткі тэрмін (паўтара дзесяцігоддзя) завадчане прайшлі шлях асваення новых для краіны вырабаў — электронных ручных гадзіннікаў ад даволі простай двухфункцыянальнай мадэлі да мадэлей сучасных, шматфункцыянальных сусветнага ўзроўню. Я маю на ўвазе мікракамп'ютэры новага пакалення.

**— А ваш «канёк» застаўся ранейшым — электронныя гадзіннікі з лічбавым экранам!**

— Электронныя гадзіннікі з лічбавай і сумяшчальнай лічба-аналагавай індыкацыяй карыстаюцца попытам не толькі ў нашай краіне, але і на замежным рынку. І вызначае нашы вырабы не адна толькі электронная дакладнасць і якасць, а прыгажосць і вонкавая прываблівасць таксама.

**— Я ўжо меў магчымасць пераканацца ў тым, што па дызайну «Электроніка» можа даць фору і замежным аналагам...**

— А чаму б і не! Да прыкладу. Корпус гадзіннікаў для дзяцей вырабляецца з пластмасы розных колераў і нагадвае казачныя матывы, корпус жаночых гадзіннікаў — алюмініевы з каляровым дэкаратыўным пакрыццём. Дарэчы, канверсія дае нам магчымасць выкарыстоўваць яшчэ адзін, так бы мовіць, «благородный металл» — цырконій. Ягоная колеравая гама блізкая да вясёлкавай... Мяркую, што прыгажуням-пакупніцам кулоны з гэтага металу будуць даспадобы. І яшчэ пра дызайн. Мы выпускаем набор «Для вас, жанчыны» (колер корпуса гадзінніка кожная гаспадыня можа падабраць у залежнасці ад колеру адзення). Самым жа юным электроншчыкам адрасаваны набор гадзіннікаў «Зрабі сам». Карыстаецца попытам і серыя «Спадчына» з сімваламі Бярэсця і гербамі старажытных гарадоў Беларусі.

**— Па завядзёнцы мы, пакупнікі, лічым, што гадзіннік — гэта дакладны час...**

— Так. Паказваць дакладны час з папраўкай плюс-мінус дзесятая часцінка секунды — гэта ўвогуле найпершы «абавязак» хранометра. А вось гадзіннікі маркі «Электроніка» здатныя выканаць ажно дзесятак з нечым розных аперацый.

**— Якіх жа!**

— Мікраэкран (ці цыферблат, як мы раней казалі) гадзінніка «Электроніка-55» дае магчымасць удакладніць: які зараз час (гадзіна, хвіліна, секунда), які дзень тыдня (месяц, год — ажно да 2021 года







● «Тэарэтычны брыфінг» у галоўнага канструктара завода «Электроніка» М. І. КАЧУРКІ (справа);

● Знаёмцеся: брыгада наладчыкаў вымяральнага абсталявання (злева направа) Сяргей МАЙСЕЕНКА, Аляксандр ПРАТАСЕВІЧ, Андрэй ЗАГОРСКІ, Юрый ВЯРГІЛА і Аляксандр ПУХТО;

● Робаты на зборцы электроннага блока «Электроніка»;

● Кантралёр АТК цэха зборкі Алёна КАНАНОВІЧ.

ўключна). Да таго ж такі гадзіннік можна выкарыстоўваць у якасці секундамера ці будзільніка (па вашай просьбе таймер выдасць гукавы сігнал у запраграміраваны тэрмін) і гэтак далей. Як бачыце, гадзіннік сёння — гэта складаны электронны механізм, дакладней — мікраЭВМ... Спадзяюся, што пакупнікі задаволены і нашымі прыборамі з медыка-біялагічнымі функцыямі (пульсамерам, крокамерам і найперш мікракардыяаналізатарам МКА-2). Мадэль МКА-2 даволі лёгкая і зручная ў карыстанні: вага яе — 50 грамаў. Гэты апарат выяўляе і падлічвае чатыры асноўныя тыпы арытміі сардэчнай дзейнасці і практычна ў любых умовах (вытворчых і хатніх) выдае на табло аператыўныя медыцынскія рэкамендацыі.

**— Цікава, а якія яшчэ «даручэнні» можна даць вашым камп'ютэрам!**

— Уявіце сабе: бухгалтар налічвае заработную плату, прараб робіць чарцяжы, статыстык дыяграмы і табліцы, рэдактар рэдагуе артыкул... не выходзячы са сваёй кватэры. Ці магчыма такое? Магчыма! А памагатыя тут — персанальныя мікракамп'ютэры новага пакалення, якія мы таксама пачалі вырабляць. Гэтыя ЭВМ вызваляць чалавека ад механічнай работы, дадуць яму прастору для творчасці. Зараз нашы канструктары завяршаюць распрацоўку персанальнага камп'ютэра новага класа «ПК-300». У канцы года выпусцім першую партыю такіх ЭВМ.

**— І на заканчэнне, Валерый Паўлавіч, пытанне меркантыльнае: а ці па кішэні сёння пакупніку вырабы з маркай «Электроніка»!**

— Разумею вас. Дык вось. Я спяшаюся дадаць чытачам «Беларусі» аптымізму: цэны на нашу прадукцыю засталіся ранейшымі...

Вёў дыялог **Іосіф КАЛЮТА.**







**— Ты выйшаў з партыі?**
**— Не.**
**— Чаму?**
**— А чаго спяшацца...**

Гэтыя пытанні сталі зараз такімі частымі, як і «дзе дастаць?», «колькі каштуе?». Выхадам з партыі, бадай, ужо здзівіць цяжка. Адны выходзяць ціха, перастаўшы плаціць членскія ўзносы, другія — прынародна кінуўшы білет на стол і пахваліўшыся гэтым на мітынгу ці ў кампаніі сябрукоў: «А што мне дала гэтая партыя? Шкада, што столькі грошай на ўзносы ўбухаў».

Неадназначна наша грамадства адносіцца да гэтай з'явы. Зараз якую партыйную газету ні разгарні — паток публікацый, дзе камуністы гнеўна абвінавачваюць былых таварышаў па партыі як не ва ўсіх грахах. «Ім партыя патрэбна была дзеля кар'еры», «Яны здрадзілі партыі ў самы цяжкі для яе час, а здарыцца — і маці родную не пашкадуюць», «...уступалі ў КПСС, каб абараніць дысертацыі, выдаць без чаргі кнігу...»

Не ведаю, як у каго, а ў мяне такі абвінаваўчы запал выклікае ўсмешку. Шкада людзей, якія не могуць ці не хочуць глянуць далей свайго дома, завода, горада. Так, жывучым аказаўся лозунг: «Хто не з намі, той супраць нас», які ўзнялі на шчыт бальшавікі 17-га года і які лічыўся асновай камуністычнай ідэалогіі ў барацьбе з падкопамі буржуазнай прапаганды. Давайце ўсё ж глыбей глянем на працэс выхаду з КПСС.

Згодзен, многія ўступалі ў партыю з кан'юнктурных меркаванняў. Яны і не хавалі сваёй мэты. Памятаецца, наш сусед падаў заяву ў партыю і на пытанні вяскоўцаў заўсёды адказваў: «Ат, можа, работу лягчэйшую дадуць». І сапраўды суседа прызначылі спачатку ўчотчыкам, затым памочнікам брыгадзіра, нават некаторы час і брыгадзірам працаваў, хоць не меў нават сярэдняй адукацыі. Згубіла нераўнадушша сівухі і «чарніла». Прыйшлося здаць агульны сшытак і брацца за кавальскі молат.

І такіх прыкладаў — мора. Людзі ўступалі ў партыю не па ідэйных меркаваннях, не таму, «каб быць у першых радах будаўнікоў камунізму», а каб цяплей уладкавацца ў жыцці, арганізаваць бязбеднае існаванне сваім дзецям і сваякам. І, канечне, такія прыстасаванцы заслугоўваюць і папрокаў, і асуджэння.

Але ж ці можам мы ўсіх мераць адным аршынам? Каманднa-адміністрацыйная сістэма, каб умацаваць сваё імперскае становішча, так паставіла справу, што простаму грэшнаму, калі ён не з'яўляўся членам КПСС, не было хады наперад. Ён быццам бы і лічыўся чалавекам, але нейкім другасным, хоць паўсюдна афішыравалі «непарушны блок камуністаў і беспартыйных». Зараз толькі і чуваць «кар'ерысты», «кар'ера». А што ў гэтым непрыстойнага? Кожны чалавек павінен клапаціцца аб сваім прафесійным росце, удасканаленні — на гэтым трымаецца свет. Жаданне вартае пахвалы і падтрымкі. У нашай жа сістэме творчы, таленавіты, ініцыятыўны, цікавы чалавек не мог стаць, скажам, начальнікам цэха ці загадчыкам кафедры, не ўступіўшы ў партыю.

Мне могуць запярэчыць: талент пры любой сістэме праб'е сабе дарогу. І ў якасці прыкладу прывесці нашага знакамітага пісьменніка Васіля Быкава, маўляў, не камуніст, а дзе толькі не друкаваўся. Згодзен. Але ж паспрабуй Васіль Уладзіміравіч даць згоду на пасаду першага сакратара Саюза пісьменнікаў, як адразу ж знайшоўся б контраргумент: на наменклатурныя пасады — выбіраць камуністаў.

Нават на нязначную кіруючую пасаду прызначалі толькі партыйцаў. Гэта аксіёма ніякай рэвізіі не падлягала. Загадчык фермы — камуніст, загадчык гаража — таксама, аграном — абавязкова. Масавая партызацыя распаўсюджвалася ва ўсе сферы нашага жыцця. Калі, скажам, цябе прымалі ў рэдакцыю абласной газеты з раённай, то разглядалі не твае здольнасці і веданне жыцця, а прыналежнасць да партыі. Я ўжо маўчу пра такія органы, як міліцыя, суд, пракуратура. Заняць там стол без партбілета было проста немагчыма. Няважна, што інспектар ДАІ ні на якой мове, акрамя «мацернай», з вадзіцелямі не размаўляў, затое адчуваў сябе каралём: у кішэні партбілет і калі што — таварышы па партыі замест жазла дадуць у рукі спецдубінку.

Каб паглядзець свет, пабываць у капіталістычнай краіне за свае грошы, патрэбна было спачатку стаць камуністам, а то хто ведае, можа, цябе заходнія спецслужбы завярбуюць. Даходзіла часам да абсурду. Памятаецца, калі ў Брэсце арганізаваўся філіял «Саўтрансагенцтва», фірме тэрмінова спатрэбіліся першакласныя вадзіцелі. І ў адначассе яны знайшліся, але амаль усе вярнуліся ні з чым. Першым пытаннем кадравіка было: «Камуніст?». Таму многія, хто хацеў кінуць тут якар, хуткаснымі тэмпамі вывучалі Статут КПСС, яе Праграму і станавіліся ў чаргу за... партбілетам.

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Фота Віктара Драчова.

# сакалоў у адстаўцы, а ці шчаслівейшы народ?

доў вядзём вайну супраць гэтай заганнай з'явы, а крэпасць непарушная. Чаму? Чаму нават сёння, калі мы вучымся глядзець на рэчы цвяроза, без акуляраў «класавай барацьбы», так цяжка «прарэзваецца» здольнасць многіх партапаратчыкаў лічыцца з іншай думкай, дапускаць існаванне — прычым законнае — іншых поглядаў на развіццё грамадства?

Больш як 70 гадоў камуністычная ідэалогія была па-за крытыкай, на яе маліліся, як на ікону. І таму забыліся на галоўны закон развіцця — закон адзінства і барацьбы супярэчнасцей. А калі грамадства развіваецца, дзякуючы вырашэнню супярэчнасцей, то хіба можа частка грамадства, партыя, развівацца па іншых законах? Не заўважаць гэтыя законы можна, адмяняць — не.

Дык ці можна зараз гэтых людзей абвінавачваць у нейкай здрадзе партыі і яе ідэалам? Сама партыя, а дакладней, яе правадыры, «верныя ленінцы» вінаваты ў аўтарытарнасці, у тым ліку і ў кадравай рабоце. Гэта яны далі сабе права бязмежна распараджацца лёсам мільёнаў людзей. І гэта хутка ўцямілі тыя, хто жадаў добра жыць. Камуністамі становіліся людзі без прынцыпаў і пазіцый, ідэйна-палітычнай і маральнай закваскі. Яны траплялі ў наменклатурную абойму і лёгка ўзносіліся да самых высокіх пірамід кіруючай іерархіі.

Напрыклад, дастаткова было стаць інструктарам райкома камсамола, каб забяспечыць сабе (пры ўмове, вядома, здольнасці падмітусіцца, дзе трэба) імклівы ўзлёт на вышыню па службовай лесвіцы — у той кабінет, адкуль «кіруюць і накіроўваюць». Галоўнае — дакладна выконваць даручэнні, умець прыгожа зрабіць справаздачу, арганізаваць начальству, што прыбыло з праверкай, пікнік з дзяўчатамі, юшкай і лазняй. Затым, заняўшы шыкоўны кабінет, можна разлічваць на юшку і лазню ўжо для сябе... Куды б завяла нас гэтая наменклатурная прамая, каб не працвеspecial... 

Нішто не можа быць грунтоўным, вартым павагі, калі не мае пад сабою трывалага падмурка прафесіяналізму, кампетэнтнасці, асабістых якасцей. Аўтарытэт партыі, яе сіла бяруць вытокі ад аўтарытэту, прафесіяналізму яе лідэраў, яе, так бы мовіць, кадраў. Тым болей, што, як атрымалася, мы гаварылі партыя — мелі на ўвазе партапарат. Бездань пралягла паміж ім і радавымі камуністамі. Аўтарытарнасць ляжыць псіхалагічна на цэлым пакаленні партыйных і савецкіх работнікаў. Вось ужо колькі га-

У выніку марксісцка-ленінская навука ператварылася ў догму. Больш таго, гэтым вучэннем часта прыкрывалі сваю некампетэнтнасць, баючыся уступіць у палеміку па гарачых праблемах. А для апанента знаходзілася загадзя падрыхтаваная цытата «Маркс сказаў...», «Ленін сказаў...». Але, калі чытач памятае, Ленін не ставіў перад сабой мэты даць вычарпальныя адказы на ўсе пытанні, якія ставіла жыццё. Пасля яго смерці вучэнне аб партыйным будаўніцтве было ўспрынята кансерватыўна-дагматычна, разглядалася па-за рэаліямі жыцця, канкрэтнымі сітуацыямі.

На самай жа справе многія з ленінцаў па-сапраўднаму таго ж Леніна і не чыталі. Бо каб зразумець яго, патрэбна мець шырокі кругагляд, высокую эрудыцыю, палітычную культуру. Гэтага нашым партыйным лідэрам якраз і не хапала. Просты прыклад. Як памятаеце, Ленін раіў вучыцца сацыялізму ў буйных капіталістаў. Савецкая ўлада плюс прускі парадак на чыгунках плюс амерыканская арганізацыя кіравання трэстамі плюс амерыканская сістэма народнай адукацыі і г. д.— у суме сацыялізм. У суме! І ніводнага са складаемых гэтай сумы не выкінуць. Мы ж павыкідвалі, пачаўшы маліцца толькі на «адзіны плюс» — Савецкую ўладу.

Ды і навошта было ведаць Маркса, Леніна, каб арганізаваць, да прыкладу, «ідэалагічнае забеспячэнне зімоўкі жывёлы»? Матэрыяльная вытворчасць была пастаўлена ў аснову, а сацыяльная,— у тым ліку і ідэалогія,— у залежнасць. Што атрымалася? Партыйныя камітэты зацыкліліся на гаспадарча-адміністрацыйных функцыях, пачалі займацца станкамі, фермамі, а не людзьмі, якія іх абслугоўваюць. Такім чынам, і ў партыі стварылася камандна-адміністрацыйная сістэма — моцнае дзяржаўна-партыйнае ўтварэнне, якое абслугоўвалася карнымі органамі і абапіралася на адпаведныя законы.

Натуральна, галоўнай формай работы з людзьмі была каманда, а не пераканане. Што лягчэй — камандаваць ці пераконваць людзей, зацікаўлена, пераканаўча гаварыць з імі? Зачапіць нябачныя струны чалавечай душы можа толькі той, хто сам з'яўляецца Асобай. Гэта павінен быць чалавек усебакова адукаваны, неардынарны.

На практыцы ж такія якасці не ўлічваліся. Камандна-бюракратычная сістэма падбірала кадры па вобразу і падабенству свайму. На партыйную работу прыходзілі не чалавеказнаўцы, а спецыялісты народнай гаспадаркі, якія больш-менш цямілі ў праблемах сваёй галіны і маглі даваць каманды. Некаторыя з іх вызначаліся і выбіраліся з вузкага кола, па анкеце, а не на сваіх якасцях. Ніхто пры гэтым не памкнуўся зазірнуць у душу кандыдату на высокую партыйную пасаду. А яны, заняўшы кабінеты за дубовымі дзвярамі, усталёўвалі вакол сябе і шэрасць, і пасрэднасць, і хамства, і хцівасць, і амбіцыйнасць... Гэта былі людзі-двурушнікі: сярод сваіх згодна аб'ектыўцы — хоць ордэн давай, а сярод чужых...

Памятаецца, адзін першы сакратар райкома партыі грымеў не толькі на Гомельшчыне, але і ў рэспубліцы — яго хвалілі, аб ім пісалі, членам ЦК КПБ, дэпутатам Вярхоўнага Савета выбралі. Аднойчы познім вечарам у інтэрнаце ВПШ я ўбачыў яго: на добрым падпітку, ён настойліва барабаніў у дзверы пакоя, у якім жылі жанчыны-слухачкі двухгадовага аддзялення. Неўзабаве стала вядома — знаходзячыся «пад мухай» за рулём, «першы» падбіў чалавека. Лагічна закончыўся маральны разлад — з сабою на трыбуне і па-за ёй.

І тут трэба быць шчырымі,— больш! — жорсткімі да сябе саміх: бачылі, разумелі, але адварочваліся — «ягоная справа...» Што ж бедаваць сёння, калі абвінавачванні тыпу «вінавата партыя» кладуцца на ўсіх нас? За гады вучобы ў партшколе даводзілася бачыць, як лідэры раённых і гарадскіх партыйных арганізацый, прыехаўшы на сесію, праводзяць вольны ад лекцый і семінараў час. Уранку прыбіральшчыцы цэлыя «батарэі» пустых пляшак выносілі з іх нумароў. Міжволі думалася: праз тыдзень—другі гэтыя самавітыя, самазадаволеныя таварышы будуць заклікаць з трыбун радавых камуністаў да цвярозага ладу жыцця, выключаць з партыі тых, у каго не склалася асабістае жыццё.

І не толькі на гарэлцы «гарэлі» партработнікі. Успомніце, які ўрон партыі нанеслі былыя другі сакратар Магілёўскага абкома А. Баразна, першы сакратар Гомельскага райкома А. Бычкоў, першы сакратар Цэнтральнага райкома Гомеля Г. Кускова, сакратары Маларыцкага райкома І. Дронь і Г. Украінец... Спіс гэты можна доўжыць. Адна з прычын іх маральнага падзення — адсутнасць духоўнасці і культуры. Ленін пісаў, што сацыялізм пачынаецца з культуры і канчатковым вынікам сацыялізму з'яўляецца культура. Партыйны работнік не ад-

будзецца, калі не будзе мець грунтоўных ведаў па культуразнаўству.

А што мы маем на справе? У перыяд, калі рэспублікай кіраваў М. Слюнькоў, узялі курс на тэхнакратаў, яны занялі амаль усе адказныя кіруючыя пасады. Сярод першых сакратароў райкомаў — гуманітарыяў тады, бадай, аднаму А. Цупрыку з Ляхавіч удалося «выжыць». А пра што, скажам, дбалі ветэрынар ці заатэхнік, займеўшы сакратарскія партфелі? Іх у першую чаргу цікавілі племянная работа, узнаўленне дойнага статка, выбракоўка кароў, стойлавае і пашавае ўтрыманне... Школа, культура, мясцовыя традыцыі, гісторыя краю, лёсы людзей іх зусім не турбавалі.

Безумоўна, і сярод партапаратчыкаў былі і ёсць людзі талковыя, прыстойныя ў высокім сэнсе гэтага слова, цікавыя, якія шмат працуюць над сабою, умеюць гаварыць самі і слухаць іншых, даць параду, дапамагчы. Мне неаднойчы даводзілася сустракаць такіх сапраўдных лідэраў, пісаць пра іх. Але ў часе такіх сустрэч кідалася ў вочы адна дэталь. Мае субяседнікі ўпэўнена адчувалі сябе сярод механізатараў, жывёлаводаў і зусім няўтульна — сярод настаўнікаў, медыкаў, культработнікаў. Складвалася ўражанне, што партыйныя сакратары не ведаюць, пра што гаварыць з гэтай катэгорыяй людзей. А раптам неўпапад? А раптам не такі націск у словах ставлю? А раптам папытаюцца аб тым, чаго не ведаю? Чырванець давядзецца, а гэта не да твару лідэру камуністаў, які ва ўсіх адносінах павінен быць на галаву вышэй за іншых.

Зараз жыццё паклікала партапаратчыкаў з кабінетаў на вуліцы, у заводскія цэхі, на фермы, каб даць людзям адказы на вострыя пытанні часу. І многія партработнікі спасавалі перад натоўпам, баяцца ісці на прамы дыялог. Без канспектаў папялечнікаў, без шпаргалак гаворка не заўсёды атрымліваецца. І гэта не іх віна, а бяда. Гэтаму іх не вучылі ні ў Акадэміі грамадскіх навук, ні ў Вышэйшай партыйнай школе. Гэта — вынік застарэлай мадэлі, калі партыйны работнік быў абавязаны толькі «несці людзям думку вярхоў». Памятаецца, на адным з мітынгаў, які праходзіў у скверы па вуліцы Славінскага ў Мінску, сёй-той ганьбіў Леніна, партыю. Тут жа знаходзіліся работнікі Першамайскага райкома і Мінскага гаркома партыі, і ніхто з іх нават не паспрабаваў перахапіць ініцыятыву ў апанентаў: ціха стаялі, нешта занатоўвалі ў блакноціку. Палітыку яны будуць рабіць заўтра, у цішыні кабінетаў. На жаль, такія «палітыкі» не сёння, дык заўтра апынуцца па-за палітыкай.

Вы не заўважылі, што партыйныя работнікі падобны адзін да аднаго? Не тварам, канечне, а манерамі, жэстамі, вопраткай. Абавязкова пры гальштуку, у скураным паліто, пыжыкавай шапцы. Пагардлівы тон у гутарцы з радавым камуністам і — ліслівы з начальствам. Яны вельмі часта і аднолькава разважалі, і гаварылі. І гэта вынік дзеяння прынцыпу дэмакратычнага, а на справе бюракратычнага цэнтралізму. Чым больш ён лютаваў, тым менш станавілася адкрытага іншадумства; думкі ўтойваліся, а то і зусім зніклі. Работнік апарату, які ўмеў разважаць і аналізаваць, быў не патрэбны. Прыходзіў, скажам, у райком новы чалавек — творчы, ініцыятыўны. Які яго далейшы лёс? З першых дзён яго вучылі: тваё рабочае месца — пісьмовы стол, а прылады працы — тэлефон для «выбівання» даведак і інфармацыі, пяро і папера — для збору «фактажу» ў даклады сакратарам. Але паўстае пытанне: а ці патрэбен нам такі апаратчык, які, заглушаючы інтэлект індывідуума, спрабуе кіраваць жыццём па нейкіх схемах?

Аднак вярнуся да пыжыкавых шапак і скураных паліто, а дакладней, да прывілей супрацоўнікаў партапарату. Напярэдадні XXXI з'езда Кампартыі Беларусі газеты гэтай тэме ўдзялялі шмат месца на сваіх старонках, таму не буду яшчэ раз засяроджваць увагу чытачоў на асобных фактах. Хачу толькі сказаць, што рэзананс тых выступленняў пакуль роўны нулю.

У канцы лютага ў «Звяздзе», праўда, быў апублікаваны афіцыяльны матэрыял «Аб публікацыі ў штотыднёвіку «Аргументы и факты». Падпісалі яго члены камісіі, створанай прэзідыумам Кантрольнай камісіі КПБ для праверкі некаторых фактаў аб прывілеях. Не ведаю, як каго, а мяне тая публікацыя не вельмі пераканала. Ну каго, скажыце, могуць пераканаць сёння спасылкі на пастанову ЦВК і СНК РСФСР ад 28 лютага 1939 (!) года «Аб праве карыстання дадатковай жылой плошчай», згодна якой атрымліваюць лішнія «метры» і сучасныя партработнікі? Калі мы рашуча асуджаем сталіншчыну, то чаму карыстаемся законамі часоў сталіншчыны? Калі мы асудзілі застой, брэжнеўшчыну, то чаму не саромеемся жыць па пастанове саюзнага Саўміна ад 22 лістапада 1970 года, якой рэгламентаваны парадак атрымання дыпламатычных пашпартоў дзеячамі Кампартыі? А як жа быць кіраўнікам іншых партый, што нараджаюцца ў нашым грамадстве?

Партыйцы, вядома ж, абураюцца паводзінамі сваіх лідэраў, але практычна не могуць адазваць іх з высокіх пасад і ў роспачы здаюць свае партыйныя білеты.

— Разумееце, калі заходзіць размова аб прывілеях, то разглядаецца чамусьці толькі яе асабіста-бытавы бок,— дзяліўся неяк думкамі былы першы сакратар Брэсцкага гаркома партыі, кандыдат гістарычных навук У. Самовіч.— Кагосьці кудысьці прымацавалі, камусьці нешта выдзелілі. Аднак калі паглядзець на праблему глыбей, то ўбачыш, што прывілеі маюць і ідэйна-палітычны, і маральны аспекты... Скажыце, ці змагла б галодная, босая Расія ў 17-м годзе стварыць сваіму правадыру і куміру Леніну добрыя ўмовы для жыцця? Безумоўна! Але чаму Ільіч не пайшоў на гэта, адмовіўся нават ад павышэння зарплаты? А таму, што ідэі, якія ён прапаведаваў, тая мараль, якою ён кіраваўся, не дазвалялі яму жыць лепш, чым жылі простыя камуністы і беспартыйныя. Мы ж свае дачы, асабнякі спрабавалі спісаць на час, маўляў, на двары перыяд развітога сацыялізму. А час тут ні пры чым. Проста адбылася трансфармацыя каштоўнасцей і сумлення.

У часе той гаворкі Уладзімір Пятровіч прывёў нямала фактаў з жыцця абласной партыйнай арганізацыі, калі яе ўзначальвалі У. Мікуліч і Я. Сакалоў. Пры першым, напрыклад, была завядзёнка: чалавек прыходзіць у апарат — яму адразу абнаўляюць жыллё, натуральна, з лішнімі «метрамі», у зялёнай зоне, побач з установай, паліклінікай і крамамі. Гэты раён і зараз брэстаўчане называюць «дваранскім гняздом». Дарэчы, сам У. П. Самовіч, адпрацаваўшы у апараце, лічы, усё сваё жыццё, жыве ў звычайнай «хрушчоўцы».

Такім чынам, радавыя камуністы станавіліся заложнікамі створанай партакратыяй таталітарнай сістэмы, якая зводзіла чалавека да становішча «вінціка». У выніку мы дажылі да такога абсурду, калі партыйна-чыноўная эліта, якая ні перад кім ні за што не адказвала, пачынала называць сябе «адказнымі работнікамі». Краіна, у якой партыя з'яўлялася арганізуючай і кіруючай сілай, а яе члены займалі ўсе самыя высокія пасады, даведзена да стану разбітага карыта — і няма вінаватых. Праўда, апошнім часам вінаваты ўсё ж знайшоўся. Ім стаў Прэзідэнт. Паслухалі б вы, як партыйныя сакратары «хрысцяць» яго з высокіх трыбун! Гэта ён «развaліў краіну, даў волю дэмакратам, а мы — ні пры чым тут...»

Так, сёй-той з нашых лідэраў баіцца за сваю будучыню, за тое, што зараз іх могуць пазбавіць і кабінета, і дзяржаўнай легкавушкі, прапануюць ісці працаваць па спецыяльнасці. А працаваць яны развучыліся. Гэта раней лічылася: калі ты ў партыйным апараце, то можаш усё. Узначаліць тэатр, музей, выдавецтва, фабрыку, школу.

Уявіце, якія страсці распальваліся, калі такі, з дазволу сказаць, «прафесіянал» прыходзіў кіраваць творчым калектывам. Аб гэтым лепш за ўсё могуць расказаць работнікі Брэсцкага тэлерадыёкамітэта. Апошнія дзесяць гадоў імі кіруюць людзі, якія не адрознівалі радыёпастаноўку ад радыёнарыса, я не кажу ўжо аб тонкасцях рэжысуры, апаратарскай справы. Былы старшыня У. Хоміч «завітаў» сюды з абкома, а цяперашні Ю. Сацінаў — з пасады першага сакратара Ленінскага райкома КПБ. Журналісты жартуюць: «Гэта абком яго да нас у ссылку прыслаў»...

Шэсць гадоў перабудовы крыху пахіснулі маналітную наменклатурную сістэму. Да кіраўніцтва прыходзяць сапраўдныя прафесіяналы. Упершыню за ўсю гісторыю міністрам замежных спраў і прэм'ер-міністрам краіны сталі спецыялісты сваёй справы. Ды і ў нас у рэспубліцы сакратаром ЦК КПБ выбраны В. Ціхіня, які раней не займаў партыйных прыступак. Аўтарытэт і павагу сярод людзей знайшлі Л. Радкевіч — першы сакратар Фрунзенскага райкома партыі Мінска, А. Ярашук з Клецка, якога нядаўна зацвердзілі загадчыкам аддзела ЦК, і іншыя.

Апарат абнаўляецца, прыходзяць новыя кадры — без догмаў, са здольнасцю аналізаваць, рабіць вывады (не блытаць з аргвывадамі) і прагнозы. Аднак іх, на жаль, адзінкі. Вышыні ўлады шмат дзе па сённяшні належаць тым, хто кіраваў і 10 і 20 гадоў назад. І стыль работы абноўленых камітэтаў паўтараецца.

Пішу не дзеля таго, каб пакрытыкаваць, як гэта цяпер прынята, партыю. Канкрэтныя людзі і канкрэтныя партыйныя камітэт, няхай нават самы што ні на ёсць «высокастаячы» — яшчэ не партыя! Мне, камуністу, хочацца, каб увогуле было менш падстаў для крытыкі ў адрас партыйных работнікаў. А для гэтага трэба ведаць і ўспрымаць грамадства такім, якое яно ёсць, а не любавацца ім праз «прычасаныя» газетныя радкі.

Яшчэ некалькі месяцаў назад — на разнастайных мітынгах, а таксама перад Домам афіцэраў, дзе праходзіў XXXI з'езд КПБ, даводзілася чытаць плакаты, чуць заклікі: «Далоў Сакалова!», «Дзякуй сакаловым і камаям за тое, што маем!» і іншыя. Збылося: Сакалоў у адстаўцы. Што маем? Ці сталі мы больш заможнымі і спакойнымі, больш чалавечнымі? Што, так і будзем скіроўваць усю сваю энергію на ганьбаванне ўсіх па чарзе дзеячаў партыі? Напэўна, справа не столькі ў іх (хаця адмаўляць ролю асобы, вядома, не будзем), колькі ў нас саміх, у нашай здольнасці аказацца вышэй за звычку «шукаць вінаватых» тады, калі нешта не атрымліваецца. Дрэнна жывём — вінаваты Гарбачоў-Рыжкоў-Сакалоў (чытай: Ельцын, Сабчак, Пазняк)... У кожнага — свой ідэал і свой — апанент. Калі ж мы адчуем сваю ўласную адказнасць за ўсё, што адбываецца?

*Працягваем публікацыю асноўных міжнародных дакументаў па правах чалавека. Глядзіце часопіс «Беларусь» №№ 1—5 за гэты год.*



# КАНВЕНЦЫЯ АБ ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАВАХ ЖАНЧЫН

ПРЫНЯТА ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕЯЙ ААН
20 СНЕЖНЯ 1952 г.

Уступіла ў сілу 7 ліпеня 1954 г.

**Бакі, якія дамаўляюцца,** жадаючы ажыццявіць прынцып раўнапраўя мужчын і жанчын, указаны ў Статуце Арганізацыі Аб'яднаных Нацый,

**прызнаючы,** што кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраванні сваёй краінай непасрэдна або пры дапамозе свабодна выбраных прадстаўнікоў і права роўнага доступу да дзяржаўнай службы ў сваёй краіне, а таксама жадаючы ўраўнаваць у адпаведнасці з пастановамі Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека становішча мужчын і жанчын у адносінах валодання і карыстання палітычнымі правамі,

вырашыўшы заключыць канвенцыю для гэтай мэты,

**пагадзіліся аб наступным:**

*Артыкул I*

Жанчынам належыць права галасаваць на ўсіх выбарах, на аднолькавых з мужчынамі ўмовах, без якой-небудзь дыскрымінацыі.

*Артыкул II*

Жанчыны могуць быць выбраныя, на аднолькавых з мужчынамі ўмовах, без якой-небудзь дыскрымінацыі, ва ўсе вызначаныя нацыянальным законам установы, якія патрабуюць публічных выбараў.

*Артыкул III*

Жанчынам належыць, на роўных з мужчынамі ўмовах, без якой-небудзь дыскрымінацыі, права займаць пасады на грамадска-дзяржаўнай службе і выконваць усе грамадска-дзяржаўныя функцыі, вызначаныя нацыянальным законам.

*Артыкул IV*

1. Гэтая Канвенцыя адкрыта для падпісання любымі членамі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, а таксама любымі іншымі дзяржавамі, якія атрымалі запрашэнне ад Генеральнай Асамблеі.

2. Гэтая Канвенцыя падлягае ратыфікацыі, і ратыфікацыйныя граматы здаюцца на захаванне Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

*Артыкул V*

1. Гэтая Канвенцыя адкрыта для далучэння для ўсіх дзяржаў, пазначаных у пункце 1 артыкула IV.

2. Далучэнне робіцца здачай дэкларацыі аб далучэнні на захаванне Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

*Артыкул VI*

1. Гэтая Канвенцыя ўступае ў сілу на дзевяносты дзень, лічачы з дня здачы на захаванне шостай ратыфікацыйнай граматы або дэкларацыі аб далучэнні.

2. Для кожнай дзяржавы, якая ратыфікуе гэтую Канвенцыю ці далучыцца да яе пасля здачы на захаванне шостай ратыфікацыйнай граматы альбо дэкларацыі аб далучэнні, Канвенцыя ўступае ў сілу на дзевяносты дзень пасля здачы такой дзяржавай на захаванне сваёй ратыфікацыйнай граматы або дэкларацыі аб далучэнні.

*Артыкул VII*

У выпадку давання якой-небудзь дзяржаўнай агаворкі да якога-небудзь артыкула гэтай Канвенцыі пры падпісанні, ратыфікацыі ці далучэнні Генеральны сакратар паведамляе тэкст гэтай агаворкі ўсім дзяржавам, якія з'яўляюцца ці могуць стаць удзельніцамі гэтай Канвенцыі. Любая дзяржава, якая не згодна з гэтай агаворкай, можа на працягу дзевяностадзённага тэрміну, лічачы ад даты ўказанага паведамлення (альбо з дня, калі яна стала ўдзельніцай Канвенцыі), давесці да ведама Генеральнага Сакратара, што яна не прымае. У такім выпадку Канвенцыя не ўступае ў сілу паміж такой дзяржавай і дзяржавай, якая зрабіла агаворку.

*Артыкул VIII*

1. Любая дзяржава можа дэнансаваць гэтую Канвенцыю, пісьмова паведаміўшы пра гэта Генеральнаму сакратару Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Дэнансацыя ўступае ў сілу праз год з дня атрымання гэтага паведамлення Генеральным сакратаром.

2. Дзеянне гэтай Канвенцыі спыняецца з дня ўступлення ў сілу дэнансацыі, пасля якой колькасць Бакоў у Канвенцыі становіцца меншай за шэсць.

*Артыкул IX*

Любая спрэчка, якая паўстае паміж любымі дзвюма альбо некалькімі дзяржавамі, што дамаўляюцца, наконт тлумачэння ці прымянення гэтай Канвенцыі, якая не вырашана ў выніку перагавораў, перадаецца па патрабаванню любога з Бакоў у гэтай спрэчцы, калі яны не дамовяцца аб іншым парадку яе ўрэгулявання, на вырашэнне Міжнароднага Суда.

*Артыкул X*

Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый даводзіць да ведама ўсіх членаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і тых, што не з'яўляюцца членамі Арганізацыі, дзяржаў, якія названы ў пункце 1 артыкула IV гэтай Канвенцыі:

а) аб подпісах і ратыфікацыйных граматах, атрыманых у адпаведнасці з артыкулам IV;

b) аб дэкларацыях аб далучэнні, атрыманых у адпаведнасці з артыкулам V;

c) аб даце ўступлення гэтай Кан-

венцыі ў сілу ў адпаведнасці з артыкулам VI;

d) аб перадачах і паведамленнях, атрыманых у адпаведнасці з артыкулам VII;

e) аб паведамленнях аб дэнансацыі, атрыманых у адпаведнасці з пунктам 1 артыкула VIII;

f) аб спыненні дзеяння Канвенцыі ў адпаведнасці з пунктам 2 артыкула VIII.

*Артыкул XI*

1. Гэтая Канвенцыя, англійскі, іспанскі, кітайскі, рускі і французскі тэксты якой з'яўляюцца роўна аўтэнтычнымі, захоўваецца ў архіве Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

2. Генеральны сакратар Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пасылае завераныя копіі ўсім членам Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і тым дзяржавам, якія не з'яўляюцца членамі Арганізацыі, якія названы ў пункце 1 артыкула IV.

У сведчанне чаго ніжэйпадпісаныя, пэўным чынам упаўнаважаныя адпаведнымі ўрадамі, падпісалі гэтую Канвенцыю, адкрытую для падпісання ў Нью-Йорку, трыццаць першага сакавіка тысяча дзевяцьсот пяцьдзесят трэцяга года.



Агаворкі да Канвенцыі аб палітычных правах жанчын, зробленыя прадстаўніком СССР 31 сакавіка 1953 года пры падпісанні Канвенцыі

«Па артыкулу VII: Урад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік заяўляе аб сваёй нязгодзе з апошняй фразай артыкула VII і лічыць, што юрыдычным следствам агаворкі з'яўляецца тое, што Канвенцыя дзейнічае паміж дзяржавай, што зрабіла агаворку, і ўсімі іншымі ўдзельнікамі Канвенцыі за выключэннем толькі той яе часткі, якой тычыцца агаворка.

Па артыкулу IX: Урад Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік лічыць для сябе неабавязковымі палажэнні артыкула IX, які прадугледжвае, што спрэчкі паміж Бакамі, якія дамаўляюцца, наконт тлумачэння альбо прымянення гэтай Канвенцыі перадаюцца на вырашэнне Міжнароднага Суда па патрабаванню любога з Бакоў у спрэчцы, і заяўляе, што для перадачы той ці іншай спрэчкі на вырашэнне Міжнароднага Суда неабходна ў кожным асобным выпадку згода ўсіх Бакоў, якія спрачаюцца».

# КАНВЕНЦЫЯ АБ ЛІКВІДАЦЫІ ЎСІХ ФОРМ ДЫСКРЫМІНАЦЫІ Ў АДНОСІНАХ ДА ЖАНЧЫН

**ПРЫНЯТА ГЕНЕРАЛЬНАЙ АСАМБЛЕЯЙ ААН 18 СНЕЖНЯ 1979 г.**

Уступіла ў сілу 3 верасня 1981 г.

**Дзяржавы — удзельніцы гэтай Канвенцыі,**

**улічваючы,** што Статут Арганізацыі Аб'яднаных Нацый зноў сцвердзіў веру ў асноўныя правы чалавека, у годнасць і каштоўнасць чалавечай асобы і ў раўнапраўе мужчын і жанчын,

**улічваючы,** што Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека пацвярджае прынцып недапушчэння дыскрымінацыі і абвяшчае, што ўсе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах і што кожны чалавек павінен валодаць усімі правамі і ўсімі свабодамі, абвешчанымі ў ёй, без якоганебудзь адрознення, у тым ліку адрознення ў адносінах полу,

**улічваючы,** што на дзяржавы — удзельніцы Міжнародных пактаў аб правах чалавека ўскладваецца абавязак забяспечыць роўнае для мужчын і жанчын права карыстацца ўсімі эканамічнымі, сацыяльнымі, культурнымі, грамадзянскімі і палітычнымі правамі,

**беручы пад увагу** міжнародныя канвенцыі, заключаныя пад эгідай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і спецыялізаваных устаноў у мэтах садзейнічання раўнапраўю мужчын і жанчын,

**улічваючы** таксама рэзалюцыі, дэкларацыі і рэкамендацыі, прынятыя Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і спецыялізаванымі ўстановамі ў мэтах садзейнічання раўнапраўю мужчын і жанчын,

**будучы, аднак, заклапочанымі** тым, што, нягледзячы на гэтыя розныя дакументы, па-ранейшаму мае месца значная дыскрымінацыя ў адносінах да жанчын,

**напамінаючы,** што дыскрымінацыя жанчын парушае прынцыпы раўнапраўя і павагі чалавечай годнасці, перашкаджае удзелу жанчыны нароўні з мужчынам у палітычным, сацыяльным, эканамічным і культурным жыцці сваёй краіны, перашкаджае росту дабрабыту грамадства і сям'і і яшчэ больш ускладняе поўнае раскрыццё магчымасцей жанчын у імя сваіх краін і чалавецтва,

**будучы заклапочанымі тым,** што ва ўмовах галечы жанчыны маюць найменшы доступ да харчавання, аховы здароўя, адукацыі, прафесійнай падрыхтоўкі і магчымасцей для працаўладкавання, а таксама да іншых патрэбаў,

**будучы перакананымі,** што ўсталяванне новага міжнароднага эканамічнага парадку, заснаванага на роўнасці і справядлівасці, будзе значна садзейнічаць забеспячэнню роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі,

**падкрэсліваючы,** што ліквідацыя апартэіду, усіх форм расізму, расавай дыскрымінацыі, каланіялізму, неакаланіялізму, агрэсіі, замежнай акупацыі і панавання і ўмяшання ва ўнутраныя справы дзяржавы з'яўляецца неабходнай для поўнага ажыццяўлення правоў мужчын і жанчын,

**пацвярджаючы,** што ўмацаванне міжнароднага міру і бяспекі, аслабленне міжнароднай напружанасці, узаемнае супрацоўніцтва паміж усімі дзяржавамі незалежна ад іх сацыяльных і эканамічных сістэм, усеагульнае і поўнае раззбраенне і асабліва ядзернае раззбраенне пад строгім і эфектыўным міжнародным кантролем, усталяванне прынцыпаў справядлівасці, роўнасці і ўзаемнай выгады ў адносінах паміж краінамі і ажыццяўленне права народаў, якія знаходзяцца пад замежным і каланіяльным панаваннем і замежнай акупацыяй, на самавызначэнне і незалежнасць, а таксама павагу нацыянальнага суверэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржаў будуць садзейнічаць сацыяльнаму прагрэсу і развіццю і, як следства гэтага, будуць садзейнічаць дасягненню поўнай роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі,

**будучы перакананымі** ў тым, што поўнае развіццё краіны, дабрабыт усяго свету і справа міру патрабуюць максімальнага ўдзелу жанчын нароўні з мужчынамі ва ўсіх галінах,

**улічваючы значэнне** ўкладу жанчын у дабрабыт сям'і і ў развіццё грамадства, які дагэтуль не атрымаў поўнага прызнання, сацыяльнае значэнне мацярынства і ролі абодвух бацькоў у сям'і і ў выхаванні дзяцей і ўсведамляючы, што роля жанчыны ў прадаўжэнні роду не павінна быць прычынай дыскрымінацыі, паколькі выхаванне дзяцей патрабуе сумеснай адказнасці мужчын і жанчын і ўсяго грамадства ў цэлым,

**прызнаючы,** што для дасягнення поўнай роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі неабходна змяніць традыцыйную ролю як мужчын, так і жанчын у грамадстве і сям'і,

**поўныя рашучасці** ажыццявіць прынцыпы, абвешчаныя ў Дэкларацыі аб ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын, і дзеля гэтай мэты прыняць меры, неабходныя для ліквідацыі такой дыскрымінацыі ва ўсіх яе формах і праявах,

**пагадзіліся аб наступным:**

ЧАСТКА I

*Артыкул I*

Для мэт гэтай Канвенцыі паняцце «дыскрымінацыя ў адносінах да жанчын» абазначае любое адрозненне, выключэнне або абмежаванне па адзнацы полу, якое накіравана на аслабленне ці зводзіць на нішто прызнанне, карыстанне альбо ажыццяўленне жанчынамі, незалежна ад іх сямейнага становішча, на аснове раўнапраўя мужчын і жанчын, правоў чалавека і асноўных свабод у палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай, культурнай, грамадзянскай або любой іншай галіне.

*Артыкул 2*

Дзяржавы-ўдзельніцы асуджаюць дыскрымінацыю ў адносінах да жанчын ва ўсіх яе формах, пагаджаюцца неадкладна ўсімі адпаведнымі спосабамі праводзіць палітыку ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын і з гэтай мэтай абавязваюцца:

а) уключыць прынцып раўнапраўя мужчын і жанчын у свае нацыянальныя канстытуцыі ці іншае адпаведнае заканадаўства, калі гэта яшчэ не было зроблена, і забяспечыць з дапамогай закона і іншых адпаведных сродкаў практычнае ажыццяўленне гэтага прынцыпу;

b) прымаць адпаведныя заканадаўчыя і іншыя меры, уключаючы санкцыі, там, дзе гэта неабходна, якія забараняюць усялякую дыскрымінацыю ў адносінах да жанчын;

c) устанавіць юрыдычную абарону правоў жанчын на роўнай аснове з мужчынамі і забяспечыць з дапамогай кампетэнтных нацыянальных судоў і іншых дзяржаўных устаноў эфектыўную абарону жанчын супроць любога акта дыскрымінацыі;

d) устрымлівацца ад здзяйснення якіх-небудзь дыскрымінацыйных актаў альбо дзеянняў у адносінах да жанчын і гарантаваць, што дзяржаўныя органы і ўстановы будуць дзейнічаць у адпаведнасці з гэтым абавязацельствам;

e) прымаць усе адпаведныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын з боку якойнебудзь асобы, арганізацыі або прадпрыемства;

f) прымаць усе адпаведныя меры, уключаючы заканадаўчыя, для змянення або скасавання законаў, пастаноў, звычаяў і практыкі, якія дзейнічаюць і якія ўяўляюць сабой дыскрымінацыю ў адносінах да жанчын;

g) адмяніць усе палажэнні свайго крымінальнага заканадаўства, якія ўяўляюць сабой дыскрымінацыю ў адносінах да жанчын.

*Артыкул 3*

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць ва ўсіх галінах, і ў прыватнасці ў палітычнай, сацыяльнай, эканамічнай і культурнай галінах, усе адпаведныя меры, уключаючы закана-

даўчыя, для забеспячэння ўсебаковага развіцця і прагрэсу жанчын, з тым каб гарантаваць ім ажыццяўленне і карыстанне правамі чалавека і асноўнымі свабодамі на аснове роўнасці з мужчынамі.

## Артыкул 4

1. Прыняцце дзяржавамі-ўдзельніцамі часовых спецыяльных мер, накіраваных на паскарэнне ўсталявання фактычнай роўнасці паміж мужчынамі і жанчынамі, не лічыцца, як гэта вызначаецца гэтай Канвенцыяй, дыскрымінацыйным, аднак яно ні ў якім выпадку не павінна мець вынікам захаванне няроўнаправўных ці дыферэнцыраваных стандартаў; гэтыя меры павінны быць скасаваны, калі будуць дасягнуты мэты роўнасці магчымасцей і раўнапраўных адносін.

2. Прыняцце дзяржавамі-ўдзельніцамі спецыяльных мер, накіраваных на ахову мацярынства, уключаючы меры, якія ўтрымліваюцца ў гэтай Канвенцыі, не лічыцца дыскрымінацыйным.

## Артыкул 5

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры з мэтаю:

а) змяніць сацыяльныя і культурныя мадэлі паводзін мужчын і жанчын з мэтай дасягнення выкаранення прымхаў і ліквідавання звычаяў і ўсёй іншай практыкі, якія заснаваны на ідэі непаўнацэннасці альбо перавагі аднаго з полаў ці стэрэатыпнасці ролі мужчын і жанчын;

b) забяспечыць, каб сямейнае выхаванне ўключала ў сябе правільнае разуменне мацярынства як сацыяльнай функцыі і прызнанне агульнай адказнасці мужчын і жанчын за выхаванне і развіццё сваіх дзяцей пры ўмове, што ва ўсіх выпадках інтарэсы дзяцей з'яўляюцца пераважнымі.

## Артыкул 6

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры, уключаючы заканадаўчыя, для спынення ўсіх відаў гандлю жанчынамі і эксплуатацыі прастытуцыі жанчын.

### ЧАСТКА II

## Артыкул 7

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры па ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын у палітычным і грамадскім жыцці краіны і, у прыватнасці, забяспечваюць жанчынам на роўных умовах з мужчынамі права:

а) галасаваць на ўсіх выбарах і публічных рэферэндумах і выбірацца ва ўсе органы, якія публічна выбіраюцца;

b) удзельнічаць у фармуляванні і ажыццяўленні палітыкі ўрада і займаць дзяржаўныя пасады, а таксама ажыццяўляць усе дзяржаўныя функцыі на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання;

с) прымаць удзел у дзейнасці няўрадавых арганізацый і асацыяцый, якія займаюцца праблемамі грамадскага і палітычнага жыцця краіны.

## Артыкул 8

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры, каб забяспечыць жанчынам магчымасць на роўных умовах з мужчынамі і без якой-небудзь дыскрымінацыі прадстаўляць свае ўрады на міжнародным узроўні і ўдзельнічаць у рабоце міжнародных арганізацый.

## Артыкул 9

1. Дзяржавы-ўдзельніцы даюць жанчынам роўныя з мужчынамі правы ў адносінах набыцця, змянення або захавання іх грамадзянства. Яны, у прыватнасці, забяспечваюць, што ні ўзяцце шлюбу з іншаземцам, ні змяненне грамадзянства мужа ў часе шлюбу не цягнуць за сабой аўтаматычнага змянення грамадзянства жонкі, не ператвараюць яе ў асобу без грамадзянства і не могуць прымусіць яе прыняць грамадзянства мужа.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы даюць жанчынам роўныя з мужчынамі правы ў адносінах грамадзянства іх дзяцей.

### ЧАСТКА III

## Артыкул 10

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры для таго, каб ліквідаваць дыскрымінацыю ў адносінах да жанчын, з тым каб забяспечыць ім роўныя правы з мужчынамі ў галіне адукацыі і, у прыватнасці, забяспечыць на аснове роўнасці мужчын і жанчын:

а) аднолькавыя ўмовы для арыентацыі ў выбары прафесіі або спецыяльнасці, для доступу да адукацыі і атрымання дыпломаў у навучальных установах усіх катэгорый як у сельскіх, так і ў гарадскіх раёнах; гэтая роўнасць забяспечваецца ў дашкольнай, агульнай, спецыяльнай і вышэйшай тэхнічнай адукацыі, а таксама ва ўсіх відах прафесійнай падрыхтоўкі;

b) доступ да аднолькавых праграм навучання, аднолькавых экзаменаў, выкладчыцкага саставу аднолькавай кваліфікацыі, школьных памяшканняў і абсталявання аднолькавай якасці;

с) ліквідацыю любой стэрэатыпнай канцэпцыі ролі мужчыны і жанчыны на ўсіх узроўнях і ва ўсіх формах навучання шляхам заахвочвання сумеснага навучання і іншых відаў навучання, якія будуць садзейнічаць дасягненню гэтай мэты, і, у прыватнасці, шляхам перагляду навучальных дапаможнікаў і школьных праграм і адаптацыі метадаў навучання;

d) аднолькавыя магчымасці атрымання стыпендый і іншых дапамог на адукацыю;

е) аднолькавыя магчымасці доступу да праграм працягу адукацыі, уключаючы праграмы распаўсюджвання пісьменнасці сярод дарослых і праграмы функцыянальнай пісьменнасці, накіраваныя, у прыватнасці, на скарачэнне як мага хутчэй любога разрыву ў ведах мужчын і жанчын;

f) скарачэнне колькасці дзяўчат, якія не заканчваюць школы, і распрацоўку праграм для дзяўчат і жанчын, якія заўчасна пакінулі школу;

g) аднолькавыя магчымасці актыўна ўдзельнічаць у занятках спортам і фізічнай падрыхтоўкай;

h) доступ да спецыяльнай інфармацыі адукацыйнага характару ў мэтах садзейнічання забеспячэнню здароўя і дабрабыту сямей, уключаючы інфармацыю і кансультацыі аб планаванні памеру сям'і.

## Артыкул 11

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах жанчын у галіне занятасці, з тым каб забяспечыць на аснове роўнасці мужчын і жанчын роўныя правы, у прыватнасці:

а) права на працу як неад'емнае права ўсіх людзей;

b) права на аднолькавыя магчымасці пры найме на працу, у тым ліку прымяненне аднолькавых крытэрыяў адбору пры найме;

с) права на свабодны выбар прафесіі альбо роду работы, на прасоўванне ў пасадзе і гарантыю занятасці, а таксама на карыстанне ўсімі льготамі і ўмовамі работы, на атрыманне прафесійнай падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі, уключаючы вучнёўства, прафесійную падрыхтоўку павышанага ўзроўню і рэгулярную перападрыхтоўку;

d) права на роўнае ўзнагароджанне, уключаючы атрыманне льгот, на роўныя ўмовы ў адносінах працы роўнай каштоўнасці, а таксама на роўны падыход да ацэнкі якасці работы;

е) права на сацыяльнае забеспячэнне, у прыватнасці, у выпадку выхаду на пенсію, беспрацоўя, хваробы, інваліднасці, па старасці і ў іншых выпадках страты працаздольнасці, а таксама права на адпачынак, які аплачваецца;

f) права на ахову здароўя і бяспечныя ўмовы працы, у тым ліку па захаванню функцыі працягу роду.

2. Для папярэджання дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын па прычыне замужжа альбо мацярынства і гарантавання ім эфектыўнага права на працу дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць адпаведныя меры для таго, каб:

а) забараніць, пад пагрозай прымянення санкцый, звальненне з работы на падставе цяжарнасці ці водпуску па цяжарнасці і родах або дыскрымінацыю з-за сямейнага становішча пры звальненні;

b) увесці водпускі, якія аплачваюцца, ці водпускі з супараўнальнымі сацыяльнымі дапамогамі па цяжарнасці і родах без страты ранейшага месца работы, старшынства альбо сацыяльных дапамог;

с) заахвочваць даванне неабходных дадатковых сацыяльных паслуг з тым, каб дазволіць бацькам сумяшчаць выкананне сямейных абавязкаў з працоўнай дзейнасцю і ўдзелам у грамадскім жыцці, у прыватнасці, праз стварэнне і пашырэнне сеткі ўстаноў па догляду за дзецьмі;

d) забяспечыць жанчынам асаблівую абарону ў перыяд цяжарнасці на тых відах работ, шкодныасць якіх для іх здароўя даказана.

3. Заканадаўства, якое тычыцца абароны правоў, што закранаюцца ў гэтым артыкуле, перыядычна разглядаецца ў свеце навукова-тэхнічных ведаў, а таксама пераглядаецца, адмяняецца ці пашыраецца, наколькі гэта неабходна.

## Артыкул 12

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын у галіне аховы здароўя з тым, каб забяспечыць на аснове роўнасці мужчын і жанчын доступ да медыцынскага абслугоўвання, у прыватнасці ў тым, што тычыцца планавання памеру сям'і.

2. Аднолькава з палажэннямі пункта 1 гэтага артыкула дзяржавы-ўдзельніцы забяспечваюць жанчынам адпаведнае абслугоўванне ў перыяд цяжарнасці, родаў і пасляродавы перыяд, даючы ім, калі гэта неабходна, бясплатныя паслугі, а таксама адпаведнае харчаванне ў перыяд цяжарнасці і кармлення.

## Артыкул 13

Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын у іншых галінах эканамічнага і сацыяльнага жыцця з тым, каб забяспечыць на аснове роўнасці мужчын і жанчын роўныя правы, у прыватнасці:

а) права на сямейныя дапамогі;

b) права на атрыманне пазык, пазык пад нерухомую маёмасць і іншых форм фінансавага крэдыту;

с) права ўдзельнічаць у мерапрыемствах, звязаных з адпачынкам, у занятках спортам і ва ўсіх галінах культурнага жыцця.

## Артыкул 14

1. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць да ўвагі асаблівыя праблемы, з якімі сутыкаюцца жанчыны, што пражываюць у сельскай мясцовасці, і значную ролю, якую яны адыгрываюць у забеспячэнні эканамічнага дабрабыту сваіх сямей, у тым ліку іх дзейнасць у нетаварных галінах гаспадаркі, і прымаюць усе адпаведныя меры для забеспячэння прымянення палажэнняў гэтай Канвенцыі да жанчын, якія пражываюць у сельскай мясцовасці.

2. Дзяржавы-ўдзельніцы прымаюць усе адпаведныя меры для ліквідацыі дыскрымінацыі ў адносінах да жанчын у сельскіх раёнах, з тым каб забяспечыць на аснове роўнасці мужчын і жанчын іх удзел у развіцці сельскіх раёнаў і ў атрыманні выгад ад такога развіцця, і, у прыватнасці, забяспечваюць такім жанчынам права:

а) удзельнічаць у распрацоўцы і ажыццяўленні планаў развіцця на ўсіх узроўнях;

b) на доступ да адпаведнага медыцынскага абслугоўвання, уключаючы інфармацыю, кансультацыі і абслугоўванне па пытаннях планавання памеру сям'і;

с) непасрэдна карыстацца дабротамі праграм сацыяльнага страхавання;

d) атрымліваць усе віды падрыхтоўкі і фармальнай і нефармальнай адукацыі, уключаючы функцыянальную пісьменнасць, а таксама карыстацца паслугамі ўсіх сродкаў абшчыннага абслугоўвання, кансультатыўных службаў па сельскагаспадарчых пытаннях, у прыватнасці, для павышэння іх тэхнічнага ўзроўню;

е) арганізаваць групы самадапамогі і кааператывы, з тым каб забяспечыць роўны доступ да эканамічных магчымасцей праз работы па найму або незалежную працоўную дзейнасць;

f) удзельнічаць ва ўсіх відах калектыўнай дзейнасці;

g) на доступ да сельскагаспадарчых крэдытаў і пазык, сістэмы збыту, адпаведнай тэхналогіі і на роўны статус у зямельных і аграрных рэформах, а таксама ў планах перасасялення зямель;

h) карыстацца належнымі ўмовамі жыцця, асабліва жыллёвымі ўмовамі, санітарнымі паслугамі, электра- і водазабеспячэннем, а таксама транспартам і сродкамі сувязі.

(Заканчэнне будзе.)

# БЭНД І ЯГОНЫ ЛІДЭР

## НЕКАЛЬКІ СЛОЎ ПРА ДЗЯРЖАЎНЫ КАНЦЭРТНЫ АРКЕСТР БЕЛАРУСІ І ЯГО КІРАЎНІКА — МІХАІЛА ФІНБЕРГА

Музыка наогул — рэч непаўторная. Асабліва тая музыка, якая не вельмі моцна залежыць ад строгіх радкоў партытуры, а мае шмат такіх месц, дзе музыканты могуць даць волю сваёй фантазіі і паімправізаваць. А калі да таго ж і імправізатары ў аркестры не абы-якія, тады сапраўдныя прыхільнікі біг-бэндавай музыкі імкнуцца слухаць **усё!**

Вы толькі на імгненне задумайцеся — **усё!**

І ўсё ж аркестраў, якія збіраюць на канцэртах натоўпы прыхільнікаў, здольных слухаць усё і бясконца, на ўсім свеце не так і шмат. Безумоўна, кожны імкнецца да дасканаласці, ды для гэтага неабходна некалькі ўмоў.

Што ўяўляе сабой сёння Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі, на чале якога стаіць Міхаіл Фінберг? Гэта, безумоўна, моцны, згуртаваны калектыў з багатым практычным вопытам, хоць я ўпэўнены, што ягоныя «зорныя гадзіны» ўсё ж наперадзе. Чаму? Сённяшняе жыццё мастацтва (калі наша існаванне можна назваць гордым словам «жыццё») такое, што амаль нічога нельга сказаць пэўна, а аб'ектыўнасць ацэнак часцей за ўсё з'яўляецца адыходам ад фактаў рэальнасці. Пераважна ў бок таго, як гэтыя факты павінны выглядаць у вачах тых, хто гэтую музыку заказаў ці то ў парламенце, ці то на тэлеэкране.

Тым не менш я паспрабую паразважаць, апіраючыся на суб'ектывізм, які і дапамагае мне хоць неяк адрознівацца ў гэтым агульнаталонным свеце ад усіх тых, хто ўласныя думкі спрабуе прадставіць як адзіна магчымыя.

Задумаўшы стварыць аркестр, Міхаіл Фінберг шмат чым рызыкаваў. Не думаю, што яго прымусілі б абмяжавацца песеннымі опусамі беларускіх кампазітараў: не той час, хоць рэальная небяспека гэтага існуе і надалей. Такі шлях напэўна выклікаў бы негатыўныя вынікі: перад вачыма стаіць прыклад эстрадна-сімфанічнага аркестра Дзяржтэлерадыё БССР. Гэты калектыў доўгі час быў манапалістам, але так і не здолеў вырвацца па-за рамкі руцiннай работы. Міхаіл Фінберг паставіў перад калектывам звышзадачу: займацца неабходнымі і таму не заўсёды прыемнымі справамі («сучаснай» беларускай эстраднай музыкай), час ад часу працуючы і для душы (інструментальная папулярная музыка, джазавая класіка). Рызыка ж была вось у чым: беларускія кампазітары наўрад ці стануць пісаць лепш і менш, таму такой работай аркестр забяспечаны на шмат гадоў па самую макаўку. А для таго, каб замацавацца ва ўсесаюзнай джазавай «тусоўцы», трэба ўсё ж шмат працаваць і пастаянна выступаць на фестывалях.

Галоўны дырыжор і мастацкі кіраўнік рызыкаваў яшчэ і таму, што ўсведамляў: за выключэннем ваенных аркестраў, традыцыя аркестравай музыкі наогул у нас перарвалася ў 1917 годзе. Гэта найбольш выразна адчувалася ў Беларусі, якая заўсёды была на пярэдняй лініі змагання з «чужымі» нам ідэалагічнымі ўплывамі ў мастацтве. Праўда, здарыўся адзін выпадак «тактычнага выпрамлення ідэалагічнага фронту», калі напярэдадні вайны ў Беларусі быў створаны Дзяржаўны джаз-аркестр БССР пад кіраўніцтвам Эдзі Рознера. У асноўным у яго складзе выступалі эмігранты з Польшчы, ды ўзровень выканання «музыкі тоўстых» гаварыў сам за сябе: Рознер першы з прадстаўнікоў эстраднай музыкі рэспублікі быў адзначаны званнем заслужанага артыста.

Праўда, гэты факт амаль ні пра што не гаворыць: імя Э. Рознера вы не адшукаеце ў Беларускай энцыклапедыі. Такім чынам, і ягонага аркестра нібыта не існавала.

Разлік М. Фінберга заснаваўся яшчэ вось на чым. У Дзяржаўным канцэртным аркестры існуюць тры падраздзяленні, кожнае з якіх выконвае ўласныя функцыі, але не ізалявана ад іншых. Падмурак аркестра — група духавых разам з рытмічнай секцыяй, асновай кожнага біг-бэнда. У мінскім аркестры духавыя нясуць найбольшую нагрузку. Своеасаблівыя фарбы ў гучанне ўсяго аркестра (пераважна ў творах традыцыйнага эстраднага характару) уносіць струнная група. Пры аркестры працуе і група салістаў — самастойны мабільны калектыў, які заняты студыйнымі запісамі са спевакамі-салістамі і адначасова — задавальненнем асабістых творчых памкненняў.

Нягледзячы на, здавалася б, вялікую колькасць музыкантаў, Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі здольны аператыўна адгукацца на музычныя запатрабаванні грамадства.

Па-першае, гэтаму спрыяе падбор выканаўцаў. Нараджэнню аркестра дапамагалі на самым высокім узроўні. Таму, я ўпэўнены, М. Фінберг, калі толькі таго пажадаў, атрымаў бы многіх з найбольш дасведчаных у краіне знаўцаў-выканаўцаў біг-бэндавай музыкі. Ды ён пайшоў у іншым напрамку.

Побач з вядомымі ў Мінску музыкантамі месцы за пультамі занялі зусім маладыя. А поруч з імі можна было знайсці і новыя для Беларусі твары. Гэта былі музыканты з Растова-на-Доне, выхаванцы «прафесара» біг-бэндавай музыкі Кіма Назарэтава на чале з дасведчаным трамбаністам Г. Грачухіным. Разам з В. Шчарыцам і В. Бармам, А. Радзюковым і І. Мішурам, А. Гілевічам і А. Архіпавым яны склалі ядро аркестра.

Па-другое, М. Фінберг мае здольнасць заўважаць таленавітых музыкантаў сярод тых, хто робіць толькі першыя крокі ў мастацтве. Тут кіраўнік аркестра выступае нават у ролі мецэната, ён быццам не цярпіць магчымых канкурэнтаў, імкнучыся, каб яны працавалі выключна на ягоную «фірму». Што ж, школа такой фірмы, як Дзяржаўны канцэртны аркестр, неацэнная для маладых музыкантаў, таму няма чаго здзіўляцца, калі ў аркестры працуюць гітарыст С. Анцішын, што пачынаў у аматарскай джаз-групе, барабаншчык А. Старажук, якога заўважылі яшчэ ў інстытуце культуры, выканаўца на ўдарных К. Шаванда, які іграў у рок-групе «Уліс».

Па-трэцяе, М. Фінберг заўсёды апіраўся на дасведчаных аранжыроўшчыкаў, якія ў біг-бэндавым жанры іграюць не менш істотную ролю, чым кампазітары. У мінскім аркестры на першым плане тут — рыжанін В. Далгоў (шматгадовы сааўтар А. Лундстрэма) і А. Шлнёў — адзін са сціплых патрыярхаў беларускай эстраднай музыкі. Ды іх поле дзейнасці — класічная бэндавая аранжыроўка. Калі ж узнікае патрэба апрацаваць матэрыял у больш сучасным ключы, на першы план выходзяць іншыя ўдзельнікі калектыву. Творчая ініцыятыва ў аркестры не абмяжоўваецца, многія музыканты спрабуюць свае сілы і як аранжыроўшчыкі, і нават як кампазітары.

Цяжка пералічыць усе праграмы, увасобленыя аркестрам за амаль чатыры гады існавання. Перш-наперш я адзначыў бы той неймаверны аб'ём музычнай літаратуры, падрыхтаваны аркестрам да двух усесаюзных фестываляў польскай песні ў Віцебску. А чаго вартыя дзве шматмесячныя паездкі ў Італію і праца для мясцовага тэлебачання?! Там, як кажуць, не пасачкуеш! Ды найбольшае ў мяне ўражанне ад канцэрта ў Белдзяржфілармоніі, на якім гучала класіка біг-бэндавай музыкі, творы, дзякуючы якім зрабілі сабе імя славутыя аркестры Дзюка Элінгтана і Каўнта Бэйсі. Слухачоў чакаюць новыя праграмы, у прыватнасці, працяг бэндавай «анталогіі» — музыка аркестра Г. Мілера, а таксама праграма з чароўных мелодый «Бітлз».

Цяпер можна смела сказаць пра тое, што цэнтр эстраднага жыцця Беларусі перамясціўся ў Дзяржаўны канцэртны аркестр, які я неяк вобразна назваў «аркестрам на ўсе рукі».

Ведаю, што з Міхаілам Фінбергам працаваць няпроста. Яго лёгка пакрыўдзіць, ён усё прымае блізка да сэрца і, калі трэба, будзе працаваць бясконца, не заўважаючы, як святлее ягоная галава. Дзеля свайго калектыву ён здольны пераканаць і ўгаварыць усіх тых, ад каго можа залежаць лёс ягоных музыкантаў.

Ён дэспатычны. А інакш у аркестры нельга!

Ён часам капрызны, любіць паскардзіцца на няўвагу да калектыву, ды вось хітрасці ў яго на дзесяцярых.

Ён яшчэ і вынаходлівы, і ўчэпісты ў дзелавых пытаннях, аднолькава добра памятае і злое, і добрае. Ён любіць шмат гаварыць, бо нельга ж увесь час займацца толькі музыкай!

Ды ўсё тое, што ён робіць, скіравана толькі на музыку. Вось чаму, бадай што, і прывязаны да яго людзі, бо кожны знаходзіць у ім нешта такое, што прываблівае. Слабасці чалавека адначасова і ягоныя вартасці, таму што яны не адрываюць кіраўніка творчага калектыву ад падначаленых. Ён жа — кіраўнік, таму можа дазволіць сабе часам быць капрызным, дэспатам. М. Фінберг можа крыўдаваць і ненавідзець, любіць і, калі трэба, зачароўваць.

Вялікім аркестрам проста не можа кіраваць асоба, пазбаўленая ўсіх звычайных рыс характару чалавека. Калі б Міхаіл Фінберг не быў такім, які ёсць, ён, напэўна, не ўзначаліў бы аркестр.

Калі б не было яго, і мы сёння не змаглі б паразважаць пра Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі — калектыў, які прымусіў пра сябе гаварыць.

Што ўдаецца далёка не кожнаму...

**Дзмітрый ПАДБЯРЭЗСКІ.**

● **На сцэне — салістка ансамбля Юлія Скараход.**

● **Дзяржаўны канцэртны аркестр БССР у поўным складзе.**

**Фота з архіва ансамбля.**






Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Міхаіл ФІНБЕРГ.

Мялецій СМАТРЫЦКІ

# ТРЭНАС



Святыя апосталы ў паўсядзённай службе сталам, а не ў пропаведзі слова Божага,— для наракання грэкаў супраць яўрэяў, вы, што хочаце настаўляць дыяканаў, мужы брацця, гавару, заўважце паміж сабою мужоў, якія маюць добрае сведчанне, напоўненых Духа святога і мудрасці, якіх бы мы над тою справаю паставілі. А цяпер на малітву, на службу Божую, на шанаванне святынь, што даюць жыццё, без абрання і ўсялякага вопыту (не ўспамінаю пра напоўненасць Духам святым і мудрасцю) прымаюцца і для пропаведзі слова Божага пасылаюцца. Вось такіх маю пастыраў і настаўнікаў. Вось такіх маю павадыроў і абраных. Самі здыхаюць з голаду, а другіх карміць парываюцца. Самі аслеплі, а хочуць быць павадырамі для іншых. Самі кульгаюць на абедзве нагі, а для другіх хочуць стаць падпораю. Самі невукі, а іншых павучаць адважваюцца. О, нядбайны, перакручаны, о, бязбожны звычай рукапалажэння! «Рукі хутка ні на каго не ўскладай,— гаворыць апостал,— і не будзь супольнікам у чужых грахах». А ў другім месцы: «Я пакінуў цябе, Ціт, у Крыце дзеля таго, каб даканаў недавершанае, выправіў і паставіў на месцах святароў, як я табе загадаў». Калі хто ёсць без заганы — муж адной жонкі, што мае верных сыноў, якія не абвінавачаны ці падданы празмернасці. Бо біскуп павінен быць без заганы, як ключар Божы, без пыхі, не гняўлівы, не спіты, не ваяўнічы, не хцівы да агіднага прыбытку, але гасцінны, добры, цвярозы, справядлівы, святы, стрыманы, які б трымаўся верных слоў, што адпавядаюць навуцы, каб мог навучаць згодна праўдзівай навукі і пераконваць тых, хто ёй супраціўляецца. Сённяшнія мае епіскапы і архіепіскапы ўсю тую апостальскую навуку за сябе закінуўшы, нагамі яе, як не вартую ўвагі, аслепленых хцівасцю да срэбра, патапталі. Такі гэтага часу мудры святар і дасціпны, які тое мае, што мог бы і свайму епіскапу, хаця аддалены ад спраў царкоўных, пазычыць, каб быў ізноў вернуты.

Гора мне, даверанай нядбайным работнікам! Гора мне, ненажэрным ласунам аддадзенай у апеку! Бяда вам, што прадаеце, і вам, што купляеце дар Духа святога — серабро ваша будзе вам на згубу. Не хочаце ведаць праўды — не хочаце бачыць і няпраўды. Не хочаце разумець, адкуль тыя, што вам даюць, набываюць, з якога промыслу багацеюць. Малако дояць з авечак, воўну стрыгуць, скуру лупяць і прадаюць, самі іх мясам кормяцца, кроўю ўпіваюцца, а вам з шчодрасці таго мяса і звыш меры нявінныя крыві ўдзяляюць. О, брыдкастаўнікі, а не настаўнікі, гасільнікі, а не свяцільнікі, імпастыры (ілгуны.— **У. К.**), а не пастыры, епіскаты, а не епіскапы, адступіліся ад закону волі Божай, абдурманілі душы свае праклятаю мамонаю гэтага свету, спакусілі прыпраўленаю машкарою Хрыстовыя авечкі, зацьмілі заразлівым сваім нядбальствам яснасць Евангельскага свету. Што будзеце рабіць у той час, калі будзе адабраны ад вас вінаграднік і аддадзены іншым работнікам, а вы, злыя, няшчадна знішчаны будзеце? Што скажаце, калі вам будзе адмоўлена? Вы з'яўлееся сынамі бацькі вашага д'ябла, ідзіце, праклятыя мною, не ведаю вас! Што адкажаце, калі моўлена будзе: «Звязаўшы ім рукі і ногі, укіньце ў цемру бяздонную — там будзе плач і скрыгат зубоў»?! Гора вам будзе, сыны мае, у той час, гора і мне: вам, што будзеце цярпець нязносныя мукі, і мне, калі буду глядзець на вечную вашу згубу. О, епіскапы, епіскапы, сыны, якія пагардзілі айцом і маткаю, дзеці, народжаныя і выхаваныя ў царскіх палатах, а цяпер да корчмаў і шалашоў сваёю воляю прываблены. Дакуль вы будзеце спаць сном ляноты? Дакуль гнюсу нядбальства ад вачэй сэрцаў вашых не абатрэце? Прыйдзіце да чатырохпаточных вод Евангельскіх прарокаў і абмыйце гразь прастаты вашага розуму! Хіба ж вам яшчэ мала той каштоўнай страты, якую я зношу, дзякуючы вашаму нядбальству; такую вялікую золата, серабра, перлаў і дарагіх каменняў, якімі я Айцом вашым на працягу колькіх дзесяткаў гадоў як найслаўнейшая каралева была аздоблена, згубу?

Дзе зараз той каштоўны каменьчык, як свяцільнікззяючы карбункул, які з паміж іншымі перламі, як сонца паміж зорамі, у кароне галавы маёй насіла — дом князёў Астрожскіх, які бляскам светласці старажытнай веры сваёй над усімі іншымі свяціў? Дзе і іншыя дарагія і таксама каштоўныя той жа кароны каменні, дабрародныя рускіх князёў дамы, неацэнныя сапфіры, бясцэнныя дыяменты, княжаты Слуцкія, Заслаўскія, Збаражскія, Вішнявецкія, Сангушкі, Чартарыйскія, Пронскія, Ружанскія, Саламярэцкія, Галаўчынскія, Крошынскія, Масальскія, Горскія, Сакалінскія, Лукомскія, Пузыны і іншыя без лічбы, якіх пералічваць паасобку была б доўгая справа? Дзе пры гэтых і іншыя неацэнныя мае скарбы, радавітыя, гавару, слаўныя, вялікадумныя, моцныя і старадаўнія, ва ўсім свеце ў добрай пашане, праслаўленыя адвагаю і мужнасцю народу рускага дамы — Хадкевічы, Глябовічы, Кішкі, Сапегі, Дарагастайскія, Войны, Валовічы, Зяновічы, Пацы, Халецкія, Тышкевічы, Корсакі, Храбтовічы, Трызны, Гарнастайскія, Бокіі, Мышкі, Госкія, Сямашкі, Гулевічы, Ярмалінскія, Чалганскія, Каліноўскія, Кірдзеі, Загароўскія, Мялешкі, Богавіціны, Паўлоўскія, Сасноўскія, Скуміны, Пацеі і іншыя? Не ўспамінаю тут шырокай у межах Расійскай зямлі княстваў і паветаў шаты маёй, убранай незлічонымі перламі і рознага колеру каменьчыкамі, якімі я заўсёды сябе ўпрыгожвала. Аднак жа вы мяне, злачынцы, з такой пышнай шаты маёй абдзёрлі і над бедным целам маім, з якога вы ўсе выйшлі, здзекуецеся смехам і кпінамі. Але праклятых кожны, хто адкрывае на знявагу голае цела сваёй маці, праклятыя і вы, што з нагасці маёй насміхаецеся і пацяшаецеся. Прыйдзе той час, калі вы ўсяго гэтага саромецца будзеце. Лепей было б вам і сапраўды было не пазнаваць светласці праўды, чым, пазнаўшы яе, адкінуць, загасіць і заглушыць. Хіба ж ты пастыр, што пастырствам сваім ганарышся, а згубай авечак абражаеш Бога?! Які ж ты святар, што выхваляешся сваім пасвячэннем, а адракаешся памазання святасці Божай?! А ні жыццё, а ні звычаі, а ні абыходжанне, а ні адзенне не сведчаць пра вас як пра абраных. Ні мудрасць, ні навука, а ні размова пра пасвячэнне і пастырства вашае — не сведчаць. У жыцці вы карчмары і купцы, у звычаях — дамаседы, у размове — невукі, у абыходжанні — крывадушныя лісы, у адзенні — драпежныя ваўкі! Што ж я скажу яшчэ пра прыкметы вашага розуму? Мудрасць ваша, уменне, размова — бязглуздыя, марныя і распусныя, забавы — непрыстойныя, у якіх і вы самі, і тыя, што вас пераймаюць,— гінеце. А для чаго ж праз Бога з'яўляецся святаром? Для чаго ж пастырам? Пасланы іншых пасвячаць, а ты сам ад ног да галавы абгаджаны ляжыш. Нагляд за пастырствам табе даверана, а ты сам змучаны голадам здыхаеш. О, свяцілелю, з усіх бакоў абгаджаны! О, пастыру, з голаду струхлелы! Які ж ты свяцільнік тым, што знаходзяцца ў цемнаце прастаты? Якое ж ты вока, што не даеш пазнаць святога Евангелля заслепленым?! Ты ж — тая рука, што падводзіць у бездань улады сатаны ўпаўшых. Калі Бога няўважныя сыны не баіцёся, хаця б пасаромейцеся людзей! Бо чалавечай крэўкасці ўласціва падзенне, але, упаўшы, не ўстаць — толькі самай сатанінскай зацвярдзеласці. Хаця а адзінаццатай гадзіне годна ў вінаградніку Пана свайго паслужыце, каб з тымі, што пачалі працаваць ад першай гадзіны і цэлы дзень зносілі сонцапёк, узялі аплату. Усцешце сардэчныя ўздыханні хаця б пры канцы жыцця маткі вашай, абатрыце заплаканыя вочы радзіцелькі сваёй, каб калі-небудзь крывавыя слёзы яе не ўпалі на вас, а лямант маці вашай вас не згубіў. Не тытулам, але самою справаю паклпадайце быць старамі, не слоўцам, але ўчынкам старайцеся быць настаўнікамі. Каму ж я гэта гавару, да каго ж я звяртаюся? Да жалезнай сцяны, ці я іх на вецер пускаю? Бо калі я ім пра тое гавару, быццам бы размаўляю са спячымі, якія на канцы аповяду пытаюць: «Ты штось гаварыў?» Лепей бы мне было сапраўды соль і руду жалезную ў нетрах насіць, чым з бессаромнымі злаcліўцамі і непакорлівымі сынамі размаўляць.

Каму ж ад гэтага бяда? Мне. Каму гора? Мне. Каму цяжка? Мне. Каму пакуты? Мне. Я — пагарджаная, я — зняважаная, я — выгнаная, я — абылганая. Бяда і вам, што пагардзілі мною, гора і вам, што зняважылі мяне, цяжка і вам, што мяне выгналі, пакута і вам, што мяне абылгалі. Бо сыноўняя бязбожнасць — непачцівасць да бацькоў. А матчына праклёнце — пагібель сынам. Дасціпны сын, адзін раз пачуўшы мудрае слова, ухваліць яго і прыме. А вы, дурні, пастаянна слухаеце мае словы, але яны вам не падабаюцца, і назад іх адкідаеце. Гавару вам мудрае слова штодзень з прарокаў, гавару вам з апосталаў, нарэшце, і збавеннаю Пана нашага і Бога Евангельскую навуку заўжды кладу перад вамі. Гэта тая самая мудрасць, якая гэтага свету розумы ў глупства ператварыла і без якой ніхто мудрым не быў і не мог ім называцца, набыццё якой ёсць больш вартае, чым купля за золата і срэбра. Яна каштоўнейшая, чым перлы, дарагія каменні і ўсе гэтага свету імені. Па яе правіцы — доўгалецце, а па левым баку — багацце і слава. Дарогі яе — дарогі прыгожыя, а ўсе сцежкі — спакойныя. Тым, хто ёю загараецца,— будзе дрэвам жыцця, а тыя, што здабылі яе,— будуць благаславёны. Гэта я вам на кожны дзень утлумачваю. Дзень і ноч аб гэтым я вас прашу. Хто ёсць найменшы між вас, няхай прыйдзе да мяне, і тыя, што хочаце розуму,— ідзіце самі, ешце ж мой хлеб і піце віно, якое я вам згатавала. Адкіньце дзяцінства і будзеце жывымі, хадзіце па шляхах праведных і вечна будзеце царстваваць. Але скажа хто з сыноў маіх: «З-за чаго ж такім строгім гневам распалілася сэрца маці нашай? Чаму так гарачліва на дзетак сваіх наракае? За што такім заразлівым праклёнцем сябе і нас, сыноў сваіх, абцяжарвае? Не ўласціва гэта мацярынскай літасці, бо ведае добра, што немагчымая рэч знайсці між людзьмі чалавека без граху: усе той недахоп церпім, усе носім ярмо той няволі, бо не адзін не можа быць без граху — толькі сам Бог».

Лепей бы мне было ісці разам са сваімі дзеткамі, і лагоднейшы спосаб для наракання змагла б знайсці. Бо я не з'яўляюся мачахаю, але — маткаю, і мы не пасынкі, а сыны. Розгі трэба было ўжыць для пакарання, а не жалезную палку, хатняе прабіранне, а не ўсяму свету агалошанае праклёнце. Якая ж маці і калі пачцівасць дзетак сваіх асуджала? Якая ж радзіцелька праклёнцем сваіх сыноў Сатане на знішчэнне душы і цела аддавала? Гэта не толькі мацеры, але мачасе не ўласціва. Што ж я на гэта адкажу? Адкуль здабуду словы? Даў бы то Бог, каб не мела што адказаць. Лепш бы мне сапраўды па нагавору знаходзіцца ў тым, пра што гаварыла, чым на самай справе. Аднак цяжка мне праз тое, што ўсё гэта праўда, пра што гавару, што не выдуманы аповяд, які тут прыводжу, пра што лепш бы мне было маўчаць: само іх праўдай пераможанае сумленне павінна сведчыць. Бо сам толькі Бог без граху, а ўсе людзі — падлеглыя граху. Хто ж таго не ведае?

Створаныя па вобразу і падобнасці таго, хто парадзіў Адама, і, аднак, у незаконнасці пачатыя і ў грахах нарадзіліся. Хоць жа вас, што былі ў гань-

(Заканчэнне на 20-й стар.)

Працяг. Пачатак у № 12 за 1990 г. і ў № 1 за 1991 г.

*Да 115-й гадавіны Цёткі*

# „ТОЛЬКІ ПАТРЭБНА

Маё жаданне прапанаваць чытачам «Беларусі» матэрыял, звязаны з самым складаным перыядам жыцця і творчасці Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч, абумоўлена найперш нагодай — 115-годдзем з дня нараджэння адной з самых знакамітых дачок беларускага народа, чыё імя назаўсёды ўвайшло ў скарбонку нашага нацыянальнага Адраджэння.

Не, я не буду тут аналізаваць Цётчыны творы. Ведаем мы ў асноўным і пра падзеі 1905 года, у кузні якога выкаваны і загартаваны, бадай, самыя палымяныя Цётчыны вершы. Пра іх шмат што гаварылася. І ўсё ж спадзяюся, што выпіскі з Абвінаваўчага акта, складзенага па справе рэвалюцыйнай арганізацыі Нова-Вілейскай псіхіятрычнай лячэбніцы, дзе Цётка працавала якраз у 1905 годзе, дапоўняць наша ўяўленне пра саму эпоху, пра дух таго часу, а значыць — і пра саму Цётку. Гэты дакумент знаходзіцца ў Віленскіх архівах адваката Фадзея Урублеўскага (F — 155 — 332) і ў пэўным сэнсе — не для шырокага кола чытачоў. Заклікаю толькі да аднаго — засяродзіцца не толькі на фактах, але развінуць сваю фантазію, намаляваць панараму руху, пачуць голас і дыханне таго жыцця, сягнуць думкамі значна глыбей канкрэтнай падзейнасці, зразумець сапраўдныя духоўныя парыванні і надзеі людзей на лепшую долю. Не выпадкова першая легальная беларуская газета, народжаная заваёвамі рэвалюцыі 1905 года, называецца «Наша доля».

І яшчэ хачу, каб тое, што доўга называлася рэвалюцыйнасцю Цёткі, цяпер зразумелася па-сучаснаму, з філасофскаю і гістарычнаю глыбінёю таго агульнага нацыянальнага Адраджэння, у полымі якога так зырка ўспыхнулі нашы лепшыя таленты. І калі цяпер зноў і зноў гавораць пра Цётку, як пра паэтэсу-рэвалюцыянерку, я хачу дадаць: яе рэвалюцыйнасць зусім не ў тым, што Цётка пісала вершы рэвалюцыйнага зместу і нават сама была ўцягнута ў вір рэвалюцыйных падзей. Яе рэвалюцыйнасць выцякае з глыбіннага народнага імкнення да сонца волі і культуры, нацыянальнай сталасці. Яна — у самой чалавечай прыродзе, у празе чалавечай натуры вызваліцца з ланцугоў цемры і ўціску, якімі б бутафорнымі кветачкамі і каляровымі стужкамі гэтыя ланцугі не былі ўвіты. Вось адкуль яна, Цётчына рэвалюцыйнасць. Аднак — прывяду дзе што з названага дакумента.

«У другой палове 1905 года ў Віленскай акружной псіхіятрычнай лячэбніцы... сярод служачых утварылася злачынная арганізацыя для насільнага пасягання на існуючыя ў Расіі галоўныя законы «образа правления» і для «ниспровержения» існуючага ў дзяржаве грамадскага ладу. Сродкамі для дамагання мэты арганізацыя абрала: 1. Прапаганду сярод служачых і рабочых бальніцы, сярод сялян навакольных вёсак, сярод рабочых і жыхароў горада Нова-Вілейска; 2. Наладжванне ў будынку лячэбніцы публічных мітынгаў... 3. Утварэнне сярод служачых лячэбніцы баявой дружыны, здольнай аказаць у выпадку неабходнасці ўзброенае супраціўленне дзяржаўным уладам; 4. Наладжванне забастовак на суседніх заводах Поселя і Мозера і ў Кучкурышскай царкоўнапрыходскай школе; 5. Распаўсюджанне пракламацый рэвалюцыйнага зместу сярод рабочых, сялян, вайсковых чыноў і жыхароў Нова-Вілейска. Згодна паказанняў дапрошаных асоб членамі злачыннай арганізацыі былі: урачы лячэбніцы Іосіф Аптэкман, Яўгеній Клевезел, Міхаіл Казінцаў, жанчына-доктар Яўгенія Янушэўская, бібліятэкарша Яўгенія Кобжава... былая фельдшарка лячэбніцы Алаіза Пашкевіч».

(У спісе акта яшчэ некалькі чалавек, агароднікі, слесары, тынкоўшчыкі, рабочыя.— **В. К.**)

«Злачынная дзейнасць» кожнага з членаў арганізацыі складалася з наступнага:

Доктар Іосіф Аптэкман быў арганізатарам і кіраўніком, вербаваў новых членаў і наладжваў мітынгі ў будынку лячэбніцы, быў на іх старшынёю і кіраваў спрэчкамі. На адным з такіх мітынгаў ён заявіў, што дзверы лячэбніцы пад час мітынгаў адчынены для ўсіх, і сапраўды, на мітынгах прысутнічалі не толькі служачыя, але і сяляне навакольных вёсак...

Калі дырэктар лячэбніцы Хардзін на адным з пасяджэнняў савета ўрачоў падняў пытанне пра тое, што лячэбніца не можа быць месцам для наладжвання мітынгаў з палітычнаю афарбоўкаю, урачы запярэчылі яму, маўляў, лячэбніца не можа не прыняць удзелу ў вызваленчым руху і павінна «служыць грамадскаму руху і залаю, і тэлефонам, што злучае лячэбніцу з горадам»...

На мітынгах... выступалі як члены арганізацыі, так і запрошаныя асобы. Так, напрыклад, на мітынг прыязджалі з Вільні памочнік прысяжнага паверанага Эльяшаў, доктар Дамашэвіч, якія ў сваіх прамовах заклікалі да ўзброенага паўстання і звяржэння дзяржаўнага ладу... Сам Аптэкман заявіў: «Самадзяржаўе трымціць, яшчэ адзін напор, і ўсё будзе зломлена, я сам — адзін з тых, хто адпакутаваў (пострадал), быў у Сібіры з-за таго, што змагаўся за свабоду...»

Далей у Абвінаваўчым акце пералічаюцца прозвішчы ўсіх дапрошаных і сярод іх названы Альфонс Вінча. Таму прывяду тут адзін запіс з Метрычнай кнігі Васіліскага касцёла Лідскага павета:

«23 мая 1865 года вянчаліся дваране: Сцяпан Пашкевіч, 25 гадоў, юнак з ваколіцы Пяшчына, і Ганна Вызга 18 гадоў з фальварка Тарэсіна. Бацькі маладых: Войцах і Ганна (з Вінчаў) Пашкевічы; Іван і Караліна (з Яцэвічаў) Вызгі». Прозвішча Вызгаў даследчыкам жыцця Алаізы Пашкевіч добра вядома. Прозвішчы ж Яцэвіч і Вінча ў радаводнае кола Цётчынай радзіны ўводзіцца ўпершыню. Але, як кажуць, лепей позна, чым ніколі.

Аднак вяртаюся да названага Абвінаваўчага акта.

«Згодна паказанням сведкі Соф'і Лістоўскай з жніўня 1905 года на кватэры Клевезела штодзённа па вечарах пачалі збірацца дактары, слесары Пятроў, Павел Грыгор'еў Лыкаў, памочнік садоўніка Барткевіч, рабочыя Памеранцкі, Ракоўскі, Крочак, фельдшарыца Пашкевіч і іншыя асобы; на гэтых вечарах яны вялі між сабою перамовы, з якіх сведка заключыла, што яны паставілі мэтаю пераўтварыць, «преобразовать» існуючы лад і ўтварыць рэспубліку.

Затым, як паказаў сведка Карл Краўцоў, восенню доктар Козінцаў і студэнт Падвельзер сабралі ўсіх ніжэйшых служачых і рабочых у рабочы клуб і там сумесна абмяркоўвалі пытанні пра наладжванне ў лячэбніцы мітынгаў... Арганізацыя не абмяжоўвалася аднымі толькі словамі, а пастаралася ўтварыць у лячэбніцы баявую дружыну каля 100 чалавек для актыўнай барацьбы з контррэвалюцыяй, для супраціўлення ў выпадку неабходнасці дзяржаўным уладам. Дружына была сфарміравана з рабочых і ніжэйшых служачых лячэбніцы, якія былі ўзброены рэвальверамі, сякерамі, жалезнымі прутамі, пружыннымі нагайкамі і кіямі, прычым кожнаму з членаў гэтай дружыны было прадпісана, што менавіта з гэтага ўзбраення ён павінен узяць у выпадку трывогі. Дружына выступала з лячэбніцы тройчы...». «13 снежня перад яе выступленнем доктар Козінцаў запрашаў служачых свайго аддзялення пайсці разам з дружынай... Апынуўшыся ў горадзе, дружына закрыла завод Поселя, фабрыку Мозера і Кучкурышскую царкоўнапрыходскую школу... Калі ж вярталася да лячэбніцы, то заспявала рэвалюцыйную песню «Вставай, подымайся, рабочий народ».

Пра дзеянні гэтай дружыны даволі падрабязна пішацца ў дакументальнай аповесці Лідзіі Арабей, таму, думаю, не варта яшчэ раз да гэтага вяртацца. Аднак некаторыя моманты тых падзей усё ж нагадаю, звяртаючыся да сухой, але даволі канкрэтнай мовы судовай справы. «19 снежня 1905 года Яўгенія Янушэўская разам з доктарам Козінцавым прапаноўвалі служачым лячэбніцы ў знак пратэсту супроць арышту дактароў і некаторых служачых наладзіць забастоўку...». «Яўгенія Кобжава, згодна паказанняў Сцяпана Дзёміна, пастаянна бывала на сходках, выконваючы ролю «сакратара арганізацыі»... На адным з такіх сходаў яна гаварыла прысутным: «Не патрэбен нам стары Бог, не патрэбны цар, не патрэбны цяперашні ўрад, мы хочам стварыць дзяржаву новых парадкаў, хочам стварыць рэспубліку...»

«Алаіза Пашкевіч, згодна паказанняў сведак Сцяпана Дзёміна і Соф'і Лістоўскай, прыймала ўдзел у сходах арганізацыі... На мітынгах, якія адбываліся ў лячэбніцы, яна гаварыла прамовы на беларускай мове, заклікаючы слухачоў не павінавацца ўладам, не плаціць падаткі, весці барацьбу супроць ураду... Прычым, згодна паказанняў Міхаіла Бояра і Антона Пузыркевіча, яна друкавала на беларускай мове «порицавшие царя прокламации» і раздавала іх у лячэбніцы. Пузыркевіч заявіў, што ён аднойчы бачыў у яе каля 100 экзempляраў такіх пракламацый. Не абмежаваўшыся агітацыяй у сценах лячэбніцы, Пашкевіч ездзіла разам з іншымі дактарамі па навакольных вёсках, дзе падбухторвала сялян да «ниспровержения общественного строя»...

Гартаю яшчэ адзін Абвінаваўчы акт па Нова-Вілейцы, згодна якому пад суд аддаюцца доктар Казімір Сыліванові і жыхар Нова-Вілейкі Сцяпан Наневіч. Справа гэта — пра агульную забастоўку фабрычных і чыгуначных рабочых 12 снежня. Яшчэ адно сведчанне таго, што дактары і служачыя лячэбніцы па сутнасці кіравалі амаль усімі рэвалюцыйнымі выступленнямі ў Нова-Вілейцы. Прынамсі, і па гэтай справе праходзяць амаль усе ўжо вядомыя нам члены арганізацыі, у тым ліку Кобжава, Пятроў і Лыкаў. На два апошнія прозвішчы звяртаю асаблівую ўвагу, аб чым скажу пазней. Цяпер жа яшчэ некалькі выпісак з першай судовай справы:

«Згодна паказанням, Пятроў прымаў удзел у тым выступленні баявой дружыны, калі ёю былі зачынены Нова-Вілейскія фабрыкі. Акрамя таго, ён у ліку служачых падпісаў петыцыю дырэктару лячэбніцы Хардзіну, у якой пад пагрозаю палітычнай забастоўкі патрабавалася, каб ніхто ў лячэбніцы не быў арыштаваны, каб з лячэбніцы «удалился» ураднік Мароз, іначай, як гаварылася ў петыцыі, «мы з ім самі справімся».

Пятроў быў арыштаваны 18 снежня 1905 года, прычым у кішэнях салдацкага шыняля, у якім быў тады Пятроў, знойдзена названая петыцыя і рэвалюцыйны верш «Варшавянка». 23 снежня тым жа прыставам быў зроблены вобыск у пакоі, дзе пражываў Пятроў разам з Лыкавым і іншымі рабочымі, прычым у замкнёным сундуку знойдзена 18 экземпляраў пракламацый пад назваю «Братья солдаты!», «Призывные» — 2 экз., «Якая карысць народу з выборнага правіцельства» — 5 экз., паперка, на якой запісаны тэкст злачыннага зместу: «Отче наш Российского народа».

«Павел Лыкаў належаў да ўтворанай арганізацыі, уваходзіў у баявую дружыну... Ён хаваў у сябе цэлыя пакункі пракламацый, раздаваў іх служачым лячэбніцы, рабочым і асобам, якія прыходзілі ў лячэбніцу на мітынг, калі наведвалі хворых, жыхарам Нова-Вілейкі і сялянам, а таксама расклейваў іх як у самім будынку лячэбніцы, так і на вуліцах... Сваю злачынную дзейнасць Лыкаў распаўсюджваў таксама і на навакольныя вёскі, некалькі разоў бываў у в. Грыгойцы разам з Пятровым і іншымі, прычым яны абыходзілі сялянскія хаты, чыталі сялянам пракламацыі і падгаворвалі іх не плаціць падаткаў...»

Абвінаваўчы акт, урыўкі з якога я прыводжу, напісаны на 59 старонках і прывесці яго поўнасцю тут няма магчымасці, мяркую, чытач ужо ўяўляе настрой і змест гэтага дакумента. І ўсё ж не ўстрымаюся і прывяду адну мясціну — пра таго ж Лыкава.

«23 снежня ў тым пакоі, дзе жыў Лыкаў разам з Пятровым, у ложку Лыкава пад пасцеллю і падушкаю былі знойдзены пракламацыі



«Братья солдаты!», «К солдатам», «Письмо ефрейтора к солдатам», «Что хотят люди, которые ходят с красным флагом», брашура «Сословие, класс, партия», сач. Агарова... У адтуліне, праз якую праходзіць труба паравога ацяплення, знойдзена 8 баявых рэвальверных патронаў у каробках...»

У заключэнні акта паведамлялася наступнае:

«Яўгенія Янушкевіч, Падвельзер, Юлія Веман, Алаіза Пашкевіч, Таццяна Красінская, Пётр Крочак і Адольф Карамзін «скрылись и разысканы не были».

Абвінаваўчы акт быў складзены 22 снежня 1908 года. Як ведаем, Цётка ў гэты час ужо была ў Галіцыі і хадзіла па вуліцах старажытнага Львова, куды ёй дапамог выехаць вядомы львоўскі этнограф Іларыён Свянціцкі.

Так, становішча, што склалася ў Нова-Вілейцы дый ва ўсёй Віленскай губерні ў 1905 годзе, дзякуючы, акрамя ўсяго, і гэтай судовай справе мы можам уявіць.

І ўсё ж гэтае ўяўленне будзе няпоўным, калі я не прывяду яшчэ адзін дакумент, які ў архівах Фадзея Урублеўскага далучаны да ўсёй Нова-Віленскай папкі пратаколаў і допытаў. Маю на ўвазе «Извещение следственной комиссии при Елецкой Группе П. С. Р.», які прыводжу на мове арыгінала:

«Следственная комиссия по делам политической неблагонадежности лиц, входящих в партийные организации при Елецкой группе П. С. Р., фактически установила, что бывший член Виленской боевой организации Павел Лыков (спадзяюся, цяпер зразумела мая зацікаўленасць дзейнасцю Паўла Лыкава ў Нова-Вілейцы.— **В. К.**), проживающий последнее время в гор. Ельце и имевший одно время сношения с Елецкой группой П. С. Р., ныне вошел в сношение с жандармской полицией и начал свою провокаторскую деятельность. Всех лиц, не сочувствующих деятельности Азефов больших и Азефов в миниатюре — «Павлов Лыковых», просим, если есть возможность, предупредить партийные организации П. С. Р. в других городах. Особенно необходимо предупредить товарищей в г. Вильне..., где Павел Лыков пока известен как партийный товарищ и где для него имеется широкое поле деятельности.

15 декабря в Вильне будет разбираться дело Виленской боевой организации. По этому делу в качестве обвиняемого привлекается так же Павел Лыков, поэтому необходимо в первую очередь предупредить виленских товарищей о деятельности Лыкова, дабы дать им возможность в случае оговоров Лыкова отвести последнего от суда, как агента охранного отделения. Елец, 15 ноября 1909 г.»

Не рашуся каменціраваць гэты дакумент, хаця, мяркую, у свой час ён мог трапіць і ў рукі Цёткі. Магу толькі здагадвацца пра яе думкі і пачуцці. І тады, як і цяпер, побач з высакародствам і безаглядным адчайнай мужнасцю межавалі подласць, слабасць і здрада. І ў гэтым сэнсе той час, як і цяперашні, становіцца для мяне больш зразумелым.

Большасць Цётчыных вершаў напісаны менавіта ў той час, а гэта недзе восемдзесят пяць гадоў назад. Аднак здаецца, што напісаны яны нядаўна і гучаць зваротам паэтэсы да цяперашняга пакутлівага адраджэння Беларусі: «Ах, браце, важны момант прыходзіць, важну ахвяру прыдзецца даць: на небе сонца шчасця ўсходзіць, толькі патрэбна хмары прагнаць».

І ўсё ж закончыць гэтае літаратурна-архіўнае эсэ хочацца на іншай ноце. Таму прывяду ўрывак з Цётчынага верша «Лес» — гэтага сапраўды паэтычнага шэдэўра, які вельмі люблю:

Высокі лес, шумі-скрыпі,
Расу хавай,
У раку ўлівай;
Грыбы расці,
Не дай цвісці
Жалобным кветкам.
Нясі палеткам
Свой доўгі дзень,
Кладзі на пень
У гірлянды мох,—
Сцялі пасцель,
Каб кожны мог
Прылегчы спаць...

Прызнаюся, нямала думала пра тое, што ж самае важнае ў паэзіі Цёткі, пакуль неяк не ўспыхнула ў душы тое адкрыццё: «Граюць арганы!» Вось яно, сутнаснае ў яе вершах — іх арганнае гучанне, што ўзносіць Цётчыну душу да вяршынь ідэалу. І ніколі ўжо не сціхне ўва мне гэтае яе велічнае, гэтае боска-арганнае...

І тады спасцігла з душэўным болем, якую ж магутную паэтэсу адабраў у нашага народа неміласэрны час.

**Валянціна КОЎТУН.**

**Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.**

# ХМАРЫ ПРАГНАЦЬ"...

**Сакрат ЯНОВІЧ**



# Абразкі

## БЕЛАРУСКАМУ СЛОВУ

Беларускае слова, ты мая айчына! Мой сон ля акна цветаліпнёвага ў раніцу пчаліную. І пошум пушчы стрункахвойнай, і весялосць густа-зялёная. Ты, як дзяцінства, ідзеш за мною.

Слова матчынае, ты мая сляза! Мая трывога ў вечары кахання чыстаквяцістага, у садзе юнацтва. І чарнабровы позірк дзяўчыны, і бяссонне зорнае. Паўстаеш у даляглядзе нязбытым.

Слова роднае, суме мудры! Радасць неўгамонная, што часам лунае вясёлкаю на небе краіны майго прызначэння. Ты няспешна павучаеш мяне жыць сваім розумам і гасцінцам ісці шырокім праз гады ўсяго раз адзін дадзеныя. Ты, як той сябар шчыры, не пакінеш і ў няшчасці.

Я табе толькі, слова ты маё беларускае, веру ды кланяюся.

Бог ты мой!

Ты мая рэлігія!

## ПАХАВАННЕ ГАНДЗІ

Гандзі пашанцавала са смерцю: памірала ціха, як і жыла. Яна выбралася на той свет у пару: гаспадарка выадпаведнілася, а і сама не была ўжо зараз надта патрэбнай.

Бабы, што зайшліся на яе пахавіны, зайздравалі Гандзі. Хата стаяла, як шклянка, і новы хлеў, і гумно на два такі, і сад вялікі, не сорамна ёй, працаўніцы, за сябе перад Богам. І ўсе яе шкадуюць, і дзеці ўспамінацьмуць; нядоўга хварэла яна ў пасцелі.

Добра паміраць у гэткай сядзібе!

На прычэсаную, чысценька ўбраную нябожчыцу жальна пазіралі ўдубянелыя мужчыны, трохі з крыўдаваннем, як і тыя, хто на сваё перажытае аглядваецца без гонару...

Развіталі Гандзю не галосячы і не прычытваючы; у якімсьці задуменні, і старыя, і маладыя. А на памінках — не наліў горла нават Літровы Антак, усцяж схвалілі людзі пекненька аздоблены прычэп, на якім вязлі труну, да самых могліц, ды і трактар, што, усё роўна бы знароўлены смутэчаю конь, псаваўся (каля кузні Лапы выменялі ў ім шворань). Нявестка плакнула над магілкаю Гандзі, прыемна было глядзець,— неяк далікатна, з тонкім уздрыгам барады, высаканогая і ў сукні з каштоўністае чэрні, у лакерыцах і ў амэрыканскім парыку з кудзеркамі, пад вэлюмікам. Сын жа, што і казаць: выліты дырэктар (вылюдзіўся ён на кантрактацыях цялят).

Адбылося, як у тым кіно пра панскія маёнткі.

Па Гандзі змуравалі — потым — помнік, з анёлкам па-над крыжам; беластоцкі каваль збіў жалезны платок, накляпаў на яго ружаў з бляхі. Поначы загараецца там лямпачка, ад акумулятара з аўтаматычным выключальнікам.

Гандзі няма чаго наракаць: спазнала бяды, але і раскошы ўрэшце!

Хто ж гэта калі бачыў, каб на нашай вёсцы чалавека так хавалі?

Гандзю першую.

## АДНОЙЧЫ

Было адліжна.

Юзік сышоў на ўскрай тратуара. Ступаючы па нерастаптаным і таму як бы сушэйшым снезе ён адчуваў, што нагам у благіх чаравіках рабілася ўсё цяплей (яны са свіное скуры).

Ад аўтобуснага вакзаліка пахацела смажанай рыбаю, з забягалаўкі. І лепей не глядзець у канцавіну Юравецкай, дзе ўзвышаліся новабудоўлі і разбудаваліся местачковыя хаты, з якіх Юзіку пылілі мякіннем успаміны гарадской маладосці...

У яго жыцці цяпер нешта здарылася (назваў ён гэта менавіта як — нешта). Мо таму, што зайшоў ажно сюды без патрэбы? Без чакання бацькоў з-за сінеючае пушчы, у сінім аўтобусе далёкага маршруту. З Крынак.

Чаравікі ў яго з рэдкай, свіной, скуры.

Холадна да дрыжыкаў!

Юзік прыгорбіўся. Яму аднак цікава паразглядацца. Ён не адразу ўцяміў, што чагосьці шукае... Нечага падобнага да таго, што ўжо сустрэў, зусім неспадзявана, сёння. Нешта такое, ад чаго пуста, пранізліва пуста!

Па людзях не відаць.

## ГУТАРКА З МАЦІ

Я непрабачальна доўга не мог сабрацца з часам, каб заехаць да маці. Калі, нарэшце, быў я ўжо ў дарозе, мяне чамусьці здзівіла тое, як мала змяняецца лес!

Яна не чакала мяне. Будзённа сядзелі папоцемку ў звечарэлай нашай старой хаце (бацька якраз некуды пайшоў).

Я прагаварыў з ёю да першых пеўняў.

Бацька вярнуўся падпіты і, убачыўшы мяне, неяк засаромеўся...

Ад'ехаў я позняй раніцай.

Маці наклала ў маю модную сакваяжыну «Кантыненталь» — цыбулі, буракоў, бульбы. Мне, памятаю, хацелася рассмяяцца ад таго; відаць, няшмат я тады яшчэ разумеў у жыцці.

## НАПІСАНАЕ НА ВРОЦЛАЎСКІМ ВАКЗАЛЕ

Я ведаў, што цябе даўно няма тут, у гэтым панылым горадзе, але, як бы насуперак камусьці, усё шукаў твайго позірку, ці ягонага хоць адбітку ў прывабнае прадаўшчыцы гваздзікоў ля ратушы чырвонацаглянай. Мне неяк здавалася, што я, вось, упаткаю няхай дачку тваю, пэўна гэтак жа задуменную паненку і ўжо дваццацігадовую...

Я свае Крынкі бачу, калі ў чужых далячынях апынуся!

Таму чуў — не чуў праваднікa свайго па Вроцлаве, такога сімпатычнага паляка, які, намагаючыся прыняць да сябе і яму не вельмі прыемную спадчыну прускую ў гэтай, нездаровай ды камарынай даліне Одэра, цягаў быў мяне ў касцёлы бяздарна высокія, яшчэ Пястовічаў тых, што без айчыны засталіся ў задворках Еўропы. Ды я, замест таго, каб надыхацца пахамі гісторыі трагічнае, сумотна ўяўляў пошумы ў пушчы па-над нашай Свіслаччу, у прасторах беларускіх, і перашэпты кахання вячэрняга пад кучмамі бэзаў прывулічных, і твой вобраз дзявочы ўзнаўляў,— ты не здзіўляйся! — ужо з натугаю амаль старэчаю, і паўставала ў вачах сцяжына да твае хаты, па-хлапечы снёная...

Не першы раз я ў гэткім староннi, якое магло б мне і не быць.

П'яны ад смутку, я валошку клікаў да памяці свае, сінюю, як неба, блакітную, як годнасці сімвал. (Кветку гэту палявую я прапаную ўчыніць гербам Дабрарусі шматпакутнае, усё французскі шканскай!)

Я, бадай, і не хачу цяпер ведаць таго, дзе ты менавіта жывеш, ды і стрэчы з табою, па праўдзе, зусім не жадаю. Хапае мне аднаго ўяўлення пра цябе, а можа і яно не патрэбна, бо ж я, калі моцна падумаць, быў улюбёны ў магчымую веліч прыгажосці цела і душы твае, а не ў цябе самую, рэальную. І нават баюся падумкі аб тым, хто ты зараз! Нехта можа злосліва сказаць пра мяне, што ўкахаўся я ў сваё, колішняе, каханне да цябе. На тое мне цяжка будзе запярэчыць. У словах такіх акажацца нямала праўды...

Я,— ведаеш,— так і не зразумею карыслівае шчаслівасці ў тым чалавеку, якому ўдалося перастаць быць сабою.

...З поснай палёгкаю ўнутры я сеў у вагон хуткага цягніка Вроцлаў — Беласток, які, неўзабаве, крануўся ў дарогу.

## ВЫПАДКОВАЯ РАЗМОВА

Пакірачаны сад, узіму гэта відаць.

— Мікалай, як жывеш? — я напаткаў яго ў сталярні, шукаючы каго іншага.

Мы пасталі ля акна, шырокага на ўсю сцяну.

— Бачыш — сталярую,— ён калупнуў пляскатым алоўкам у пагабляванай дашчыне.— Не наракаю, ёсць работы...— І, падумаў-

*Пісьменнік Сакрат Яновіч жыве ў Беластоку. Тутэйшаму чытачу імя яго вядома па кнізе «Сярэбраны яздок», якая выйшла ў Мінску некалькі гадоў назад. Выдавецтвам «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да друку новая кніга прозы С. Яновіча «Самасей». «Беларусь» прапануе навелы з гэтай кнігі і спадзяецца, што іранічна-дасціпная, своеасаблівая проза беластоцкага пісьменніка зацікавіць нашых чытачоў.*





шы: — Цяперака менш заказаў; сезон пачынаецца пад вялікодную пару, калі звяснее,— узнябожаны, сівеючы.

Хацелася мне сказаць яму: Мікалай. І ні слова больш, каб доўга памаўчаць з ім.

— Твае дзеці — вялікія? — неспадзявана спытаў ён у мяне.

— Ага, старэйшаму будзе пятнаццаты год,— неяк гатоўліва адказаў я яму, намагаючыся нават на ўсцешанасць. Ён стаяў з апушчанай галавою.

— Вып'ем,— сцвердзіў, неяк скрадліва зірнуўшы ў мой бок. Я не зразумеў, хоць нікога староннягa тут не было.

Ён узяў ды адчыніў аптэчку першае дапамогі, выняў адтуль бутэльку, паўлітра жытнёвае гарэлкі. Дастаў таксама жменю якоесьці закусі, пашчэрбленую шклянку...

— Недзе павінна быць яшчэ адна...— апраўдваўся перада мною.— Чорт яе кудысьці занёс!

— Мікалай, я ж не п'ю. Ведаеш,— не п'ю. Не магу, мне нельга. Хворы стаў...

— А табе — што?

— Нэрвы, браток, нэрвы!

— Плюнь на іх,— Мікалай першы раз паглядзеў мне ў вочы.— Кажу табе: плюнь! У мяне іх, думаеш, няма? — наліў гарэлкі ў шклянку.— На, бяры!

— Павер мне, Мікалай...— я прасіўся. Паказаў яму бутэлечку з лякарствамі, што насіў пры сабе.

Ягоная рука перастала тыцкаць пачостку мне пад нос, а чалавечкі вачэй пахадзілі па лацінскіх літарах на наклейцы тае бутэлечкі, потым па маім твары і заплюшчыліся.

— Ну, Бог з табою,— сказаў ён і выпіў сам. У тупым задуменні разгарнуў газетку, у якой знаходзіўся падабедак; панюхаў хлеб.

Прысеў есці.

— Ты гэта даўно так пакінуў? — запытаў у мяне наконт выпіўкі, без крыўды. У аптэчцы ж намацаў яшчэ і слоік з квашанымі агуркамі.— На, вазьмі, хоць паеш,— працягнуў акраец чарнахлеба з гатаваным мясам ды падштурхнуў да мае рукі, усё-такі апетытны, слоічак.

У гэтым ужо не выпадала адмаўляць яму.

— Спачатку цягнула да чаркі горай, чымсь да чужое жонкі,— тлумачыў я.

Не пра тое гаворым. Голас нейкі чужы. Я аціх, і Мікалай маўчаў: цямкаў мясны бутэрбродзіска, паглядаючы то ў акно, то на бутляху. Болей не наліваў — нагою адкінуў утоптаны абрэзак, і ў сонечных промнях завіравалі пылінкі, па-камарынаму заклубавалі, адлятаючы ў паласу ценю.

— Добрая сталярня ў цябе,— загаварыў я. Палягчэла мне, таму сказаў яшчэ: — Убудаваў ты яе, відную, прасторную, цёплую... Малайчына, Мікалай!

Ён не адказаў. Пашукаў адною рукою на паліцы і падаў мне чырвенную даму. Бачачы тое, што я не здагадваюся, у чым справа, адвярнуў карту: на яе другім баку ружавела голая жанчына.

— Шведскія,— сказаў пра карты. Скончыў есці, а газету, пакамечаную, шпурнуў у кут.

У яго памакрэў лоб і скроні. І нос. Падумалася, што звяры не пацеюць, калі ядуць...

Вяртаючы яму карту, я хацеў сказаць: «Глупства, Мікалай». Але сказаў іншае:

— Дзе ты знайшоў такую? Нашто яна табе?

Ён, усміхнуўшыся без сэнсу, усё роўна, бы той Паўлючук з Зубава, выцер рукі аб камбінезон, каб не папэцкаць таго, што паказваў.

Гэту чырвенную даму адкінуў ён на тую паліцу хутка і далікатна, як нешта гарачае ды смакавітае.

Больш нам не было пра што гаварыць.

Я пайшоў.

У канцы Гарадоцкае вуліцы дагнаў мяне густы снегапад, за якім сунуўся туман гнілога надвор'я.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# БАБРУЙСКАЯ КРЭПАСЦЬ

**ПЕРАЖЫЛА ШМАТ ВОЙНАЎ І СТАГОДДЗЯЎ.
ЦІ ПЕРАЖЫВЕ ЯНА НАША З ВАМІ РАЎНАДУШША І БЯСПАМЯЦТВА?**



Пасля таго, як старая сістэма Прыбалтыйскага ўмацаванага раёна, якая была створана яшчэ пры Пятры I, аказалася ў сярэдзіне значна пашыранай тэрыторыі Расійскай імперыі, перад Ваеннай калегіяй паўстала пытанне: «Як абараняць Расійскія ўскраіны, калі пачнецца вайна?» З гэтай нагоды (яшчэ ў 1772 годзе) калегія пастанавіла: узвесці шэсць новых крэпасцей на Заходняй граніцы (прыкладна па лініі: Дзінабург (Дзвінск), Полацк, мястэчка Вісціз, Оўруч (Оўруч), Рагачоў і непадалёку ад Скітак.— **А. Н.**).

Да плана зноў вярнуліся толькі ў сакавіку 1810 года.

Спачатку ў Бабруйску меркавалася ўзвесці толькі ўмацаваны фарпост, але ўжо ў дакладзе ваеннага міністра Барклая Дэ Толі Аляксандру I, ад 10 жніўня 1810 года, рукою манарха напісана: «Быць па гэтаму», г. зн. ён даў згоду на ўзвядзенне цытадэлі на беразе Бярэзіны.

Трэба адзначыць, што непасрэдна да земляных работ прыступілі 4 ліпеня 1810 года. Колькасць рабочых вядома дакладна — 1295 чалавек. Ужо 5 жніўня 1810 года да іх далучылася значная дапамога — 12 батальёнаў з рэзервовай арміі генерала Міларадавіча.

Аўтар першага праекта будаўніцтва Бабруйскай крэпасці Тэадор Нарбут. Прапанаваны ім план з'яўляўся толькі першапачатковым варыянтам і шмат разоў удасканальваўся. Аднак, нягледзячы на гэта, цар-

скі ўрад прысвоіў Т. Нарбуту чарговае воінскае званне штабс-капітана і ўзнагародзіў ордэнам святой Ганны 2-й ступені.

Крэпасць павінна была складацца з сямі палігонаў і прыбярэжнага форта, паўднёвая частка якога мела назву восьмага палігона. Агульная працягласць усіх абараназдольных франтоў асноўнай крэпасці павінна была быць 3,8 км. Унутраная частка таксама займала вялікую тэрыторыю (каля 110—120 га), прычым на тэрыторыі цытадэлі было нават размешчана больш за 250 цагляных дамоў гараджан.

Да канца 1810 года ў крэпасці з'явіліся і першыя збудаванні: салдацкая царква, двухпавярховая казарма, будынак штаба і гаўптвахта. Былы езуіцкі касцёл на тэрыторыі крэпасці быў адноўлены і ператвораны ў цэйхгауз, на руінах манастыра ўзвялі артылерыйскі арсенал.

Уваход на тэрыторыю крэпасці здзяйсняўся праз тры брамы: Мінскую, Слуцкую і Вадзяную. Сюды пачалі прыбываць вайсковыя падраздзяленні, якія павінны былі несці ў Бабруйску баявую службу. Колькасць артылерыйскіх ствалоў у цытадэлі вагалася ад 330 да 360, што з'яўлялася вельмі грознай сілай. Да гэтага часу паспелі збудаваць парахавыя склепы, сортыі (вылазачныя галерэі), харчовыя склады.

Напярэдадні Айчыннай вайны 1812 усе асноўныя ўмацаванні былі амаль завершаны, галоўным недахопам з'яўляўся дэфіцыт добраабучаных войскаў і невялікая колькасць гарнізона (пад час вядзення баявых дзеянняў у цытадэлі знаходзілася каля 4 тысяч чалавек пад камандаваннем генерал-маёра Г. А. Ігнацьева. Па плану ж патрабавалася 25—30 тысяч. Ім супрацьстаялі 12 тысяч польскіх воінаў, якія ўваходзілі ў склад напалеонаўскай арміі). Актыўных баёў пад Бабруйскам не вялося, але цытадэль на Беразіне адыграла важную ролю ў ходзе вайны: папершае, армія Баграціёна пад час свайго адступлення злучылася з асноўнымі сіламі рускіх войскаў пад Смаленскам; па-другое, рэшткі напалеонаўскіх карпусоў вымушаны былі адступаць па старой дарозе, якая імі ж да гэтага была абрабавана і спалена.

Пасля вайны 1812 года будаўніцтва Бабруйскай крэпасці працягвалася. Пашыраўся абарончы раён, было вырашана ўзвесці Нагорнае ўмацаванне (раён сучаснага фарштата). План забудовы Нагорнага быў распрацаваны ў 1818 годзе, а ўжо ў 1819 пачалося будаўніцтва.

У 1820 годзе, пасля паездкі ў Бабруйск, цар прапанаваў шлюзаваць Бярэзіну для затаплення бліжэйшай тэрыторыі пад час небяспекі. Крыху пазней (чэрвень, 1822) Нагорнаму ўмацаванню было нададзена імя Фрыдрыха Вільгельма, сябра і саюзніка рускага імператара.

У 1827 годзе ўзвялі сабор Аляксандра Неўскага. Па прапанове штабс-капітана Сарокіна ў вусці ракі Бабруйкі была збудавана вежа, да якой вёў мост-шлюз, які пад час наступлення ворагаў імгненна perакульваўся і ў хуткім часе ўсё навокал залівалася вадою. Да 1862 года на крэпасць пайшло 5 мільёнаў залатых рублёў (усяго 7.698.700 рублёў. У параўнанне: на Брэсцкую крэпасць патрацілі 5.067.961 рубель).

Крымская вайна (1853) і гераічная абарона Севастопаля (1854) яскрава паказалі, што ваенная тэхніка ў сваім развіцці зрабіла значны крок наперад і што ні адна з існуючых крэпасцей не можа лічыцца дастаткова сучаснай і непрыступнай. У 1868 годзе Бабруйская крэпасць была пераведзена з першага класа абараназдольнасці ў другі, таму што апынулася ў тыя часы ў тыле, далёка ад заходніх граніц дзяржавы, у 1886 годзе — ператворана ў крэпасць-склад, а ў 1897 годзе — увогуле ліквідавана як стратэгічная адзінка.

Але памятае Бабруйская крэпасць не толькі салёны пот салдат-будаўнікоў. Многія старонкі яе летапісу пафарбаваныя ў крывавы колер: тут спрабавалі здзейсніць свой план, вядомы ў гісторыі пад назвай «бабруйскай змовы», дзекабрысты; тут некаторыя з іх правялі жудасныя гады ў катаржных ротах, куды былі накіраваны пасля прыгавору судовай камісіі.





Менавіта тут, у казематах Бабруйскай цытадэлі, у 1920 годзе быў створаны канцэнтрацыйны лагер для палонных чырвонаармейцаў.

Страшныя падзеі адбыліся ў крэпасці ў гады Вялікай Айчыннай вайны, калі фашысцкія захопнікі наладзілі тут цэлы «камбінат смерці», дзе па неўдакладненых звестках знаходзілася ад 20—25 да 40 тысяч ваеннапалонных. Мала хто з іх дажыў да дня вызвалення. Толькі за адну ноч з 7 па 8 лістапада 1941 года ў Бабруйскай крэпасці гітлераўцы знішчылі каля 10 тысяч вязняў.

Кажуць, што вада ракі Бабруйкі ў той час доўга была чырвонага колеру...

Вось такія падзеі звязаны з самай магутнай крэпасцю Еўропы свайго часу — Бабруйскай.

Сёння цытадэль ужо не можа абараніць сябе ні магутнымі фартамі і бастыёнамі, ні высачэзнымі валамі і казематамі... Справа ў тым, што ад славутай фартэцыі амаль нічога не засталося, а што засталося, знаходзіцца ў аварыйным стане... Яшчэ год-другі і...

Не толькі час, дажджы і снягі адмоўна ўздзейнічалі на цытадэль. У 70-я гады па загаду тагачаснага камандуючага Беларускай ваеннай акругай Трацдяка былі знішчаны валы і бастыёны, засыпаны падземныя хады зносін, ператвораны ў склады і дапаможныя збудаванні іншыя ваенныя аб'екты крэпасці.

Ужо ў нашы дні ў ацалелай частцы крапасных муроў з'явіўся яшчэ адзін вельмі небяспечны вораг — будаўнікі прыватных гаражоў, якія на свае патрэбы адбіваюць вонкавы рад цаглін з казематаў і бастыёнаў. Самы моцны рад, які мураваўся на алеі, шкарлупінні яек і гліне. Не грэбуюць нашы сучаснікі нічым, і ніщто ўжо не можа іх спыніць..

Крэпасць змагаецца пакуль што адна. Але ці надоўга хопіць у яе сіл змагацца з людскім раўнадушшам і бяспамяцтвам?

**Аляксей НЕНАДАВЕЦ.**



Юрась СВІРКА



## ШУМ

Захапляцца не прыстану:
Залагоджваюць душу
Шум дажджу, і шум фантанаў,
Ветру шум, і лесу шум;

Бурны шум апладысментаў,
Што душу раскалыхаў.
Ён ацэніць непрыкметна
Хто сказаў і што сказаў;

Шум іскрысты вадаспадаў,
Што сцякаюць са скалы,
Шум і свята, і парадаў,
Шум, дзе ссунуты сталы;

Шум вясельны — не сямейны,—
Што не хмарыць вочы дню.
Шум паточны, шум мартэнны —
Шум стваральнага агню;

Шум крыві, калі натхненне
Апаноўвае цябе.
Шум бурштынная струменю,
Што з камбайна ў кузаў б'е;

І пад небам падвышэлым
Шум паводкавай вады.
І над полем апусцелым
Шум адлётнай чарады;

Хваляў шум марскіх грывастых,
Што не моўкне і ўначы,
Ды не той, што ў сэрцы часта
Вызначаюць урачы;

Дыскусійны шум, разумны,
Там, дзе ісціна відна.
Славы створанай і шумнай
Не люблю. Нашто яна?

Не чужы мне мітынговы
Шум і люд (але не зброд),
Дзе гучыць набатам слова,
Як на вечы,— пра народ.

Мне не люб шум нагаворны,
Пашлаваты той шумок,
Што кладзецца ценем чорным
На твой дзень і на твой крок.

Шум прыродны, шум стваральны
Супакойвае зямлю.
Абурае шум аўральны.
І шуміхі не люблю.

Шум люблю, вясной натхнёны.
Хай такі чаруе свет.
Шум лісцёвы, шум зялёны,
Што калісь пачуў Паэт.

■

Не ведаў я, чым пахне Перамога,
Як з пошты ліст ад брата
нёс дамоў.
Кароткаю здалася мне дарога:
«Мой брат жывы, да Прагі ён
дайшоў».

І пра вайну нічога не забыта.
Дванаццацігадоваму ў той час
Не думалася мне ні пра забітых
І ні пра тых, хто на чужыне
згас...

Чарга за хлебам асаджала краму,
Ды я не стаў: дамоў пісьмо вяло.
Там больш за ўсіх яго чакала
мама.
Тады ўсяго паўвека ёй было.

Як я хацеў туды, дзе свішчуць
кулі,
Калі мінаў зямлянку паштальён.
Мне помніцца, як плакала матуля:
«Дзе мой сынок, чаму не піша
ён?»

Быў май.
Цвіла вясна тады усюды.
Відаць, я, як парастак той,
рос.
Той дзень у сорак пятым не забуду,
Калі пісьмо з вайны ад брата нёс.

Хоць голад быў, а дыхалася лёгка,
І боль чужы не плавіўся ў вачах.
Не знаў я, што ў Баварыі далёкай
Таксама маці плачуць па сынах.

## ПАРТЫЗАНСКАЯ МАШЫНА «ЗІНГЕР»

Колькі яна перашыла
У партызанскім атрадзе —
У зямлянцы лясной —
Ватовак, паддзёвак,
Кажушкоў і штаноў,
Кубанак, перакрыжаваных
Чырвонымі стужкамі;
Сумак брызентавых
Для патронаў і толу.
З парашутаў шаўковых,
Якія на волі былі,
Сарочак яна нашывала.
Пацягвала сукном кажухі,
Каб дазорцаў зімою
Мароз не працяў.
Стрыгавала аздобы
Для абслугі шпітальнай —
Дактароў і сясцёр медыцынскіх,
Партызанскіх збавіцеляў.
Яна, як і зброя,
З якой партызаны
Хадзілі ў засаду,
Страчыла, страчыла.
Лапка яе,
Што асцерагала іголку
(Хаця б не зламалася!),
Тыя месяцы нібы замаўляла,
Дзе куля магла апячы.
Дзядзька Іван,
Які «хворую» зброю лячыў,
Глядзеў на машыну
І ў той час
Разважаў як мудрэц:
«Зінгер» не наша,
А служыць нам спраўна.
Не на вайну
Строчыць машына.
Пасля Перамогі,
Калі я слухаў рытм
Гэтай швейнай машыны,
Мне здавалася,
Што яна магла б
Выстукваць і вершаў радкі,
Якія мсціўцаў народных
Вялі б на змаганне.
І тут жа
Я схамянуўся ад згадкі,
Што нейкі вершаплёт-вынаходнік
(Пасля такой рэкламы)
Можа перацягнуць яе
Тайком у «майстэрню» сваю.

■

З першай сусветнай вайны
Вярнуўся мой бацька.
А не вярнулася —
Дзесяць мільёнаў бацькоў.

З другой сусветнай вайны
Вярнуліся два мае браты,
А не вярнулася
Пяцьдзесят мільёнаў братоў.

З трэцяй сусветнай вайны
(Замест летапісца,
Голас спаленай памяці):
«Не вернуцца ўсе зямныя мільярды
Бацькоў, і братоў, і сясцёр...»

1983.

■

Парою адліжнай,
Сакавіковай
Я снег адкідаю
Лапатай саўковай.

Крупчасты, зярністы
Кідаю, кідаю.
Здаецца, што ў садзе
Яго рассяваю.

Блішчыць снег на сонцы,
Чысцюткі, зляжалы.
Між яблынь і вішань
Чарнеюць прагалы.

На ўзмежку за хатай
Растаў непрыкметна.
Адкінуты снег
Не знікае бясследна.

Ён выблісне лісцем,
Адскочыць травою.
А ў маі — узыдзе
Краплістай расою.

■

Рака яшчэ туман не праганяе.
І ён з лагчыны сунецца сюды,
Дзе беражная навісь травяная,
Дзе свежае дыханне ад вады.

У сцішаным, лагодным булькатанні
Прымроіцца далёкія часы:
І коні, што драмалі на світанні,
Начлежнікаў прадроглых галасы.

Нідзе мякчэйшай не знайшоў
пасцелі,
Хаця і даваліся аблукаць.
Здарожаны і густа пасівелы,
Паслаўся ён ля рэчкі начаваць.

Афармленне
Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

# ЯК ДАНІЛКА НА ВАЙНУ ЗБІРАЎСЯ

ШТОМЕСЯЦ МЫ ПРАДСТАЎЛЯЕМ ВАМ, ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ, АДНАГО З НАШЫХ ЗЕМЛЯКОЎ, ВЫХОПЛІВАЮЧЫ НЕЙКАЕ ІМГНЕННЕ З ЯГО ЧАСАМ НЯЛЁГКАГА, ДРАМАТЫЧНАГА ЖЫЦЦЯ. КОЛЬКІ Ж НАС УСІХ, БЕЛАРУСАЎ! 10,3 МІЛЬЁНА ЧАЛАВЕК, ПАВОДЛЕ ДАНЫХ ЦСУ БССР НА СТУДЗЕНЬ 1991 ГОДА. А ЯШЧЭ КАЛЯ ДВУХ МІЛЬЁНАЎ БЕЛАРУСАЎ ЖЫВЕ ЗА МЕЖАМІ РЭСПУБЛІКІ, АМАЛЬ ПАЎТАРА МІЛЬЁНА ЧАЛАВЕК СКЛАДАЕ ЗАМЕЖНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЫЯСПАРА. З ІХ КАЛЯ 400 ТЫСЯЧ ЛЁС ЗАКІНУЎ У ДАЛЕКІЯ ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ АМЕРЫКІ. АЛЕ Ж І ТАМ ЯНЫ ДУШОЮ ЗАСТАЮЦЦА БЕЛАРУСАМІ І, МАГЧЫМА, СУМУЮЦЬ ПА СВАЁЙ СЦІПЛАЙ, НЕ СПЕШЧАНАЙ ЛЁСАМ РАДЗІМЕ. З ГЭТАГА НУМАРА МЫ ПАЧЫНАЕМ ЦЫКЛ ФОТАНАВЕЛ ПРА НАШЫХ ЗЕМЛЯКОЎ У КРАІНЕ ЭМІГРАНТАЎ, ДЗЕ ПАБЫВАЎ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ.



**Казённы дом, дарога дальняя... Невялікі гарадок пад Кліўлендам праводзіў салдат у далёкі, магчыма, незваротны шлях. На вайну. Слова «вайна» па-англійску простае — war. Яно ліпкім брудам застывае на вуснах. Але... Ёсць прысяга, загад і зброя. Недзе там, у Кувейце, чакае вораг. І таму развітанне з навабранцамі праз слёзы — у чалавецтва ёсць горкі вопыт. А дзеткі з брытымі патыліцамі ўткнуліся насамі ў матчыны спадніцы і — не чуваць іхніх усхліпаў. Плёскаюцца хвалі аркестравай музыкі і мора, мора сцягоў і плакатаў. «Мы вас любім і чакаем!» — крычаць тыя, хто яшчэ здольны нешта вымаўляць. Цепляцца ўсмешкі на тварах юных салдат — гэта ж іх свята. Але ў вачах пад бура-зялёнымі каскамі — трывога перад невядомым і развітальны сум. І прадчуванне крыві.**

**Данілка на хаду цалуе сваю заручоную. Пад салдацкай уніформай пульсуе паляшуцкая кроў, моцна тахкае хлапечае сэрца. У ягонай гарачай далоні — далонь любай. Ужо і пярсцёнак ёй куплены, але яна яшчэ не жонка. І мусіць чакаць. А можа вайны не будзе! Можа патухне і астыне гэты вечна гарачы Персідскі заліў! Можа яны вернуцца, не праліўшы чалавечай крыві!**

**О, каб вярнуліся! Тады б Данілка Яраховіч скончыў свой універсітэт, у новым культурным цэнтры «Полацк» сабраліся б старыя і маладыя беларусы павесяліцца на ягоным вяселлі. О, каб так было!**

**Магчыма, яшчэ па дарозе на вайну альбо ў акопе пад выбухамі Данілка адчуе бяссэнсавасць вайны і зненавідзіць яе. Народжаны па волі лёсу на чужыне, зразумее нялёгкую долю бацькоў-эмігрантаў і, магчыма, як ніколі дагэтуль, пашкадуе, што так і не ўбачыў бацькоўскую — сваю зямлю — Беларусь.**

**...А пакуль ён брава шпацыруе ў развітальным маршы і імкнецца ўбачыць надзею ў дзявочых вачах.**

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**



# У пошуках

Сёння, бадай, ужо ні ў кога няма сумненняў, што талент сам шукае сваю дарогу.

Такія думкі прыходзяць, калі знаёмішся з апошнімі творамі маладзечанскага мастака Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага.

Цяжка перадаць словамі змест карціны «Віртуальная прастора». «Віртуальны» ў перакладзе з лацінскага — магчымы; такі, што можа з'явіцца толькі пры пэўных умовах. Работа разлічана на падрыхтаванага гледача, на чалавека, які ўспрымае рэчаіснасць не толькі ў традыцыйным матэрыялістычным разуменні.

— Што ёсць свядомасць? — разважае Юрась Паўлавіч.— Толькі адлюстраванне рэчаіснасці? А што такое жыццё? Толькі асаблівая форма існавання бялковага цела? А як жа растлумачыць тады экстрасенсорыку, палтэргейст, НЛА? І хто сёння можа сказаць, што ў чалавека няма душы? Мне здаецца, што ўсе мы, людзі, толькі часцінкі нечага надзвычай вялікага, касмічнага. Часцінкі нейкай энергіі, нейкага адзінага арганізма. Складанасць у тым, што кожнаму з нас, клетачцы гэтага вялізнага, вельмі цяжка пранікнуць за межы той прасторы, у якой нараджаемся, жывём, паміраем. У «Віртуальнай прасторы» я імкнуўся перадаць сваё ўяўленне пра гэты нябачны свет. Маляваў чыста па інтуіцыі...

Юрась Паўлавіч — чалавек філасофскага мыслення. Часам у гутарцы ён імкнецца даказаць і растлумачыць нейкую ідэю не толькі суразмоўніку, але і сабе. Дарэчы, ён неяк прызнаўся, што адразу пасля катастрофы на Чарнобыльскай атамнай некалькі гадоў не мог працаваць.

Праглядваем багатую калекцыю работ Юрася Паўлавіча. Вось адна з ілюстрацый да паэмы «Бандароўна». Цішынёй і спакоем вее ад невялікага чорна-белага аркуша. Работай задаволены і сам мастак.

— Ведаеце, пра што я думаў? — гаворыць Юрась.— Пра тое, што, ілюструючы гістарычны твор, мастак усё роўна будзе маляваць сучаснасць, сваё сённяшняе разуменне гістарычных падзей. Інакш нельга. Кніжная графіка заўсёды сучасная. Я не адношуся да тых мастакоў, якія імкнуцца толькі адлюстраваць на паперы той ці іншы эпізод з мастацкага твора. Важна, перш за ўсё, зразумець сутнасць задумы пісьменніка, яго ідэю.

— Помню, прынёс Васілю Быкаву ілюстрацыі да яго аповесці «Знак бяды»,— працягвае мой субяседнік.— Васіль Уладзіміравіч напачатку нібы разгубіўся. «А што гэта такое?» — здзіўлена паглядзеў на мяне. Пасля ўважліва яшчэ раз абглядзеў малюнкі. Усё зразумеў, адобрыў.

Варта згадаць ілюстрацыі да кнігі «Выбранае» Якуба Коласа, за якія мастак атрымаў прэмію імя Францішка Скарыны, і партрэт Якуба Коласа. Народнага пісьменніка Беларусі Герасіменка-Жызнеўскі паказвае тыповым беларускім селянінам. Моцны духам, упэўнены ў сабе, працалюбівы. Адчуваецца, што яго карані ў народзе.

Ілюстрацыі Юрася Паўлавіча да кніжкі Васіля Віткі «Казкі-краскі» дэманстраваліся на выставе ў Браціславе, увайшлі ў каталог лепшых работ. Ён атрымаў запрашэнне ўдзельнічаць і ў штогадняй выставе кніжнай графікі, што праходзіць у Лондане. Высока ацэнена яго калекцыя і ў нямецкім горадзе Эслінген.

Кола пошукаў, інтарэсаў Юрася Паўлавіча не замыкаецца толькі на нейкіх асобных тэмах. Ён актыўна ўдзельнічае ў афармленні народных свят, добра папрацаваў над афармленнем горада Маладзечна перад 600-годдзем. Пастэльныя партрэты К. Каліноўскага, Я. Купалы, краязнаўца Г. Каханоўскага ўпрыгожваюць сёння залы шмат якіх школьных музеяў раёна.

Вечныя пошукі, сумненні, роздум — і работа, работа... Такое вось жыццёвае крэда Юрася Герасіменкі-Жызнеўскага.

**Дзмітрый ЛУПАЧ.**
Фота **аўтара.**





Наш вернісаж

# ісціны



● Ілюстрацыі да кніжкі В. Зуёнка «Маўчанне травы».

● Ілюстрацыя да паэмы Я. Купалы «Бандароўна».

● Ілюстрацыя да кніжкі В. Віткі «Мы будуем метро».

● Неамагнетызм.

● Віртуальная прастора.



# НЕПРЫГОЖАЯ ДЗЯЎЧЫНА

Ціха пагойдваючы на хвалях, нясе рака сплеценыя пяшчотнымі дзявочымі рукамі купальскія вянкі. Адны сплываюць удалечыню, нібы падганяюць іх думкі-мары гаспадынь як мага хутчэй пакінуць звыклыя сумныя берагі. Другія, наадварот, не спяшаюцца пакідаць родныя мясціны, падоўгу кружацца на месцы, нібы баяцца згубіць шчырыя словы дзявочай надзеі. А колькі шчасця, колькі радасці бывае, калі ў рацэ зблізяцца і паплывуць разам два вянкі: яго і яе. Але бывае інакш...

— Гэй, Мілава! Чаму ты адна? Дзе твая сяброўка? — акружылі хлопцы вясковую прыгажуню.

— А Пярун яе ведае! — смяецца ў адказ Мілава.— Відаць вас, блазнаў, спалохалася, недзе хаваецца. Але вы знайдзіце яе абавязкова, не пайду ж я адна папараць-кветку шукаць!

— Вазьмі мяне! Мяне вазьмі ў праважатыя! Са мной не прападзеш! Абараню ад любога д'ябла! — перабіваючы адзін аднаго, загаманілі хлопцы. І ніводзін з іх, безнадзейна закаханых у дзяўчыну, не спяшаўся гукаць яе сяброўку. Адно, што кожны сам спадзяваўся стаць яе спадарожнікам у гэту чароўную ноч, а другое, надта ж непрыгожа, нават злавесна, асабліва, калі падхопіць яго рэха, гучала імя яе сяброўкі — Мыш. Такое дзіўнае імя даў ёй бацька, дзікаваты млынар-удавец Мышак.

Магчыма, людзі з гадамі звыкліся б з такім незвычайным імем, дый хлопцы, заўсёды гатовыя падражніцца з дзяўчатамі, часцей называлі яго, калі б дачка млынара была вясёлай і прыгожай. Але лёс не да ўсіх бывае літасцівы: Мыш была непрыгожай.

Сказаць па праўдзе, з выгляду дзяўчына была не такая ўжо і брыдкая, але маленькія, хваравітыя вочкі, вузенькі тварык і вялікі рот быццам знарок былі створаны для таго, каб выклікаць шкадаванне ў тых, хто глядзіць на дзяўчыну. Выбраўшы Мыш у сяброўкі, Мілава спадзявалася тым самым увесь час падкрэсліваць сваю прывабнасць.

Але якім бы чалавек ні быў прыгожым ці непрыгожым, ён меў права святкаваць Купалле. Мыш таксама спляла свой вяночак з лясных рамонкаў і васількоў. Што яна шаптала над ім, чаго прасіла ў добрых купальскіх багоў — невядома. Але калі вяночак апынуўся ў вадзе, то не паплыў наўздагон за іншымі, а, пакруціўшыся нейкую хвіліну на адным месцы, пайшоў на дно. Мыш ускрыкнула і, закрыўшы рукамі твар, кінулася ў лес. Ніхто не спыніў дзяўчыну, не пабег услед — усе расступіліся перад ёю, шчаслівыя, а таму і абыякавыя да чужой бяды. Не пабегла шукаць сяброўку і Мілава — ёй было весела і без Мышы.

Мінула купальская ноч. Першыя сонечныя промні асвяцілі на ўзгорку сярод лесу дзве мужчынскія постаці. У багатай, далёка не сялянскай вопратцы. І сапраўды, купальская ноч застала ў дарозе князя Мсціслава і княжага ваяводу Барыса. Ці спалі яны, ці, як большасць мясцовага люду, шукалі цудоўную папараць-кветку, невядома, але толькі раніца нагадала ім, што іх чакаюць важныя справы. І вось ізноўку яны ў сядле.

— Што ж, Барыс, мне падабаецца гэта мясціна,— павольна гаварыў князь.— Тут і быць маўму гораду. Лес высечам, а на ўзгорку паставім палацы. Як думаеш?

— Прабач, княжа,— адказваў ваявода,— я цяпер не магу ні пра што і думаць. З галавы не выходзіць той чароўны спеў, які мы чулі ўначы. Які голас! Чысты, пяшчотны...

— Купальская ноч — ноч таямніц і цудаў. Раніцою, пасля Купалля, людзі пра свой лёс у багоў пытаюцца. Ці не хочаш папытацца і ты, ваявода?

— Што ты, княжа! Нельга мне. У мяне праваслаўны крыж на шыі.

— Дык і ў мяне ж таксама. Але я ўжо задумаў свой горад назваць імем першай жывой істоты, якая зараз сустрэнецца на маім шляху. А ты?

— А я не ведаю, што загадаць. Усе мае думкі з той, чый голас мы чулі ноччу. Яна прычаравала мяне. Розум губляю...

— Дык задумай пра сваё каханне... Калі сустрэнеш зараз сваю пяюху — абмяняешся з ёй пярсцёнкам...

І раптам зноў пачулася песня, пяшчотная і самотная:

**Гэй ты, рэчка-рэчанька,**
**Ты вярні вяночак мой,—**
**Упрыгожваць будзе ён**
**Мае косы русыя...**

Коннікі пераглянуліся.

— Багі пачулі нас! — сказаў князь.

— Яна там, ля ракі...— прашаптаў Барыс.

І абодва сцебанулі коней. Калі галіны дрэў расступіліся перад імі і вільготнае паветра ад рэчкі хлынула ў твар, яны ўбачылі тую, пра якую думалі.

— Ну, вось і твая нарачоная,— прамовіў князь.— Пад'едзь адзін. І не забудзься спытацца, як яе завуць, бо яна — першая жывая істота, што сустрэлася нам, і, значыць, яе імем я назаву свой горад.

У туманным паветры далёка чуваць любы гук. І нават росная трава не прыцішае тупат Барысавага каня. Зараз, пачуўшы яго, азірнецца дзяўчына...

— Азірніся хутчэй, мая прыгажуня! Цябе я сабраўся назваць жонкай, калі ты не прывід, не халодная русалка... Калі ёсць у цябе душа і сэрца — пакахай мяне!

Дзяўчына пачула. Спынілася. Азірнулася ў здзіўленні... Божа! Што гэта?..

Знерухомеў збялелы Барыс перад непрыгожай Мышшу. Дык вось якая яна, яго нарачоная!

Горкія, жудасныя думкі прамільгнулі ў галаве ваяводы. Ці не помста гэта старых паганскіх багоў яму за здраду? Адмовіўся ж ён калісьці ад іх дзеля Хрыста. Але калі гэта так, калі іх воля над ім яшчэ такая моцная, то нельга і думаць, каб адмовіцца ад свайго абяцання. Што рабіць? Весці гэтую непрыгожую дзяўчыну ў Храм? Над ім жа будуць смяяцца. Ды і сам ён ніколі не зможа пакахаць яе. А ці нельга абысціся без гэтага? Ён даў слова стаць яе мужам. Ён зробіць гэта, але без шлюбу. Хай будзе так! І хай бачаць тыя, хто хацеў пасмяяцца над ім: Барыс трымае сваё слова.

Малады ваявода саскоквае з каня і накіроўваецца да дзяўчыны. Ужо праз імгненне яна ў яго абдымках. Але хіба ж гэта ласкавыя абдымкі каханага? Ваявода рве на яе грудзях святочную сукенку, кудлаціць косы і нарэшце валіць на зямлю...

Ад страху перад ганьбай і абразай Мыш адчула сабе моцнай. Адштурхнуўшы ваяводу, узбегла на высокі бераг і адтуль кінулася ў ваду. На другім беразе ратунак! Шмат сілы ў слабай маленькай Мышы, але ў рацэ — яшчэ больш. І закруціла плынь дзяўчыну, і панесла, і пацягнула ў халодную глыбіню. Яшчэ некалькі разоў паказалася над хвалямі русявая галоўка, а потым — знікла.

Здалёк убачыўшы гэта і ўсё зразумеўшы, кінуўся ў ваду князь. Толькі было позна — ён вынес на бераг мёртвае цела. І збегліся людзі, і галасілі над горкаю доляй Мышы. А Барыс, зазірнуўшы ў вочы тапельніцы, засмяяўся:

— Цяпер мне няма перад кім трымаць сваё слова. Жывы жаніх з мёртвай нявестай не мяняецца пярсцёнкам.

Пачуўшы гэта, спахмурнеў князь:

— Ты пагарджаеш воляй багоў. Не думай, што, загубіўшы няшчасную дзяўчыну, можаш не выконваць сваё абяцанне. Я загадваю табе — і ты мусіш заручыцца з ёй, а інакш не прызнаю цябе больш сваім ваяводам. Ідзі куды хочаш!

І пачуўшы тое, Барыс пахаладзелымі рукамі надзеў на палец тапельніцы залаты пярсцёнак.

— Пакланіся перад сваёй ахвярай,— сурова працягваў князь,— што ніколі не назавеш іншую дзяўчыну жонкай. Я ж таксама стрымаю слова, дадзенае купальскім багам. Няхай горад, які я пабудую тут, носіць імя Мыш, а рака завецца Мышанкай...

Прайшлі стагоддзі. Але па-ранейшаму маленькае пасёлішча на Гродзеншчыне Новая Мыш носіць імя непрыгожай дзяўчыны.

Ірына **МАСЛЯНІЦЫНА.**



(Заканчэнне. Пачатак на 11-й стар.).

бах і грахах вашых, у якіх некалі хадзілі паводле веку гэтага свету і паводле князя моцы гэтага паветра, духа, які цяпер паказвае сілу ў сынах недаверства, між якімі і вы ўсе ўбіраліся паводле жадання цела вашага (выконваючы волю цела і вашых думак) і былі па паходжанню сынамі гневу; як і іншыя. Але Бог, які багаты ў міласэрнасці, па вялікай сваёй літасці, якою вас узлюбіў, калі вы былі змёрлымі ў грахах, ажывіў усіх вас у Хрысце, ласкаю якога вы збавёныя, і разам з імі ўваскрэсіў і пасадзіў разам на нябёсах у Ісусе Хрысце. І таму не варта было вам хадзіць так, як ходзяць паганцы ў марнасці сваіх думак, маючы скажоны цемнатою розум, аддаленыя ад Божага жыцця за няўменне, якое ім уласціва з-за засляплення сэрца іх, якія, упаўшы ў роспач, падаліся самі ў распусту, каб чыніць усё нячыстае і грэшнае. Але вы не такому навучыліся ў Хрыста, калі яго слухалі і калі ў ім навучаныя, каб з сябе зложылі, паводле ўчынкаў, старога чалавека, які псуецца з-за аблудных жаданняў, і каб аднавіліся духам розуму вашага і ўвасобіліся ў новага чалавека, які створаны паводле Бога і жыве ў справядлівасці і святасці праўды. Бо як праз адступнасць аднаго чалавека Адама на ўсе людзі прыйшло асуджэнне на смерць, гэтаксама праз справядлівасць аднаго чалавека Ісуса на ўсе людзі прыйшло збаўленне ад смерці.

Я ж тады вас нарадзіла па вобразу і падобнасці другога Адама Ісуса, які мяне абраў сабе каханаю і выдаў сябе за мяне, каб мяне асвяціць, ачысціўшы амыццём вады ў слове жыцця. І чаму ж я, будучы чыстаю і святою, як жа вас нячыстых і праклятых спарадзіла, тым жа вас ачышчаючы і асвячаючы, чым і сама ачышчаная і асвечаная, вадою, гавару, і Духам, якімі калі хто адроджаны не будзе, сынам маім не з'яўляецца і не ўвойдзе ў царства Бога Айца, але пяройдзе ад смерці першай да другой смерці, якая горшая за першую. Не існуеце ўжо больш пад Законам, але пад Благадаццю. Тыя, хто нарадзіўся пад Законам, айцоўскі грэх за сабою цягнуць, што нараджаюцца пад Благадаццю, ужо больш не бываюць абцяжараныя ярмом граху. Я ж вас пад Благадаццю нарадзіла, а не пад Законам, на свабодзе вас выхавала, а не ў няволі, светласцю вас асвяціла, а не пакінула ў цемры. Таму трэба было вам паводзіць як сынам светласці ва ўсялякай дабратлівасці, у справядлівасці і ў праўдзе, ведаючы, што падабаецца Богу, а не звязвацца з непрыстойнымі ўчынкамі цемры, але хутчэй яе караць. Але, гаворыце, няма ніводнага чалавека без граху, апроч самога Бога, які перамог грахі свету, і быць не можа, бо і справядлівы, не гаворачы пра грэшнага, сем разоў на дзень падае,— прызнаю гэта і я. Але ж гавару і тое, што справядлівы, паслізнуўшыся, хутка, не так як вы да гэтага часу пра тое, каб падняць галаву і ўстаць, зусім не думаеце. Пануе грэх у смяротным целе вашым, каб вы былі паслухмянымі яго жаданням і выдалі члены вашыя зброі грахоўнай несправядлівасці. Вы ж павінны жыць паводле духа, а не паводле цела, бо, жывучы паводле цела, памрэце. І тыя — у Хрысце, якія і цела сваё ўкрыжавалі з захапленнямі і жаданнямі, жывучы духам, згодна духу і паступаць павінны. Няўжо не ведаеце, што ўсе мы, якія ахрысціліся ў Хрыста Ісуса, у смерць яго ахрысціліся? Бо будзеце з ім разам пахаваны Крыжом на смерць, быццам бы Хрыстос паўстаў з мёртвых праз хвалу Айцоўскую дзеля таго, каб вы таксама ў аднаўленні жыцця хадзілі, ведаючы тое, што стары чалавек наш разам з ім укрыжаваны, каб было страчана цела граху, каб мы больш не служылі граху. А калі ж каму надарыцца ўпасці ў грэх, спавядайцеся ў грахах сваіх (верны і справядлівы Пан), бо адпусціць грахі вашыя і ачысціць вас ад усялякай няправасці. Адкуль можна ўбачыць, што не грэх, але пастаяннае ў ім знаходжанне з'яўляецца прычынаю другой смерці. Калі ж хто грашыць наўмысна, то, пазнаўшы праўду,— тыя ўжо не будуць ахвяраю за грахі, але будуць мець нейкае страшнае чаканне суду і прыкрасць агню, які пажрэ ворагаў. Праз тое і мяне, засмучоную, не грахі вашы на такі спосаб прабірання ўзрушылі, але пастаянная ваша трываласць у грахах, і не толькі такое доўгае трыванне ў грахах, як штодзень зыходжанне да горшай злосці, за што вартыя карання не жалезнаю розгаю, але адрачэння і праклёну душы і цела,— годныя дубіны. Ведаю, што з'яўляюся маткаю, а вы былі маімі дзеткамі, але ж калі выракуся і адыдуся ад вас, зраблю гэта ў горкасці сэрца, пагарджу вамі, адракуся ад вас, праклянy і ўсім народам аддам на ганьбу, і ў той час не захачу а ні больш называцца маткаю вашаю, а ні быць. І яшчэ большае, калі звярнуся да свайго абранага, а да вашага айца — той вас адкіне, адрачэцца і на вечную страту знешняй цемры аддасць, дзе будуць вечныя мукі і пастаянны скрыгат зубоў. Пад той час скажаце: «Бяда той, што нас спладзіла, гора той, што нас карміла, лепей бы нам было не радзіцца, чым дастацца таму месцу вечнага адрачэння. Ах, таму дню, у які мы нарадзіліся! Гора зямлі, па якой мы хадзілі, небу, што нам свяціла! Бяда і нам, што мы пакінулі маці нашу. Цяжка і нам, што мы не слухалі загаду Айца нашага і хадзілі па волі нашага жадання». Прасіць будзеце, і ніхто не адзавецца, крычаць будзеце, а ніхто да вас не падыдзе. Бо як вы Айца вашага і Матку пакінулі, гэтаксама і ад іх адвергнутыя і ў вечную забыцця няпамяць кінутыя будзеце. Хіба ж адзін раз дома сама вас дакарала, а не публічна на рынку? Хіба ж адзін раз спакойна сама вас прасіла, каб вярнуліся да мяне? Хіба ж таксама зусім нядаўна братоў вашых да вас не пасылала, каб перапрасілі мяне, і, вашай уважлівасцю страты мае ўзнагародзіўшы, засталіся каля мяне, і праз злое маё больш не думалі? Ці не гаварыла вам пра злачынствы вашы, якімі і мяне, і саміх сябе зганілі, і ці не гаварыла вам, што недарэмна кідаецеся на мяне з завостранымі языкамі, ведаючы пра маю непераможнасць? Што ж мне ад вас за пастаянны мой клопат пра вас прыдалося? Што? Тое, сапраўды, што недзе мудрэц сказаў: «Сам сабе той крыўду чыніць, хто вучыць насмешніка. А хто граміць словам бязбожніка, сам сабе пляму здабывае». Бо гаворыце: «Мы грашылі, а што нам за тое дрэннага сталася?» Бо Пан цярплівы. А я вам сказала: «Не гаварыце гэтага — вялікая міласэрнасць Пана — злітуецца над мноствам грахоў нашых». Бо ёсць у яго літасць, але ёсць і гняўлівасць з запальчывасцю на грэшнікаў, і тое, калі раптам надарыцца, сапраўды размяце вас пад час помсты. Таму не дадавайце граху да граху, але дабрынёю дабрыню падтрымлівайце. Што ж я пакараннем маім справіла? Што ж караннем словамі ў вас збудавала? Бачу, што не толькі пра выпраўленне не думаеце, але штораз у большую злосць упадаеце. Дакуль сцены душ вашых схіляць будзеце, пасля няшчаснага ўпадку якіх, разумееце, што іх не падымеце. Але дарэмныя вашы думкі, марныя вашы роздумы, бо як толькі раптам хто-небудзь паміж вас упадзе і між тых, хто стаіць, вялікая бездань будзе, такая, што ні ім да вас, а ні вам да іх немагчыма будзе прайсці. І пад той час скончыцца справа ваша адплатаю.

А я веру таму, хто мяне пакахаў і хто сябе за мяне аддаў, што ён сам дужаю правіцаю сваёю мяне падыме і самым пільным работнікам аддасць сваю вінніцу; зрабі ж так, усемагутны Божа, перад самаю святою вялікасцю якога са страхам падаю і скрушным сэрцам і плачлівым голасам дабрыню, якую нельга выказаць, клічу.

Ты — сам Кароль вечнай пахвалы, уладыка неба і зямлі, трон якога нельга ахапіць думкаю і славу зразумець, перад якім стаіць з бояззю і дрыжаннем войска анёлаў і ўсіх нябесных царстваў, слова якога праўдзівае, а аповяды вечныя, загады яго моцныя, а расправа страшная. Той, якога погляд высушвае бездані і гнеў робіць змарнелымі горы, а праўда выдае сведчанне. Ты, гавару, той, што з усіх лясоў зямлі і з усіх яго дрэў абраў адзіную вінніцу і з усіх кветак свету абраў сабе адзіную лілею, і з усіх марскіх вiроў напоўніў сабе адзіны паток, а з усіх будаваных месцаў пасвяціў сабе сам Сіён, а з усіх нябесных птахаў назваў сабе адзіную галубку, а з усяго створанага быдла абраў сабе адзіную авечку, а з усіх народаў, што размножыліся, абраў сабе адзіны люд новага Ізраіля, гэта значыць мяне, царкву сваю, якую ад пачатку да сённяшняга дня дзіўным наглядам і неспасцігальнай глыбінёю цудаў тваіх захоўваць прывык пасярод яўных і патаемных, унутраных і знешніх ворагаў цэлаю і непарушнаю. І тым мяне здаўна і вечна прывілеем адарыць вырашыў, каб я прапаведавала ў праследаванні, памнажалася ва ўцісках, узвышалася ва ўбогасці і пагардзе гэтага свету, перамагала, церпячы, трыумфавала, крыўды і абразы зносячы, расла і буйна квітнела, акропленая пакутніцкаю крывёю, і ў гэты час найбольш тваёю дапамогаю ўзмацнялася, калі самым пэўным упадкам сыны гэтага свету з павярхоўных кан'юнктур прывыклі мне пагражаць. Ты сам і цяпер паглядзі міласэрным вокам на мяне, на жаль, які нельга выказаць словамі, на ўціск і мукі мае, і аблегчы, калі на тое воля твая, крыж, што ўскладзены на мяне, сціш плач, зміры сардэчны мой боль, што прычыняюць уласныя мае сыны. Прыйдзі з Лівану, прыйдзі мне на дапамогу, няхай засарамяцяцца і адыдуць назад тыя, што шукаюць душы маёй і вострацьна мяне бессаромныя свае языкі: ва ўсім я толькі ў табе самым давер і надзею бачу, да цябе самога ва ўсялякіх пакутах і балесцях уцякаю, бо многа дагэтуль уціскаў і праследаванняў не толькі ад чужых, але і ад тых, што выйшлі з унутранасцей маіх, нацярпелася і цяпер цярплю, аднак жа ад цябе не адступілася, не працягнула рук маіх да Бога чужога, непарушнаю за дапамогаю тваёю стала і стаю на той моцнай апоцы, на якой ты пажадаў, каб я грунтавалася. Не страціла і ніводнай аблудай і ерэтычнай заразай не спаганіла той шаты, якую ты мне сам падараваў,— з найвышэйшай тэалогіі ўтканай веры ў цябе, непадазронай, не знявечыла яе людскімі выдумкамі і новых штохвілін пераменлівымі законамі і традыцый пярэстасцямі. І хаця ж многа бязбожных і злачынных дзяцей маіх наследуюць, аднак не я таму прычынаю, але яна паходзіць з іх крывадушнага розуму, з іх недаверства, з іх пыхі: з іх амбіцыі, з іх схільнага да багацця і раскошы гэтага свету сэрца, якія цеснаю і вострым цернем напоўненаю дарогаю да жыцця вечнага ісці не схацелі: на шырокую і вольную (якою многа іх ідзе) падаліся дарогу і, падаўшыся, былі б радыя ўсіх за сабою пацягнуць, а мяне, матку сваю, на сорам, ганьбу і згубу вечную адправілі. Не дапушчай жа бязбожным сынам, каб з майго ўпадку, маці сваёй, весяліліся. Аднак, усемагутны Пане, не цяпер наведай дубінаю знішчэння неправеднасці іх, але ўстрымай правіцу тваю на малы час дзеля мяне, што выйшла на помсту, бо яшчэ раз пайду да іх і нагадаю ім, калі да канца жыцця свайго апамятаюцца і прыйдуць, і паклон вінаватасці мне аддадуць, з якімі будучы ўжо ў згодзе і ў супольнай міласці, стану перад абліччам тваім і зноў у радасці і весялосці імя тваё святое славіць і ўзносіць разам з імі буду.

О, цяпер ужо іду і прашу тваёй невыпаведнай дабрыні, пашлі ім дар Літасці і Міласэрнасці свае, а сэрца іх сапраўдным розумам напоўні. Распалі ў іх агонь літасці тваёй, каб, слухаючы, разумелі, зразумеўшы — прынялі, прыняўшы — пакутавалі, а праз пакуту каб нябесным тваім жыхарам весялосць учынілі. І паколькі ісці да іх задумала, трэба паразважаць, да каго найперш пайду, каб не распачынаць надарэмнай працы.

Калі ж да простага люду пайду, баюся, каб, убачыўшы мяне, па прастаце і дрэннаму свайму розуму не наскочылі на мяне і рук сваіх у мацярынскай крыві не абмачылі, бо сэрца слугі — цвёрдае і словамі не можа быць навучана, бо хаця што і зразумелае, аднак ні ў якім разе не прыме. Ці пайду таксама да княжатаў, абраных і паноў; на тых, калі б таксама і хацелі добра мяне выслухаць і пры мне застацца, не да канца залежыць, бо падданыя іх не ў справах духоўных павінны ім быць паслухмянымі, але толькі ў свецкіх. Да тых, як бачу, ісці мне трэба, што кіруюць душою, бо і сама справа, пра якую ідзе гаворка,— духоўная. Што і слушна з той прычыны зраблю, бо праз каго прыйшло спасаванне, каб праз таго ж і выпраўленне адбылося, і якія пачаткам і прычынаю да злога іншым былі, каб праз іх усе да добрага змаглі быць вернутымі. Бо гэта тыя, стаpанню якіх усе душы давераныя, тыя, якія дарогу праўды на языку насіць абавязаліся і вочы якіх авечак сцерагчы абяцалі. Да гэтых мне след ісці, з гэтымі мне варта гаварыць. Дазволь жа тады, Суцяшальнік Духа святога, спачатку да іх завітаць і змякчыць іх зацвярдзелыя сэрцы, каб прынялі мяне з удзячнасцю і з пільнасцю выслухалі. А я станаўлюся перад тымі, што мянуюцца біскупамі айчыннай маёй спадчыны Расійскай зямлі, і звяртаюся да старэйшага з іх.

(Пераклад са старапольскай мовы Уладзіміра КАРОТКАГА).

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.



Людміла РУБЛЕЎСКАЯ



## СТАРАСВЕЦКАЕ КАХАННЕ

*...Вітаю ясны край, дзе я бывала,*
*І дзён калісьці правяла нямала,*
*А шчасця ні хвіліны не спазнала...*

*Леся УКРАІНКА.*

Бераг мора вясну вітае.
Квецень вішняў. Эдэм сухотных.
І вішнёвы сок праступае
Гэтак часта на вуснах родных.
У кавярні ад гукаў цесна,
Набягаюць хвалямі гукі.
І на плечевых ручках крэслаў,
Як празрыстыя, вашы рукі.
Паглынае пясчаны бераг
Слёзы-вішні майго кахання...
Я ж для вас — ці сястра па веры,
Ці хаўрусніца па змаганню.
Ну зірніце! Ці ж я — пачвара?
Ці на шчасце правоў не маю?
О мужчыны, адданцы мараў,
Вы — забойцы жанчын адданых.
Разумею я ўсё: ахвярнасць,
Гераізм і святую мэту...
Толькі ўбачце ж ва мне, упарты,
Вы жанчыну, а не паэтку.
Зразумейце: сама я — вішня
Пад абцасам вашым няўважным...
Вось — барвовая пляма...
Цішэй...
Сок вішнёвы... Гэта не страшна.
Як душа, аблятае квецень,
Філіжанку рука губляе.
І прысела за столік трэцяй
Госця, што ад болю збаўляе.
Аднаго з нас Дадому просіць,
У свой свет, дзе няма бяздомных.
...Крым і мора. Плач безгалосы.
Квецень вішняў. Эдэм сухотных.

## АПОШНЯЯ ДУША

Перад Брамай у Вечнасць
спыніцца на хвілю хачу.
Што мне Вечнасць?
Яна не прыносіць
таксама збавення.
Мой анёл залаты —
зайчык сонечны —
на плечуку,—
Нешта шэпча, пяе,
разганяе цяжкія трызненні.
Не табе, залаценькі,
суцішыць, суцешыць мяне.
Я гляджу на зямлю —
і нічога не бачу за дымам,
І ніхто не шкадуе мяне на зямлі,
не кляне,—
Бо са мною ў Нябыт
і мая адыходзіць Радзіма...
Хай за Брамай сустрэну
ўсіх любых,
святых, дарагіх,
Што мне радасці ў тым,
што яны — па-за межамі явы?
Мы сваё не любілі паводле
загадаў чужых
І згубілі сваё,
і згубілі на будучнасць
права...
Перад Брамай у Вечнасць
стагналі мае землякі.
Як мне іх, самагубцаў,
ля гэтай мяжы вінаваціць?
У далоні Радзімы
ўсе мы забівалі цвікі...
За апошняй дачкой
адыходзіць на магілкі маці...

## РАНІЦА СКАРЫНЫ

Званы — і Полацак світальны!
Сярэднявечча?
Не, жыццё!
І твар у Бібліі каханы
Малюецца, як адкрыццё.
Хто кажа — грэх?
Лухта, панове!
Што праз каханне — то не грэх.
Званы — і зноў світае слова,
Свяцее грэшны чалавек.
О, маладосць! Натхненне,
вечнасць,
І светлы італійскі дух.
Цяжкая мантыя — на плечы.
На грудзі — залаты ланцуг.
О, маладосць! Віно і ласкі,
І шумных дыспутаў запал
І Белай Русі песні-казкі,
Сафіі сонечны харал.
Гарлаюць шкаляры ля крамы,
Святар нясе алей святы —
Званочак сумны ранак раніц,
Ды смех не гасіць маладых.
Прысеслі пані ля акенцаў,
Нібыта вышываць...
А ты —
Сядзі ў сваёй вучонай клетцы,
Працуй на вечнасць?
Не, браты!
Ёсць маладосць — і твар каханай
Не толькі ў Бібліі пакуль,
І пацалунак, і світанне,
І Адраджэння вольны гул.
Пасля — і пошасці, і смерці,
Вянкі і помнікі — пасля...
Францішак —
малады, як вецер,
Як беларуская зямля!

## ЗАЛАТЫ ЛІХТАР

Я нікога не ўратавала,
Крыж пахілы не падняла.
Я прыходзіла ў замак жалю
З ліхтаром залатога шкла.
І прамень прада мною падаў,
І хавалася зло ў лаўжы,
І на ўсіх маіх слёз хапала
І хапала маёй душы.
Не была забойцам пагрозай,
Не была надзеяй ахвяр.
І працягваў дарогу ў росы
Для мяне залаты ліхтар.
Працякалі яшчаркі побач
І гайдаліся кажаны.
Вечар, нібы ўрачысты пробашч,
З цішынёю мой жаль жаніў.
Ды аднойчы святло паўстала
Не ад сонечнага святла.
Я ж нікога не ўратавала!
Крыж пахілы — не падняла!
І душу ачышчалі слёзы,
Лекавалі — толькі маю...
І ліхтар зрабіўся анёлам
І пакінуў навек зямлю.

## УЦЁКІ

*Віктару.*

Месяц крышыць святло, як шкло,
І раскідвае па палянах.
Рэжа вочы яго святло.
Зззяюць вочы пагоні шкляна.
Лесам зручна ўцякаць, але
Зручна вельмі цкаваць у лесе.
А балады зямных людзей —
Аб каханні смяротным песні.
Хай не будзе яшчэ адной!
Сып манеты пад ногі коням!
Звабяць, зблісцнуць яны маной —
Скнар хапае сярод пагоні.
А пасля густыя кусты
Мой асвецяць вэлюм вясельны:
У пагоні шмат маладых,
Спыніць шлях хоць адзін
сумленны.
Ну а ў сэрцы лесу, дзе ноч
І лясное возера ў шлюбе,
Хто каня не ўпыніў — не збоч!
Ты сустрэнеш іх стрэльбай, любы.
Хай загіне першы між іх
Мой нялюбы былы жаніх.

## АДРАДЖЭННЕ

Вечаровы язмін — у зорках,
Белым воблакам — ля акна.
Беларускіх сяброў суполка
На паўсотні вёсак — адна.
Сын дзячка ды студэнт-няўдачнік,
Дзве настаўніцы ды ляснік
За гарбатай сядзяць гарачай
І чытаюць: «Што я — мужык...»
Ды — пра Вітаўта, пра Сапегу,
Ды пра вольнасць, ды пра народ...
А па вёсцы гуляе рэха,
Бо на выгане — карагод.
І вясковыя ходзяць пары,
Заўважаюць святло ў акне:
«Во паны загулялі ў карты!»,
«Во гарэлкі кожны ліне!»,
«Там,— паненкі, відаць,— каханкі.
Як ім замуж пасля ісці?».
І смяюцца зоркі-заранкі
У блакітным густым лісці.
...Сціплы поціск рук —
развітанне.
«Не сумуй! Беларусь жыве!»
...Праспявала вёска да рання,
Смех згубіла ў мокрай траве.

Афармленне Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.

## ДОПІС З ЗАМЕЖНЫМ ШТЭМПЕЛЕМ

# «Я НЕ ЖАДАЮ БЫЦЬ ТВАІМ ВОРАГАМ...»

*Дарагі вораг! Мне хутка 50 гадоў, і я ўпершыню спрабую напісаць табе ліст. Не ведаю, як да цябе звяртацца, бо мала што ведаю пра цябе і не магу давяраццa. Бо колькі помню, цябе паказвалі ворагам, табой палохалі дзяцей, малявалі на сценах у мядзведжай шкуры. Таму, прабач, калі ласка, але я буду звяртацца да цябе «Дарагі вораг!»*

*Тое, аб чым я хачу пагаварыць з табою, тычыцца нашай будучыні. Але спачатку дазволь расказаць аб тым, што звязвае мяне з тваёй краінай. Гэта магіла на рацэ Ака, непадалёку ад Масквы. Там спачывае прах майго бацькі. Маладым лейтэнантам пайшоў ён у тую жудасную вайну, у тваю краіну. У кастрычніку сорак першага загінуў. Магіла — у мяне ёсць фотаздымак — абнесена драўляным штыкетнікам. Магчыма, зараз яна знікла, ведама ж — чужая магіла ў нетрах зямлі матухны-Расіі. Ці можаш ты сабе ўявіць, дарагі вораг, як расці без бацькі? Такія раны залечваюцца вельмі марудна. Я нат не магу растлумачыць, ці ведаў мой бацька, навошта ён пайшоў на гэтую праклятую вайну. Магчыма, каб у выпадку перамогі знішчыць ці заняволіць на вякі тваіх суайчыннікаў. Прайшло шмат часу, пакуль я зразумеў, што не толькі немцы, а і народы тваёй краіны панеслі незлічоныя страты. І мне хочацца спытаць цябе: «Ці можа быць прымірэнне ў імя пайшых?» Нягледзячы на смерць і раны, жах і злосць, нянавісць, смутак і слёзы?*

*Ёсць яшчэ адзін успамін, які звязвае мяне з табою. Вольга, мілавідная дзяўчына з Беларусі. Яе прывезлі на прымусовыя работы ў гаспадарку маіх дзядулі і бабулі. Далёка ад Радзімы, сярод чужых людзей. Іншы раз успамінаю яе, у думках бачу, як яна доіць кароў, завіхаецца на кухні. Часам я ўзбіраўся да яе на калені і яна спявала на чужой мове свае чароўна-чуллівыя песні. Успамінаю, і мне здаецца, што я знойку дакранаюся да смутку славянскай душы. Дзе ты, Вольга?*

*Калі мне стукнула дзесяць гадоў, гэта было ў 1948 годзе, я атрымаў ад бежанцаў, якія жылі ў нас, цудоўнае віншаванне: на аркушы паперы намаляваны яркі букет, а па краях — лічба 10. Пазней я зразумеў, што ў гэтых людзей не было сродкаў, каб набыць дарагі падарунак, аднак яны адгукнуліся на мой маленькі юбілей. Тады я ўпершыню ад іх пачуў словы «Берыя», «ворагі народа», «Салаўкі», «ГУЛаг»... І яшчэ больш страшыўся вас, савецкіх.*

*Недавер, варожасць працягваліся доўга, аж да паўналецця, калі я зразумеў сэнс іншых рускіх слоў, такіх, як «дружба», «мір»,*

ШЧЫРА ВІНШУЕМ НАШАГА СТАЛАГА АЎТАРА І ЦУДОЎНАГА ЧАЛАВЕКА АРЛЕНА МІХАЙЛАВІЧА КАШКУРЭВІЧА З ПРЫСВАЕННЕМ ЯМУ ГАНАРОВАГА ЗВАННЯ НАРОДНАГА МАСТАКА БССР.

КАЛЕКТЫЎ ЧАСОПІСА «БЕЛАРУСЬ».




# МАЙСТАР ПРАГНЕ МАЙСТЭРСТВА...

Ён літаральна збіў з тропу прызнаннем:

— Ведаеш, чым больш працую, тым больш адчуваю: не стае... майстэрства!..

— ???!!! — толькі так магу акрэсліць нявыказаныя словы здзіўлення, што так і не здолелі сарвацца з вуснаў.

Уся істота мая прагнула каментарыяў да сэнсу сказанага. Мастак растлумачыў:

— Столькі перадумана!.. Каб усё рэалізаваць — менавіта майстэрства не стае...

Пачуць такое ад прызнанага майстра, скажу шчыра, давялося упершыню ў жыцці.

У чым тут справа? Знаходжу, пакуль, адно вытлумачэння: складанасць духоўных працэсаў, у поле напружання якіх прывёў Арлена Кашкурэвіча ягоны шлях мастака і чалавека.

Уласна, кожны, хто няспрошчана ўспрымае неадназначныя падзеі рэчаіснасці, адчувае ўскладненне і думак, і пачуццяў. А ўявіце сабе, што віруе ў душы мастака, які па прыродзе свайго таленту адчувае ўсё абвострана!.. У Кашкурэвіча талент — якраз такі. Гэты «сын гармоніі» і служыцель яе не можа не паглыбляцца ў праявы дысгармоніі — у тыя сферы жыцця чалавечага духу, дзе адвечныя канфлікты, супярэчнасці гранічна напятыя. Ён проста няздольны заставацца у сферы толькі гармоніі. Такі ўжо ў яго характар. Так неадступна трывожаць яго самыя балючыя праблемы, так званыя «праклятыя пытанні», якія прыцягваюць столькі светлых розумаў і талентаў, але так і застаюцца нявырашанымі і па-заўсёднаму вострa паўстаюць перад чалавекам...

Што ж гэта за шлях, які прывёў да высновы пра нястачу майстэрства?!. Відаць, дастаткова пакутлівы і больш складаны, чым падавалася і падаецца часам па тых ці іншых выніках творчай работы майстра.

І тут прыгадваюцца матывы, якія гучаць у вуснах маладых авангардыстаў, бясспрэчна таленавітых, быццам у гады застою ледзь не ўсе творцы выяўленчага мастацтва былі канфармістамі... Мне здаецца, крызіс, які перажывае мастацтва не толькі выяўленчае, распачынаўся безумоўна у эпоху застою. Аднак гэта зусім не азначае, быццам крызісы мастацтва ў цэлым і крызісы, якія перажывае той ці іншы мастак, абавязкова супадаюць. Кашкурэвіч якраз і належыць да ліку тых, чыя творчасць процістаіць застою. І сама прырода, сама якасць «крызісу майстэрства», пра які ён кажа ў дачыненні да сябе,— зусім інакшая. Такога роду «крызісы» сапраўды таленавітыя мастакі перажываюць і ў кантэксце росквіту мастацтва ў цэлым. Ну, і да таго ж зусім відавочна, што, нягледзячы на трагічныя застойныя праявы мастацкага жыцця ў нядаўняй гісторыі нашага грамадства, на рахунак плённых пошукаў мастакоў могуць быць залічаны прынцыповыя дасягненні. Многія з іх якраз і звязаны з творчасцю Кашкурэвіча.

Пазначым хаця б схематычна гэты шлях найвышэйшага духоўнага напяцця ў асэнсаванні найбалючых праблем веку. Жывыя ўражанні ад працы славутых нёманскіх майстроў шкла спарадзілі серыю лістоў «Майстры», у якой — скажам так — нараджэнне прыгажосці трактавалася як працэс напружання, перш за ўсё ўнутранага. Здзяйсненне ў мастацтве патрабуе намаганняў усёй істоты чалавечай. Унутраны канфлікт гармоніі і дысгармоніі, выяўлены праз самі пластычныя хады, у «Майстрах» быў яшчэ як бы прыхаваны і стаў прыступкаю да выяўлення канфліктаў больш высокага напяцця. А вось серыя, прысвечаная беларускім партызанам, дала і такі класічны твор, як ліст «Партызанскія маці»... Не паўтараючы некалі раней выказанае пра гэтыя даўнія работы Кашкурэвіча, падкрэслю: яны засведчылі яго ўнутраную гатоўнасць да сустрэчы з такім трагічным для мастакоўскага асэнсавання матэрыялам, як кніга Алеся Адамовіча, Янкі Брыля, Уладзіміра Калесніка «Я з вогненнай вёскі...», Адамовічавы «Карнікі», быкаўская проза. Дастаткова перагарнуць вырашанае Кашкурэвічам выданне «Карнікаў» або прысвечаныя Васілю Быкаву лісты, каб пераканацца, які магутны духоўны прарыў мастака да асэнсавання праблематыкі вайны і міру адбыўся ў гэтых творах. Затым — праблематыка «Фаўста» Гётэ ў бліскучым перакладзе Васіля Сёмухі. Мастак актуалізаваў яе, наблізіў да «праклятых пытанняў» нашага стагоддзя. Гуманістычныя, антыфашысцкія матывы сталі стрыжнем Кашкурэвічавага прачытання вяршыннага твора сусветнай класікі...

А ў той самы час у творчасці мастака развівалася купалаўская тэматыка. Якое невымернае напружанне набыла ў вытлумачэнні Кашкурэвіча, напрыклад, трагедыя Бандароўны!.. Ён пастаянна звяртаецца да беларускай гісторыі, даўняй і нядаўняй. Не пакідае шляхі вырашэння тэмы сучаснага горада, выяўлення «экалогіі духу» не толькі ў вытанчаных кампазіцыях «бытавога» плана, але і ў шматлікіх партрэтах. Ды што казаць, любога з прыгаданых напрамкаў творчасці Кашкурэвіча хапіла б, каб

*«добрай раніцы», «мара», «каханне»... Да таго ж, я жыву ў горадзе, дзе стаіць царква з залатымі купаламі, пад якімі пастаянна гучыць: «Хрыстос уваскрэс!», «даруй, Гасподзь!», «злітуйся і захавай»... Магчыма, і гэта мяне звязвае з табою, дарагі вораг.*

*Шкада, што не ведаю цябе. У апошні час у мяне з'явілася надзея пабываць у тваёй краіне. Былыя кіраўнікі яе імкнуліся перашкодзіць нашым адносінам: закрывалі граніцу, стваралі дзесяткі розных цыркуляраў, каб адгарадзіць вас ад «буржуазнай прапаганды». Натуральна, кіраўніцтва маёй краіны адказвала на гэта «халоднай вайною», гонкай узбраенняў.*

*Здаецца, увесь гэты кашмар у мінулым. Недавер сціраецца ў памяці, аднак душэўныя раны пакуль крываваць. І я думаю, настаў час збліжэння нашых народаў, час прымірэння. Яно неабходна, без яго нельга жыць, як без паветра, сонца і зорак. Разумею, нас чакае складаны шлях: будуць горкія ўспаміны, смутак і слёзы, нянавісць і варожасць. Але, дарагі вораг, я ўпэўнены, што мы пераадолеем адчужэнне. Вольфганг Рубер пісаў: «Прымірэнне, лунанне над безданню — гэта драма з адкрытым выхадам. Удача, як і крушэнне, магчымы, і ляжаць яны побач адно з другім».*

*Давай, дарагі вораг, пачнём сумленны дыялог за прымірэнне, зробім крок насустрач адзін аднаму. Каб з ворагаў, праціўнікаў стаць раўнапраўнымі партнёрамі. Давай адкінем убок страх і фальшывую пагарду і дамо вырасці даверу.*

*Я не жадаю больш быць тваім ворагам. Да сустрэчы!*

З павагай Карл-Ганц КІМЕЛЬ;
г. Дармштат, Германія.

## АД РЭДАКЦЫІ

**Яшчэ колькі гадоў назад гэтае пісьмо напаткаў бы вядомы лёс — запыленыя архіўныя папкі, цёмныя шуфляды. Мы прывыклі быць пільнымі, навучыліся нават па асобнай косцы распазнаваць: тут «класавы вораг», «чужы элемент», там «падкопы заходніх разведак». Гэта ўвайшло ў нас разам з трывожнай памяццю, якая прачынаецца іншы раз раней за разважлівасць.**

**Ва ўсе часы зло павінна карацца, каб не прарасці ў будучае. Але што атрымаем, калі станем пераносіць нянавісць на кожнае новае пакаленне, памятаючы толькі пра злую мінуўшчыну, якая некалі звяла нас, панішчыла і пакалечыла! І адзінае, што можа ачысціць гэты жудасны, маральны смог над ёю: цяплыня нашых сэрцаў, здольнасць зразумець адзін аднаго, дараваць тое, што можна.**

пазначыць прынцыповыя крокі наперад у развіцці беларускай графікі.

Вось такое напружанне існавання мастакоўскага духу на самым стрыжні агульначалавечых праблем, найтрывала звязаных з разуменнем і вытлумачэннем сувязей часу, самапачування сённяшняга чалавека на прынцыповых стыках «учарашняга» і «заўтрашняга» якраз і прадвызначае тую патрабавальнасць майстра да сябе, з якой звязана адчуванне нястачы майстэрства. Тым больш, што задачы, якія ставіць перад сабою мастак (дакладней, мабыць: задачы, якія ставіць перад ім час, у які ён творыць),— пастаянна ўскладняюцца. Не кажу ўжо аб унутранай патрэбе пераасэнсаваць ранейшае вырашэнне «Фаўста»— новы варыянт мастакоўскага вытлумачэння гэтага твора неўзабаве выйдзе ў свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Не кажу аб серыі адмысловых лістоў «Успаміны пра Майстра»— шчымлівай эпітафіі безыменным народным майстрам мінулага...

Кажу пра іншае. Пра зусім іншае. Пра тое, да чаго Кашкурэвіч ішоў і праз тэму "Партызанаў", і праз тэму «Карнікаў», і праз тэму «Фаўста», і праз усе астатнія тэмы сваёй творчасці, сярод якіх — і адмысловае прачытанне рамана Чынгіза Айтматава «Буранны паўстанак» у надзвычай культурным перакладзе незабыўнага Міхася Стральцова, і не менш адмысловае вытлумачэнне ў станковых лістах і ў серыі ілюстрацый да рамана Таісы Бондар «Спакуса» хвалююча-загадкавага вобраза рамантычна-трагедыйнай Ефрасінні Полацкай. Так, так! Рамантычна-трагедыйнай! Як жа сказаць больш дакладна?! Кажу пра набліжэнне Кашкурэвіча да біблейскіх сюжэтаў.

Тут збеглася ўсё. Ёсць ад чаго ўсклікнуць: «Не стае майстэрства!..»

Некалі, у 1918 годзе, у маскоўскім кафэ «Эліт» малады і ўжо вядомы паэт Ілья Эрэнбург так сказаў, адкрываючы літаратурныя чытанні: «У самыя цяжкія хвіліны жыцця нельга не маліцца. Дакладна гэтак жа нельга не займацца мастацтвам.. Бо ці не з'яўляецца яно малітваю ўсхваляванага сэрца?»

Я і назваў бы сапраўды шчыраю малітваю ўсхваляванага сэрца чалавечага, напрыклад, такія кампазіцыі, як «З'яўленне Хрыста» з серыі «Апакаліпсіс». Гэта, так сказаць, малітва прасветленая. Але якім эпітэтам акрэсліць малітву ў кампазіцыі «...І адбыўся вялікі землятрус, і сонца зрабілася змрочнае...»?!. З гэтай жа серыі. Паводле лексікі свецкай, мабыць, так можна было б назваць гэты матыў, падказаны мастаку біблейскім тэкстам і суаднесены з уражаннямі ад сучаснай гісторыі: «Мадонна Апакаліпсіса»...

...На фоне чорнага неба без аніводнае зоркі, на асветленым ледзь ці не пякельным агнём сметніку цывілізацыі, сярод скарэжаных жалезных бэлек-рэек, жалезабетонных блокаў, ламаных аўтамабіляў, зношаных аўтамабільных шын і ўсялякага іншага смецця, па якім бегаюць ачмурэлыя пацукі і над якім узвіхрыліся светлыя птушыныя пёры,— жанчына ў лахманах, з забінтаванай галавою. Яна нічога не бачыць, бо і вочы забінтаваныя... Збіраецца карміць грудзямі немаўля, якое ў яе на каленях. А немаўля адвярнулася ад матчыных грудзей і пакутліва-недаўменным паглядам сустракаецца з нашымі вачыма...

Дык пра што гэтая малітва?!. Пра нас з вамі, дарагія зямляне!







● Браўншвейг, 1990 г.

● Мадонна «Апакаліпсіса».

● Бягучая.

● Кабінет Фаўста.

Пра нас... Пра нашыя спустошаныя душы, як бы мы ні ўлагоджвалі сябе, быццам не адступаемся ад прынцыпаў, дастаткова робім для ўратавання ад усіх Чарнобыляў, фізічных і духоўных, якія апакаліптычна насоўваюцца на род чалавечы, на матухну-зямлю... Як бы ні ўгаворвалі сябе, быццам не трацім крытэрыі ісціны, быццам адмовіліся ад догмаў на карысць хаця б элементарнага сумлення чалавечага, элементарнай спагады і элементарнай міласэрнасці...

Ды што казаць!.. Прыгадваю Кашкурэвічаў ліст «Скамянелая», той самы, дзе маці на прыдарожным камені запаліла свечку ў трывожнароспачлівым роздуме пра сына, які недзе далёка і ці жывы... Прыгадваю партызанскіх маці, якія набіваюць кулямі дыскі для аўтаматаў... І не магу не адчуваць: разам з «Мадоннаю Апакаліпсіса» гэтыя два лісты складаюць адмысловы і арганічны трыпціх горкага плачу па мадоннах нашага такога трагічнага XX стагоддзя. Дык што ж мы, людзі, нарабілі з мацярынскім сэрцам?!. Якога крыку хапіла б, каб пачулі ўсе?! Каб пачулі хаця б тыя, «хто ўмее з вас сэрцам чуваць», як некалі ўсклікнуў у роспачы паэт...

Такія біблейскія сюжэты, як «Вяртанне блуднага сына» і «Добры самарыцянін», «Пацалунак Юды» і «Выгнанне гандляроў з храма», «Хрыстос і фарысеі» і шэраг іншых, увасобленых Кашкурэвічам, добра вядомыя паводле інтэрпрэтацыі іх мноствам мастакоў розных эпох і народаў. Мабыць, і вырашэнні, якія ўжо знайшоў беларускі мастак, будуць мець варыянты, і ўсебаковая гаворка пра іх наперадзе. Аднак ужо сёння ясна: гэта прынцыповы зрух у творчасці майстра, арганічнае прадаўжэнне тых духоўных пошукаў агульначалавечых каштоўнасцей, якія вызначыліся ў яго ранейшых графічных серыях: ад «Партызанаў» да «Фаўста», ад «Майстроў» да «Карнікаў».

Не так даўно адбыліся ў Германіі (Берлін і Браўншвейг) выстаўкі твораў мастака. Абедзве экспазіцыі (у Берліне побач з работамі Арлена Кашкурэвіча былі паказаны творы сыноў Ігара і Хведара) карысталіся поспехам. Цікава, як успрымаюць фаўстаўскую праблематыку ў інтэрпрэтацыі Кашкурэвіча на радзіме «Фаўста». Ілона Бютэнбендэр у «Браўншвейгскай газеце», між іншым, зазначае: «Сімволіка і алегорыя ўзятыя ў яго з іншага культурнага слоя, гэта і чужое і збівае з тропу адначасова». Прыкметы падобнага «збянтэжанага» ўспрымання давodзілася сустракаць і сярод некаторых нашых гледачоў. Аднак яно — толькі першы крок на шляху да больш глыбокага разумення імпульсаў (да адэкватнага разумення!), якія выпраменьваюць Кашкурэвічавы лісты. Так, зусім слушна сцвярджае Дзітар Фехнер: «Мастак ніколі не ішоў шляхам знешняй прыгажосці, ніколі не імкнуўся перадаць толькі змест мастацкага твора. Ён абраў адзіна правільны шлях, ідучы па якім ён шукаў Фаўста свайго часу, які здолеў бы адказаць на ўсе надзённыя пытанні, якія хвалююць яго сучаснікаў». І яшчэ — меркаванне Крыстафа Ніса: «Яго Фаўст — гэта Фаўст, які блукае ў часе і шукае ісціну ў хаатычным свеце нашых дзён...»

У часе сустрэч з гледачамі ў Германіі Арлен Кашкурэвіч сказаў: «...мастацтва павінна нагадваць нам пра вечныя катэгорыі дабра, справядлівасці, любові і спачування. Мастацтва звяртаецца да чалавечых душ, да іх сумлення».

У паслячарнобыльскія часы, калі пачала ўзрастаць і пагроза «Чарнобылю духоўнага», удзельная вага такога разумення мастацтва вырастае. І адчуванне майстрам нястачы майстэрства — не што іншае, як сімптом росту душы. Можа, нават, крытэрый сапраўднасці мастака. І калі такія мастакі ёсць, дык надзеі на Адраджэнне — небеспадстаўныя.

**Уладзімір БОЙКА.**

Фота Генадзя **АНАТОЛЬЕВА.**






Юзэфу Шыманчыку за восемдзесят, але на выгляд не дасі столькі. Нарадзіўся ён у Косаве, што ў Івацэвіцкім раёне. Самастойна авалодаў фотасправай і з 1927 года стаў прафесійным фотамайстрам. Гэтым зарабляў на хлеб і на пражыццё. Першыя здымкі рабіў на шкляных пласцінках.

— Здымаў я даволі многа,— расказваў Юзэф Нікіфаравіч.— І не толькі дзеля заробку. Хацелася штосьці зрабіць, як кажуць, і для душы. Тым больш, што мяне цікавіла жыццё палешукоў. На веласіпедзе ездзіў па ўсёй акрузе, шукаў цікавых людзей, прыгожыя краявіды.

Да 1942 года Шыманчык жыў у Косаве, затым пераехаў у Слонім. Калі немцы пакідалі горад, спалілі яго дом. Згарэла ўсё, акрамя чамадана з негатывамі, які быў схаваны ў падвале. Здымкі, якія прыйшлі да нас,— з таго чамадана.

Пасля вайны Шыманчык працаваў у Брэсцкай арцелі інвалідаў, а ў маі 45-га падаўся ў Польшчу. Зараз жыве ў Лодзі.

Трэба адзначыць, што здымкі Юзэфа Шыманчыка экспануюцца ў этнаграфічным і народным музеях Варшавы і Кракава. Стары фатограф наведаў Мінск, дзе яго работы набыў Дзяржаўны музей БССР, частку фатаграфій ён перадаў краязнаўцам Косаўскага мэблевага вытворчага аб'яднання.

Мы ж звернемся да тых здымкаў, якія захоўваюцца ў Бярозаўскім гістарычна-рэвалюцыйным музеі. Такія надпісы на іх, як «1935 г. Палессе. У святочны дзень» або «Дзед і ўнучак», фактычна нічога не гаварылі, але былі добрым арыенцірам для пошукаў. Яны пачаліся з вёскі Спорава, старажылы якой на некалькіх фотаздымках пазналі сваіх вяскоўцаў.

На фота, якое названа аўтарам «1935. Палессе. У святочны дзень» — чатыры босыя жанчыны, дзве з іх трымаюць на руках малалетак. Многія вяскоўцы сярод тых жанчын адразу ж назвалі Е. К. Дыцэвіч. Яна дажыла да нашых дзён. Пазналі і іншых — Дамініку Бруйло, Еўдакію Пракурат, Еўдакію Шчурко. Пры гэтым адна з субяседніц, якім мы паказвалі здымак, звяртаючыся да сваёй малодшай суседкі, заўважыла:

— Жэня, дык гэта ж твая маці!..

Астатнія спараўчанкі яшчэ раз уважліва разгледзелі фотакартку і ў адзін голас заявілі: так, гэта Еўдакія Пракурат.

На нашых вачах збялела і павольна апусцілася на лаўку Яўгенія Васільеўна Пракурат. Такая рэакцыя была невыпадковай. Справа ў тым, што яе маці памерла ў пачатку вайны, калі Жэні споўнілася адзінаццаць гадоў. Здымкаў маці ў сям'і не захавалася, і яе вобраз зусім сцёрся ў памяці дачкі. І вось цяпер з фатаграфіі глядзела прыгожая жанчына, якая дала ёй жыццё.

Можна зразумець, якія пачуцці ахапілі Яўгенію Васільеўну пры знаёмстве з гэтым здымкам. Некалькі копій з яго мы адаслалі Я. В. Пракурат, адну з іх — невялічкую — для помніка на магілу яе маці.

Настаўнікі Спораўскай сярэдняй школы Павел Іванавіч і Марыя Пятроўна Якаўчыцы, якія дапамагалі нам у пошуках старажылаў вёскі, падказалі яшчэ адзін адрас тых, каго калісьці зафатаграфаваў Шыманчык. Імі аказаліся Кірыла Венядзіктавіч і Ульяна Сцяпанаўна Мшары з вёскі Стрыгінь. Яны і прыгадалі гісторыю здымка «Закаханыя».

У той час — фота памечана 1937 годам — Кірыла і Ульяна ўжо былі людзьмі сямейнымі. Сфатаграфаваў іх Шыманчык не ў Стрыгіні, а ў Косаве. А чаму так, расказала Ульяна Сцяпанаўна:

— У трыццатыя гады ў пачатковай школе нашай вёскі настаўнічалі Антаніна і Ванда Юзафовіч. Яны, кажучы па-сённяшняму, арганізавалі ў Стрыгіні мастацкую самадзейнасць. Мы з Кірылам таксама былі ў гэтым гуртку. Рэпетыцыі праводзілі ў хаце-чытальні, а з канцэртамі выязджалі ў Пінск, Брэст, у тым ліку і ў Косава. Там нас і сфатаграфаваў Шыманчык.

У верасні 1989 года ў бярозаўскай раёнцы былі змешчаны тры здымкі Юзэфа Шыманчыка. «Дзядуля і ўнучак», «Сялянская сям'я» — так называліся два з іх. Шчыра кажучы, мы не вельмі разлічвалі, што хто-небудзь адгукнецца на гэтую публікацыю. Але атрымалася наадварот. Больш таго, аказалася, што абодва здымкі былі зроблены ў адной сям'і Мелехаў-Хмялеўскіх у вёсцы Лісічыцы.

— На абодвух фотакартках — члены нашай сям'і,— расказвае слесар будаўнічага ўпраўлення Бярозаўскай ДРЭС І. А. Хмялеўскі.— Як даўно гэта было...

Напамін Івана Антонавіча дапоўніў яго старэйшы брат Мікалай і стрыечны брат іх маці Мацвей Андрэевіч Мелех, якія жывуць у Лісічыцах. Як жылося мясцовай дзетвары, можна меркаваць і па здымках. На адным з іх Ю. Шыманчык і зафатаграфаваў дзеда П. Ю. Мелеха з унукам Мікалаем — старэйшым братам Івана Антонавіча. На групавым здымку ў цэнтры за сталом сядзіць Пётра Юсцінавіч Мелех, побач з ім — Антон Іванавіч Хмялеўскі, з правага боку — яго жонка Праскоўя Пятроўна і іх дзеці (злева направа) Коля, Алена і Ваня.

Сціплая сялянская вячэра. Агульны чыгунок з бульбай, агульная міска. Акраец хлеба, квас, аўсяны кісель. Скаромнае бачылі галоўным чынам на святах.

А Мікалай Антонавіч, гледзячы на стары здымак, заўсміхаўся, а потым растлумачыў:

— Фатаграфавалі нас вечарам. Гарэла лямпа. А калі яе патушылі, я, як зараз помню, схапіў штосьці ў рот са стала — і ў гэты момант фатограф уключыў успышку. Так і зафіксаваў маю раздутую шчаку.

З вайны салдат Хмялеўскі вярнуўся з некалькімі медалямі на гімнасцёрцы, працаваў у сельсавеце, а затым у калгасных і саўгасных майстэрнях...

Ну, а як жа склалася жыццё новага пакалення Хмялеўскіх, дзіцячыя вобразы якіх данёс да нас Юзэф Шыманчык!

Усе яны зараз жывуць у Бярозаўскім раёне: Алена Антонаўна — у вёсцы Манявічы, Мікалай Антонавіч — у Лісічыцах, Іван Антонавіч — у Белаазерску. Усе выгадавалі дзяцей, маюць унукаў.

Вось такія лёсы людзей, якіх больш чым паўстагоддзя назад сфатаграфаваў Юзэф Шыманчык.

Яўген **СЯЛЕНЯ.**

ЗАВІТАЎ НА





● Ікона «Сэрца Багародзіцы» — сямейная рэліквія Хмялеўскіх, якая захавалася ад бацькоў.

● «Закаханыя» [У. С. Мшар і К. В. Мшар у 1937 годзе і ў нашы дні].









● «Сялянская сям'я».

● І. А. Хмялеўскі.

● «Дзед і ўнук» [П. Ю. Мелех і Коля Хмялеўскі].

● М. А. Хмялеўскі з унучкай Аленай.

Фота Ю. ШЫМАНЧЫКА, П. БУРЫНА, А. РАМАНАВА.

# Вячэру фатограф...



*Людміла КОЛАС:*

# «У НАС НЯПРАВІЛЬНЫ ПАДЫХОД ДА ПАПУЛЯРЫЗАЦЫІ МУЗЫКІ...»

## ГУТАРКА НА НЕЗАПЛАНАВАНУЮ ТЭМУ

Наша першая сустрэча была нечаканай і... крыху рамантычнай. У лютым 1979 года пад час студэнцкіх зімовых вакацый я апынулася амаль выпадкова на беразе Чорнага мора ў невялічкім гарадку, што туліўся ў маляўнічай марской бухце. Пасля лютаўскіх завірух, калатушы снегу і гразі на мінскіх вуліцах новарасійскі аэрапорт, а потым вулачкі Геленджыка ўразілі сухім асфальтам і першай нясмелай зелянінай. Пасля тлуму студэнцкіх аўдыторый, нервовай узбуджанасці залікаў, экзаменаў вуха не магло нацешыцца цішынёй, крыкамі чаек і роўным, няспешным пошумам марскога прыбою.

І ўсё ж сярод гэтага раю нечага не хапала — мо беларускіх газет, часопісаў, навін літаратурнага жыцця ды яшчэ тэатральных уражанняў? І раптам — выпадкова! — я ўбачыла афішу: «Канцэрт салісткі Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР Людмілы Колас». Гэта была тая ніточка, якая адразу злучыла з роднай і далёкай Беларуссю...

На канцэрт у мясцовы Палац культуры я, зразумела, пайшла. Голас спявачкі быў чысты і звонкі, як лясное рэха, як спевы птушкі на досвецці... Людміла выконвала шмат арый з опер, рамансаў, беларускіх, рускіх, украінскіх народных песень. Прымалі яе цёпла, шчыра.

Падысці і пазнаёміцца я тады пасаромелася. Ролю яе на той час я бачыла мала. Гэта ўжо потым пачалі збірацца ўражанні, заставаліся ў памяці яскравыя сцэнічныя партрэты — у кожным вобразе артыстка прыадчыняла таямніцу загадкавай і непаўторнай жаночай душы...

Спецыялісты адзначалі інструментальную чысціню яе лёгкага і рухавага каларатурнага сапрана, сцэнічную прывабнасць, уменне перадаць настрой і ўнутраны сэнс музычнага твора. Я ведала, што ў 1977 годзе Людміла стала лаўрэатам Усесаюзнага конкурсу вакалістаў імя М. Глінкі ў Ташкенце, у наступным — удзельнічала ў фестывалі лаўрэатаў усесаюзных і міжнародных конкурсаў у Адэсе, выступала з сольнымі канцэртамі ў Новасібірску, Сочы, Краснадары, Пскове, Ноўгарадзе, Уладзіміры. Шмат спявала і ў сваім родным тэатры...

Так я пачала сачыць — пераважна здаля, з глядзельнай залы, за яе творчасцю. Шчыра радавалася, калі Людміла стала лаўрэатам прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, калі ёй надалі званне заслужанай артысткі рэспублікі, калі, нарэшце, яна стала пераможцай міжнароднага конкурсу вакалістаў у Італіі. І ўвесь гэты час не пакідала думка пагутарыць сам-насам, не спяшаючыся, грунтоўна, каб лепш зразумець і мастакоўскую індывідуальнасць Людмілы Колас, і феномен опернага мастацтва наогул.

Але сустрэцца са спявачкай у Мінску аказалася больш складана, чым за дзве тысячы кіламетраў ад Беларусі.

Нарэшце, мы пабачыліся, але наша гаворка непрадбачана выйшла далёка за рамкі чыста творчых праблем.

**— Спачатку пытанне крыху традыцыйнае. Людміла, вы спяваеце многія вядучыя партыі лірыка-каларатурнага сапрана, партыі, пра якія мараць маладыя, пачынаючыя артысткі. Якія з вашых роляў вам асабліва дарагія і чаму?**

— Партыі, у якіх можна выявіць багаты свет чалавечай, жаночай душы, партыі шматфарбныя, эмацыянальна разнастайныя. Сярод іх я б назвала Джыльду ў «Рыгалета» і Віялету ў «Травіяце», Марфу ў «Царскай нявесце», Антаніду ў «Іване Сусаніне». Крыху адасоблена ў гэтым шэрагу стаіць Алімпія ў «Казках Гофмана», партыя вельмі складаная і цікавая ў вакальных адносінах. Але тут у мяне як актрысы цалкам павінны адсутнічаць эмоцыі, бо Алімпія — не жывы чалавек, а лялька...

**— Што дапамагае вам у працэсе работы над вобразам класічнага рэпертуару ці сучаснага спектакля? Што мае для вас галоўнае значэнне?**

— Усё важна. І засваенне музычнага матэрыялу партыі, і вельмі дэталёвая, карпатлівая праца з канцэртмайстрам, і сцэнічныя рэпетыцыі — сумесныя пошукі з дырыжорам, пастаноўшчыкам, моцныя літаратурныя і візуальныя ўражанні. Што датычыць апошніх, дык часам яны наогул змяняюць тваё ўспрыманне рэчаіснасці. Памятаю, пад час апошняй творчай вандроўкі ў Іспанію ўжо напярэдадні ад'езду на радзіму мы трапілі ў славуты музей Прада. Калі раней я чула, што перад карцінамі таго ці іншага мастака можна стаяць гадзінамі, дык ставілася да гэтага крыху недаверліва. А тут... Доўгая анфілада разбягалася на мноства невялікіх залаў. І ў кожнай работы толькі аднаго майстра — Веласкеса, Тыцыяна, Гоі, Рэмбранта. У кожнага свой, улюбёны каларыт, свае фабры, свой зіхатлівы свет... Гэта было штосьці незвычайнае, фантастычнае. Мяне не было, я перастала існаваць, я растварылася ў гэтай бездані, у непаўторным сусвеце магутных, геніяльных мастакоў. І такім дробным, нязначным падалося ўсё тое, што зроблена мной...

**— Вы заўсёды хвалюецеся перад выступленнем?**

— Хваляванне не прыходзіць і не знікае, яно ўвесь час з артыстам. Яно можа быць меншым ці большым, але прысутнічае заўсёды. Мне здаецца, без гэтага наогул не існуе мастацтва. Калі выканаўца на сцэне халодны, рацыянальны, ён ніколі не здолее крануць слухача. Хваляванне эмацыянальна разняволівае артыста, духоўна ўзнімае, і менавіта ў гэтыя хвіліны яго асоба паўстае перад слухачом асабліва выразна.

**— На сцэне ў час спектакля ці канцэрта вы цалкам кантралюеце сябе, свае сцэнічныя паводзіны, гучанне голасу?**

— Зразумела, у тэхнічна, вакальна складаных момантах партыі ці сольнага нумара кантроль патрэбны і неабходны. Але калі я спяваю, напрыклад, перадсмяротную арыю Марфы, натхнёная музыка, незвычайна паэтычны вобраз нібы вядуць мяне самі, падпарадкоўваюць сабе. І тут ужо і музыка, і вобраз, і спявак непадзельныя.

**— Людміла, а каго вы лічыце сваім настаўнікам у мастацтве?**

— Мяне заўсёды захаплялі талент і характар маёго педагога ў Кіеўскай кансерваторыі Лізаветы Іванаўны Чаўдар.

**— Дарэчы, як вы апынуліся ў Кіеве! Наколькі мне вядома, вы ў свой час скончылі музычную школу, Маладзечанскае вучылішча, вучыліся на падрыхтоўчым аддзяленні ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі...**

— Так, але калі я яго скончыла, мне адмовілі ў праве паступаць на першы курс, бо, маўляў, у мяне няма добрага «піяна». Я паехала ў Кіеў, была прынята ў кансерваторыю, і цяпер удзячна лёсу, што мне так пашанцавала. На Украіне заўсёды былі магутныя вакальныя традыцыі. У кансерваторыі былі створаны выдатныя ўмовы для развіцця, выхавання маладых спевакоў, тут існавала цудоўная оперная студыя, дзе студэнт меў магчымасць пець класічныя і сучасныя спектаклі цалкам.

Пад час уступных экзаменаў мяне спыталі, чаму я прыехала паступаць з Беларусі. І я вымушана была прыдумаць, што бацькі пераехалі, і я разам з імі, і г. д. Таму цяпер я цвёрда перакanana: калі ў маладога спевака ёсць голас, здольнасці, талент, хаця б яго парасткі, трэба зрабіць усё магчымае, каб ён заставаўся ў нашай рэспубліцы.

Я была бязмерна шчаслівая, што трапіла да такога педагога, як Чаўдар. Яна — спявачка з сусветным імем, лаўрэат міжнароднага конкурсу, народная артыстка СССР, загадчык кафедры спеваў. У Лізаветы Іванаўны быў шчаслівы творчы лёс. Да яе рана прыйшло прызнанне, і дзякуючы гэтаму менш узнікала ўсялякіх штучных перашкод на яе шляху. Мяне заўсёды здзіўляла яе сіла волі і самаадданасць у служэнні мастацтву. Яна вучыла мяне выходзіць на сцэну і спяваць у любым стане,— як бы ні было цяжка, які б ні быў у мяне настрой.

**— Людміла, вы з поспехам прадстаўлялі беларускае опернае мастацтва ў многіх краінах свету — у Балгарыі, Венгрыі, Чэха-Славакіі, Італіі, Іспаніі, Югаславіі, Бельгіі, Індыі. Успрыманне вас як спявачкі замежным слухачом, яго рэакцыя істотна адрозніваюцца ад таго, як слухаюць і ўспрымаюць у нас!**

— Тут не можа быць ніякага параўнання. Гэта неба і зямля! Калі за мяжой заканчваеш спяваць, на імгненне ўсталёўваецца абсалютная цішыня. У свядомасці мільгае: «Усё, калі няма апладысментаў, гэта поўны правал!» А потым цішыня ператвараецца ў такую буру апладысментаў, што, здаецца, сцэны не вытрымаюць. І бісіраваць ці спяваць наступны раманс, арыю, народную песню вельмі цяжка, бо на вачах з'яўляюцца слёзы...

Ніколі не забуду, як два гады назад у час Дзён беларускай культуры ў Югаславіі я спявала партыю Джыльды ў оперы Дж. Вердзі «Рыгалета». Вы не паверыце (у нас такога ніколі не бывае): давялося бісіраваць усе (!) арыі і дуэты. У акцёрскім сэнсе спектакль страціў усялякі сэнс, бо канца апладысментаў немагчыма было дачакацца.

У нізкай ацэнцы нашым слухачом сваіх уласных артыстаў, я маю на ўвазе перш за ўсё оперных, сваю ролю адыгрываюць і адсутнасць ін-



фармацыі, рэкламы, і пэўная сацыяльная прыніжанасць творчай асобы, і імкненне гледача трапіць менавіта на прэстыжныя спектаклі. Але найперш, відаць, справа ў адсутнасці ўзроўню ўнутранай культуры, не толькі музычнай, але і агульнай. Гэта ўжо сумная традыцыя, якая складвалася дзесяцігоддзямі.

Як бы мы ні імкнуліся ўзняць наш тэатр да ўзроўню заходнееўрапейскага, як бы ні стараліся пераняць іх адладжаную сістэму стварэння спектакля, рэкламы, мы наўрад ці здолеем гэта зрабіць у бліжэйшы час, бо ўсе зыходныя параметры ў нас іншыя. У Італіі маляр, калі ён фарбуе сцяну, напявае якую-небудзь оперную арыю. У час канцэрта ці спектакля, калі ты ўзяў няправільна нейкую ноту ці забыўся тэкст, табе абавязкова падкажа нехта са слухачоў, асабліва з галёркі — там часцей за ўсё «музычная» публіка. У нас такое магчыма?..

**— Я ведаю, што некалькі гадоў назад вы стажыраваліся ў Італіі, у славутым тэатры «Ла Скала» і ўдзельнічалі ў міжнародным конкурсе вакалістаў. Што засталося ў памяці, што найбольш уразіла вас?**

— Відаць, тое, што я атрымала першую прэмію,— смяецца Людміла.— Ну, а калі сур'ёзна... Хутчэй за ўсё перамога ў Італіі была ў нейкай ступені падрыхтавана ўсесаюзным конкурсам імя Глінкі, на якім я атрымала другую прэмію. Праграма конкурсу была настолькі складанай, што, прайшоўшы яго «школу», можна было смела выходзіць на міжнародную арэну. І ўсё ж на міжнародны конкурс я пайшла дзякуючы настойлівым парадам маёй італьянскай калегі Джульеты Сяміянаты, якая дапамагла мне паверыць у свае творчыя сілы, і праграму для выступлення рыхтавала ўжо ў Італіі. Паколькі ў журы конкурсу не было нікога з Савецкага Саюза, я магу смела ганарыцца сваёй перамогай і лічыць яе падарункам рэспубліцы.

Той конкурс быў вельмі складаны па сваёй праграме. Па-першае, вакальны рэпертуар павінен выконвацца толькі на мове арыгінала. (Дзякуючы гэтаму я ўдасканаліла сваю італьянскую і французскую мовы). Па-другое, ты загадзя не ведаеш, што і ў якім туры будзеш спяваць. Выходзіш на сцэну, і толькі тады член журы аб'яўляе праграму...

Ужо пасля стажыроўкі я павінна была спяваць у спектаклі «Рыгалета» ў оперным тэатры горада Павія (дарэчы, гэта старажытная сталіца Італіі), у вельмі прэстыжнай зале «Міні-Скала». Тэлеграма ад імпрэсарыо прыйшла ў Маскву, і адтуль адказалі, што я захварэла і прыехаць не змагу. А там ужо білеты былі прададзены, афішы надрукаваны... Так я згубіла гастролі і сувязь з імпрэсарыо. На Захадзе як? Калі ты аднойчы падвёў, з табой больш ніякіх спраў не маюць. А я толькі пазней пра ўсё даведалася... Зараз гавару пра гэта спакойна, бо прайшло нямала часу і многае змянілася да лепшага: зараз пытанні кантрактаў вырашаюцца непасрэдна з артыстам або калектывам.

**— Пра оперных спевакоў у нашым друку пішацца да крыўднага мала. Шырокі глядач і слухач часам проста не ведае, што стаіць за пэўным прозвішчам. А як да гэтага ставяцца самі артысты!**

— У творчай біяграфіі любога спевака гэта адзін з самых балючых момантаў. Таму што ў кожнага творчага чалавека ёсць жаданне мець сваю аўдыторыю, свайго слухача. За мяжой палова поспеху артыста залежыць ад рэкламы, у шырокім сэнсе гэтага слова — афішы, буклеты, праграмкі, артыкулы ў друку пра ягоную творчасць, інтэрв'ю з ім. Адным словам, ад таго, як ён будзе «пададзены» шырокай публіцы. На Захадзе «зорку» робіць менеджэр, імпрэсарыо.

**— У Заходняй Еўропе і Амерыцы апошнім часам назіраецца каласальная цікавасць да класічнага, опернага мастацтва. Нашы дырыжоры, рэжысёры, вяртаючыся адтуль, расказваюць, што слухачы вельмі часта прыходзяць на спектакль з уласнай партытурай і па ёй сочаць за дакладнасцю і майстэрствам аркестра і салістаў. Мы калі-небудзь дажывём да гэтага ці не!**

— Мне здаецца, у нас прынцыпова няправільны падыход да прапаганды, папулярызацыі музыкі. Радыё, тэлебачанне перапоўнены музыкай, песнямі вельмі нізкага мастацкага ўзроўню, безгустоўнымі, пошлымі. Якую праграму ні ўключыш, усюды цяжкі рок! Паверце, я досыць прыязна стаўлюся да лепшых узораў рок-музыкі. Але чаму я не магу выбраць, што мне слухаць? Наша моладзь ніякай іншай музыкі проста не ведае. Сотні, тысячы людзей нават не падазраюць пра існаванне тых музычных скарбаў, якія б, я ўпэўнена, зрабілі іх жыццё больш прыгожым і шчаслівым, калі б былі для іх даступнымі. Маладым людзям навязваецца культура пэўнага гатунку. Дык ці можа быць іншы вынік?..

Ды ўвогуле, мне здаецца, прапагандай, папулярызацыяй нацыянальнага мастацтва на рэспубліканскім радыё і тэлебачанні павінны займацца людзі, якія не толькі з павагай, ашчадна ставяцца да роднай культуры, але і самі любяць опернае мастацтва. Літоўцы, напрыклад, запісваюць цалкам оперныя класічныя спектаклі свайго тэатра, украінцы здымаюць яркія, таленавітыя фільмы пра сваіх выдатных спевакоў, а мы — толькі трансліруем, і то зрэдку.

Калі я толькі пачала спяваць, з прафесійнай сцэны пайшлі цудоўныя беларускія спевакі. Можна сказаць, змянілася пакаленне, чыё творчае жыццё — удумайцеся, цэлае жыццё! — прайшло на беларускай сцэне. А што ад іх засталося? Да прыкладу, мне як выкладчыку кансерваторыі хацелася б паказаць сваім студэнтам фільм пра творчасць цудоўнай спявачкі Тамары Шымко. Нічога няма! Па тэлебачанні ідзе перадача пра нашу славутую «зорку» Ларысу Пампееўну Александроўскую. Ізноў — некалькі здымкаў і голас з пласцінкі. Няма стужак. Амаль нічога не знята! І самае жахлівае, што гэта нікога не вучыць. Мы не зберaглі каранёў беларускага вакальнага мастацтва, а чакаем маладых парасткаў са шчодрымі пладамі.

Багацце краіны выяўляецца найперш у духоўнай культуры народа. Мы ўрэшце гэта зразумелі і зараз адкрыта гаворым пра тое, што высокую духоўнасць, маральную чысціню мы страцілі. У гэтым корань, першапрычына ўсіх нашых невырашальных праблем. Шкада, што абарваліся, аказаліся страчанымі многія культурныя традыцыі. Згадайце, наша краіна ў XIX стагоддзі была цэнтрам музычнай культуры Еўропы. Сюды прыязджалі лепшыя музыканты, сюды былі скіраваны ўсе погляды, думкі (на таленавітых людзей наша дзяржава заўсёды была багатая). А зараз?

Тое сапраўды бядотнае становішча, у якім апынулася наша культура,— гэта вынік нават не матэрыяльнай нястачы, а найперш страты духоўнага пачатку. Я веру, што сітуацыя ў культуры зменіцца, але не думаю, што гэта адбудзецца надта хутка. Для таго, каб выхаваць духоўна багатага чалавека, які б мог быць **саўдзельнікам** творчага працэсу, трэба, каб прайшло не адно пакаленне. І для гэтага ўсім нам трэба шмат працаваць...

**Таццяна МУШЫНСКАЯ.**
**Фота з архіва артысткі.**

● **Н а з д ы м к а х: Віялета ў оперы Дж. Вердзі «Травіята».**

ДЗІЦЯЧАЯ СТАРОНКА «СОНЕЙКА»

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

Баліць галава
Ці калена пабіта —
Ідзі на лячэнне
Да (акуляры).



**Уладзімір ЯГОЎДЗІК**

# ЛАСТАЎКА

Загадаю табе, дружа, загадку. Толькі слухай уважліва, інакш не здагадаешся, пра каго ідзе размова.

Спераду шыльца, ззаду вільцы, наверсе чорнае сукно, падыспадам белае палатно. За мора хадзіла, па-нямецку гаварыла, па-французску адказвала. Што за разумніца такая?

Не спяшайся адказваць, падумай як след. А я табе тым часам раскажу пра ластавак. Гэтых птушак-шчабятушак, бадай, усе ведаюць і бачылі. Жывуць яны і ў вёсцы, і ў горадзе, і нават у стромкіх берагах рэчак. Дарэчы, гэтых ластавак так і называюць — ластаўкі берагавушкі. Дзюбаю і лапкамі яны капаюць у пяску глыбокую норку, дзе і выводзяць птушанят. А вось вясковая і гарадская ластаўкі гняздо сабе лепяць. З камячкоў гліны, змочаных слінаю травінак і розных валасінак. Мо трошкі й цесна, але зусім не страшна ў такім гняздзе птушанятам. Каб накарміць іх, ластаўкі нястомна ловяць камароў, мушак, іншых дробных крылатых шкоднікаў. Зрэдку прысядуць адпачыць ды шчабечуць-здзіўляюцца: «Вой, вой, нікому так не добра, як пастуху! І дома наесца, і ў поле набярэцца — дый яшчэ мала! Сядзе пад бярозай — дый е-есць, дый е-есць!..» Так, прынамсі, пераклалі на чалавечую мову ластаўчыну песеньку нашы прадзеды.

А ці заўважыў ты, дружа, што вясковая і гарадская ластаўкі лепяць свае гнёзды як мага бліжэй да людзей? Проста пад вокнамі, а то і ў будынках на гарышчы. Паслухай, як пачалося шчырае сяброўства чалавека з ластаўкай.

Было тое даўно. На Беларусі ўладарыла гадзюка-царыца. Усе ёй прыслужвалі: і птушкі, і звяры. Адны людзі не баяліся страшнай уладаркі. Захацелася гадаўцы выжыць з родных мясцін нашых прашчураў. Заклікала яна да сябе ўсіх звяроў і птушак, спыталася:

«Ці ведаеце вы, чыя кроў найсмачнейшая?»

Усчалася такая спрэчка, ажно лес загудзеў. Кожны сваё даводзіў і ні з кім не пагаджаўся.

Нарэшце зноў падала свой голас царыца-гадзюка:

«Хопіць спрачацца! Папросім камара — няхай усюды палётае, усялякай крыві пакаштуе дый скажа нам, чыя найсмачнейшая. На таго мы ўсе разам і накінемся, бо ён — самы першы наш вораг...»

Пагадзіліся звяры і птушкі з гэтаю прапановаю. А камар, не марудзячы, па-а-ляцеў з лесу проста да вёскі. Удала напіўся там людской крыві і з радасным звонам вяртаецца назад. Аж тут сустрэла яго ластаўка і пытаецца:

«Камарок доўгі насок, чыя кроў найсмачнейшая?»

«Людз-дз-дзей!..» — не задумваючыся, забзыкаў камар.

«Дай мне кропельку пакаштаваць»,— папрасіла ластаўка.

Высунуў камар язычок, а ластаўка дзюбкаю — цоп за яго! — і вырвала.

Неўзабаве вярнуўся камар да лясной грамады. Усе дапытваюцца ў яго, чыя кроў найсмачнейшая, а ён у адказ:

«Дз-дз-дз-дз...»

І ні слова больш.

Пазелянела ад злосці гадзюка:

«Ці ты скажаш нам, чыя кроў найсмачнейшая, ці самога цябе прызнаем за першага ворага!»

«Дз-дз-дз-дз!..— яшчэ мацней зазвінеў ад страху на ўвесь лес камар.— Бз-бз-бз-бз!..»

Пасля здагадаўся паказаць усім, што ён застаўся без языка. А калі царыца-гадзюка спыталася, хто яго пакалечыў, то камар падляцеў да ластаўкі.

Кінулася гадаўка да птушкі, схапіла вострымі зубкамі за яе хвосцік. Ды, відаць, не надта моцна ўхапіла. Вырвалася ластавачка і паляцела ў вёску да людзей. Так і застаўся ў яе вілаваты, нібы выскубены, хвосцік. І як ні апраўдваўся пасля камар — усё роўна ад тае пары птушкі і звяры яго вельмі не любяць, лічаць за першага ворага.

Так яму і трэба.

А ці помніш ты, дружа, пра маю загадку? Калі запомніў, загадай яе свайму сябру. Ды перакажы яму ўсё, што пачуў пра ластаўку.

## *Мы з мультфільмаў і казак, адгадай без падказак*

Ступа, мятла,
Касцяная нага —
Усё гэта мае
(Баба Яга).

Я з мультфільма персанаж
І любімы сябар ваш.
Дайце мёду — з'ем за двух.
Я вясёлы (Вінні-Пух).

Імя, як сонейка, пяшчотнае,
Сама прыгожая, лагодная.
На баль прыехала ў карэце,
Такой няма на цэлым свеце.
(Папялушка).

Ішла да бабулі дзяўчынка
Знаёмай лясною сцяжынкай.
І кожнае дрэўца дзяўчынку
вітала.
Ды раптам яна
ваўка напаткала.
(Чырвоная Шапачка).






**Міхась ПАЗНЯКОЎ**

### *Вожык-кравец*

На палянацы лясной,
За ялінкаю густой,
Сеўшы на сухі пянёк,
Шые вожык кажушок.
Аж да самых пят — памер,
Ніз абшыў,
Абшыў каўнер.
Хоць не вельмі модны крой —
Будзе цёпленька зімой.

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

### *Хлопчык у паname белай*

Веласіпед мой сіні!
Ён шчыра рэйсу рад —
Сцяжынкамі усімі
Аб'ехаў тройчы сад.

Прахожы дзядзька збочыў,
Імчуся стрымгалоў.
І раптам — хлопчык, хлопчык!
Ён выбег з-за кустоў.

Ён толькі што, вясёлы,
Там галубоў карміў.
А я, праклятая,
колам малога зачапіў!

Скацілася панама,
Ў крыві калені, нос.
І плакаў я таксама,
Калі яго панёс.

Мой блізка дом.
А дома ёсць вата, бінт і ёд.
Стаў лекарам на момант,
Падаў і чай, і мёд.

Ад сораму, ад болю
Сябе гатоў пабіць.
Хлапчук не плакаў болей:
— А мне ўжо не баліць!

Затое мне балела!
І часта, часта ў сне
Малы ў панамцы белай
Глядзеў у вочы мне.

*Вершы французскае пісьменніцы Кармэн Барнос дэ Гаштольд нам, выхаваным на савецкай дзіцячай літаратуры, пападуцца дзіўнымі і празмерна дарослымі. А вось у Францыі, Бельгіі дзеці добра ведаюць і любяць яе «Малітвы жывёл». Давайце прачытаем і мы некалькі яе вершаў-малітваў у перакладзе Сяргея Кавалёва і задумаемся над іх зместам.*

### *Малітва вала*

Літасцівы Божа,
дай мне крыху часу!
Людзі спрадвеку мяне
кудысьці гоняць!
Зрабі так, каб нарэшце
яны зразумелі,
што я не магу спяшацца.
Я не маю часу, каб есці,
не маю часу, каб хадзіць
сам па сабе,
не маю часу, каб спаць,
не маю часу, каб думаць.
Дай мне крыху часу!
Аман.

### *Малітва сабакі*

Божа,
я — на варце!
Без мяне
хто будзе ахоўваць іхні дом,
пільнаваць іхніх авечак?
Хто будзе
захоўваць вернасць?
Ніхто — апроч Цябе
і мяне —
не ведае, што такое вернасць.
Кажуць мне: «Добры сабачка!
Паслухмяны сабачка!»

Гэта толькі словы...
Паблажліва тузаюць,
кідаюць мне старыя косткі
і вельмі з таго ўсцешваюцца.
Прымаю ўсё,
бо яны лічаць, што мне
так добра.
Часам нехта з іх дасць
мне выспятка,
калі траплюся на ягоным
шляху.
Прымаю і гэта, бо што
мне зробіцца!

Я — на варце!
Божа,
не дай мне памерці,
пакуль хоць нешта ім
пагражае!
Аман.

### *Малітва парсюка*

Божа,
іхняя выхаванасць
мяне смешыць.
Так, я рохкаю!
Рохкаю і фыркаю!
Рохкаю, бо рохкаю
і фыркаю, бо нічога
іншага не ўмею.
Але я не збіраюся дзякаваць
ім за тое,
што яны адкормліваюць
мяне на беконы.
Чаму Ты стварыў мяне
такім чулым?

Што за лёс!
Божа, навучы мяне гаварыць.
Аман.

### *Малітва чарапахі*

Хвілінку...
Крышачку трывання,
мой Божа.
Ужо іду...
Як і кожны,
падпарадкоўваюся
сваёй натуры,
але ж не я стварыла
яе такой.
Не хачу крытыкаваць
гэтую хатку на маёй спіне —
яна мае свае выгоды.
Але мусіш згадзіцца, Божа,
што насіць яе досыць цяжка.
Аднак маю надзею,
што, хоць я шчыльна
адгароджаная ад свету,
як у сваім панцыры,
так і ў сваім сэрцы,
я ніколі не буду
адгароджаная —
ад Цябе.
Аман.






Афармленне
Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.
Фота Віктара ЖЫЛІНА.

Міхась
ДАНІЛЕНКА



# ЗОНА МАЎЧАННЯ

АПАВЯДАННЕ

Сын Макара Крутаўцова прыўзняў калючы дрот. Калючкі даўно пакрыліся чырвонай іржой. Некалі тут ужо нехта пралазіў праз загароду. За Сяргеем, пакрэктваючы, пралез Макар. За ім — я.

— Будзь яно няладна: усё адно як некалі ўцякалі мы з табой з канцлагера,— прабурчаў Макар, паварочваючыся да мяне.

Я прамаўчаў — адчуваў сябе не тое што лішнім тут, а ведаў: удзельнічаю ў незаконнай справе.

Даўно ўжо Крутаўцоў угаварыў мяне прабрацца цішком праз калючы дрот у яго Рудню і пабываць на сядзібе, дзе прайшло, лічы, амаль усё яго жыццё. Так атрымалася, што ў ваеннае ліхалецце дасталася нам з Макарам ліха пад самую завязку. Зрэдку і сустракаліся пасля з ім. А ў апошнія гады і жывём у адным горадзе. Я падахвоціўся, і вось сігаем — малады Сяргей, Макар і я — па высачэзным, здзічэлым бур'яне.

Мёртвая цішыня панавала над Рудняй. Дзесьці каркала варона — быццам нечым падавілася. Па зарослых высачэзнай травой гародах, сярод лапухоў — з лісцём, бы парашуты,— значыліся свежыя барозны.

— Дзікі,— растлумачыў Крутаўцоў.— Абнаглелі чэрці: жаруць яблыкі-падалкі ў калгасным садзе. А нанач — сам бачыў: забіраюцца начаваць у хлявы...

Бур'ян сцябаў па чаравіках. Патрэсквалі сухія сцябліны палыну. Ад расы намоклі калашыны штаноў. Да Макаравай хаты падышлі праз агарод, дзе ў канцы гусціўся ладны бярэзнічак. На вокнах, як бельмы, былі прыбіты пацямнелыя ад дажджоў дошкі. Патрэскалася ад часу ліштва. Зарыпелі пад нагамі масніцы ганка. На ўсім ляжаў пыл, пахла трухой, запусценнем.

Сяргей адчыніў дзверы. Я паглядзеў на худы, змучаны твар Крутаўцова. Макар зняў шапку. Ля вушэй бялелі касмылі валасоў — галава ў яго даўно аблысела. Тут жыў Макараў дзед. На мясцовых могілках Крутаўцоў пахаваў бацьку. Адсюль чорная бяда пагнала чалавека ў далёкую мясціну — на новае месца. Але і там — як казаў Макар — дазіметры выявілі цэзій у глебе. Прыйшлося перабірацца ў горад, дзе цяпер ён жыў; затое цяпер мы часцей з ім бачымся.

У пустым куце пакрылася пылам бажніца.

Мы пераступілі парог другога пакоя. Сяргей, які ішоў першым, павярнуўся да нас і падняў палец:

— Ціха.

Ён паказаў на пінжак, што вісеў на спінцы крэсла. «Нехта тут жыве»,— здагадаліся мы. Крутаўцоў абмацаў кішэні паношанага, але яшчэ даволі неблагога пінжака. Дастаў пашпарт.

— Сямёнаў Анатоль Ільіч,— услых прачытаў ён.

Паглядзеў лісток, дзе стаяў штамп прапіскі.

Мы пераглянуліся. «Адкуль яго чорт занёс у гэтыя мёртвыя мясціны?» — пранеслася ў маёй галаве.

Раптам у двары пачуліся асцярожныя крокі. Нехта адчыняў веснічкі, паціху ішоў да веранды. Мы прыталіся за шырачэзнай шафай, дзе за шклом віднеўся сякі-такі посуд.

Расчыніліся дзверы, і парог пераступіў высокі дзяцюк з тварам, пакрытым рыжым шчаціннем. Сяргей ірвануў яго за плячо. Мы выскачылі з-за шафы.

— Ты што ў чужым доме робіш? — крыкнуў Сяргей.

Дрыжачымі рукамі Макар пачаў мацаць пад ложкам. Там у яго некалі ляжала сякера. Дзіўна, але наш новы знаёмы Анатоль Ільіч не вельмі збянтэжыўся.

— А вы чаго тут?

— Я тут свой век звекаваў,— падняў галаву ад ложка Крутаўцоў.— Гэта мой дом.

Дзяцюк прысеў на крэсла. Дастаў пачак цыгарэт. Закурыў. Пальцы ў яго ўсё ж прыкметна дрыжэлі.

— А я — паглядзіце ў пашпарт — прыехаў сюды з-пад Урала. Абразы збіраю. Навошта ж дабру прападаць.

Аказваецца, гэты бадзяга Сямёнаў жыў у Рудні цэлы тыдзень. У запыленым буфеце мы ўбачылі чэрствы бохан хлеба, шмат пажаўцелага сала.

— Каму — гора, каму — нажыва,— уздыхнуў Крутаўцоў.

Ён адразу неяк астыў, згорблены прысеў на ложак і папрасіў у няпрошанага кватаранта цыгарэту.

Нейкі час мы ўсе ўчатырох маўчалі. Потым Макар плюнуў, падняўся і рашуча пайшоў з хаты. Услед за ім падаліся і мы з Сяргеем. У хляве, куды завёў нас Сяргей, убачылі сапраўды свежыя лежні — відаць, тут начавалі дзікія свінні. Усё яшчэ недзе каркала варона.

Ледзь не подбегам Макар вёў нас назад з Рудні да таго месца, дзе каля слупа лёгка можна было прыўзняць калючы дрот і выйсці з гэтай праклятай богам і лёсам вёскі. Калі падыходзілі да бярэзніку, я азірнуўся. Дзяцюк перагнуўся на плот ля Макаравага хлява і спакойна глядзеў нам услед. «Цікава, ці ўсе іконы ён павыцягваў з дамоў? — падумалася мне.— Ды і іконы ў Рудні наўрад ці ўяўляюць каштоўнасць».

Бур'ян хвастаў па нагах. Пачало паволі сутоньвацца. Прыцемкі папаўзлі з лагоў, дзе некалі пасвіліся калгасныя каровы. Крутаўцоў цяпер крочыў першым: ён стараўся так кіраваць, каб нас не заўважылі з прапускнога пункта, які быў дзесьці не вельмі далёка адсюль. Мёртвая зона заставалася за намі. Раптам святло фар палыхнула з-за павароту вуліцы. Мы затаіліся. «Газік» паволі ехаў ад прапускнога пункта сюды, у цэнтр вуліцы, дзе стаялі будынкі сельмага, крама, кравецкая майстэрня. Два мужчыны ў вайсковай форме выйшлі з машыны і, пасвечваючы ліхтарыкамі, накіраваліся да будынка сельмага. Агледзелі дзверы, пасвяцілі на вокны з жалезнымі засовамі, якімі некалі замыкаліся аканіцы, і аб нечым ціха пачалі паміж сабою раіцца.

Праз колькі хвілін мы былі ўжо далёка ад гэтых страшных, мёртвых мясцін.

Малюнак Анатоля АЛЕКСАНДРОВІЧА.





## СЛУЖБА



## ЎЗАЕМАДАПАМОГІ

**▣ Па шматлікіх просьбах чытачоў нагадваем умовы работы «Службы ўзаемадапамогі».**

**▣ Грамадскі аддзел «Узаемадапамога» створан у нашым часопісе, каб даць людзям магчымасць зрабіць адзін аднаму паслугу, аказаць дапамогу, знайсці сяброў.**

**▣ Улічваючы, што пераважную большасць пошты складаюць сёння лісты, у якіх выказваецца жаданне знайсці сябра ці спадарожніка жыцця, мы будзем адбіраць толькі тыя з іх, аўтары якіх самі прапануюць чытачам дапамогу, распавядаюць пра нешта карыснае, цікавае, сваё.**

**▣ Аб'явы ва «Узаемадапамозе» друкуюцца бясплатна.**

**▣ Аб'явы могуць змяшчацца за подпісам аўтара ці, калі ён таго пажадае, мець лічбавы індэкс. У водгуках жа просім абавязкова пазначаць індэкс аб'явы, якая вас зацікавіла, што дазволіць нам у найкарацейшы тэрмін звязаць вас з патрэбным чалавекам.**

**▣ Паколькі «Узаемадапамога» атрымлівае надзвычай многа пісьмаў, мы не можам весці перапіску з асобнымі аўтарамі. Ды і мэта аддзела іншая: чытачы павінны самі адказваць адзін аднаму.**

**▣ Адрасы тых, чые аб'явы былі надрукаваны пад кодам, рэдакцыя не дасылае. Калі вы вырашылі звязацца з тым ці іншым аўтарам надрукаванай аб'явы, дашліце пісьмо ў рэдакцыю і ўкажыце лічбавы індэкс ліста, які вас зацікавіў.**

**▣ Калі вы адгукнуліся на аб'яву, якая была надрукавана ў часопісе, а адказу не дачакаліся, не трэба крыўдаваць на рэдакцыю — мы робім сваю справу дакладна, і ўсе пісьмы знаходзяць сваіх адрасатаў. Значыць, сам чалавек, які вас зацікавіў, не знайшоў магчымасці вам адказаць.**

**▣ Карыстаючыся выпадкам, заклікаем тых, чые аб'явы трапілі на старонку часопіса, абавязкова адказваць на ўсе лісты, якія мы вам дасылаем.**

**І апошняе. Мы атрымліваем сотні і сотні просьбаў надрукаваць тую альбо іншую аб'яву. Магчымасці ж для публікацыі, як вы самі бачыце,-- даволі абмежаваныя: усяго адна часопісная старонка. Таму просім зразумець нас правільна тых, чые аб'явы не трапілі ў выпускі «Узаемадапамогі». Шчыра верым: вам яшчэ пашанцуе ў жыцці!**

### НАПІШЫЦЕ МІХАЛУ Ў ГАЙНАЎКУ

У № 51 беластоцкай «Нівы» за мінулы год быў надрукаваны мой ліст, у якім я запрашаў да перапіскі свядомых суайчыннікаў у Польшчы. Неўзабаве атрымаў першы водгук. Наш суайчыннік з Гайнаўкі Міхал Келбашэўскі звярнуўся да мяне з просьбай, каб я дапамог яму адшукаць калегу па хобі ў Беларусі — ён аматар народнае музыкі, грае на гармоніку і вельмі хоча наладзіць перапіску з жыхаром Беларусі, прыкладна яго ўзросту, памяркоўным і шчырым, і каб у яго было гэткае ж хобі. Ён мае жонку і трох дзяцей. Калі б вы, шаноўная рэдакцыя, апублікавалі гэты зварот, як плённа працягнуўся б ланцужок узаемадапамогі! Пісаць Міхалу трэба на адрас: Polska, 17—200 Hajnowka, ul. M. Reja, 712.

Дарэчы, калі ёсць магчымасць, дык надрукуйце і мой зварот да равеснікаў (мне 33 гады, скончыў БПІ, працую інжынерам-канструктарам). Я хацеў бы перапісвацца з беларусам, ці беларускай, ці прадстаўніком іншае нацыянальнасці, якія цікавяцца беларускай мовай і культурай, гісторыяй Беларусі. Мой адрас: г. Мінск, 220053, Даўгінаўскі тракт, 54 а, кв. 6. АЛЯКСАНДРУ БЕЛАМУ.

### А ЯК ВЫЙДУ Ў ПОЛЕ...

Усё маё жыццё, можна сказаць,— выпрабаванне на здольнасць пераадольваць цяжкасці. З сямі гадоў пайшоў працаваць і вучыцца. Уяўляеце? Потым армія, а пасля зноў работа, няўтульны інтэрнат. Ажаніўся, пайшлі дзеці, а кватэры няма. За прыватную даводзілася плаціць 30, 40, 50 рублёў пры маім сціплым заробку. Але трэба было жыць і гадаваць дзяцей. Толькі абрыдла рабіць гэта ў горадзе, тым больш што ў вёсцы ў мяне быў свой дом. Дый ці можна параўнаць, як чалавеку дыхаецца на асфальце і як — у полі... Толькі абжыліся на вёсцы, як у хату прыйшло новае гора — памерла жонка. У свае 48 гадоў я застаўся ўдаўцом з двума сынамі (20 і 8 гадоў).

Можа, дзе жыве жанчына з падобным лёсам і захоча пераступіць парог нашага дома як сябар і гаспадыня? Пажадана, каб яна была маіх гадоў. Пры доме маю добры гарод і вялікі сад.

**Мікалай Іванавіч.** (322).

### ДА АПОШНЯГА КРОКУ

У маёй унучкі цяжкае калецтва ад нараджэння. Яна — глуханямая. Урачы робяць усё, што могуць, але пакуль ёсць мяжа іх магчымасцям. Надзея — на нетрадыцыйныя метады лячэння. Можа, хто што ведае, чуў, чытаў — дайце, калі ласка, знаць. І правільна зразумейце мой зварот. Я буду змагацца за здароўе дзіцяці, пакуль сама жывая, пакуль застаецца хоць самы нязначны шанс. Буду ісці гэтым цяжкім шляхам да апошняга кроку.

**Л. К.** (323).

### ЧАКАЮ ЗЯМЛЯЧКУ

Жадаў бы пазнаёміцца са сціплай, сімпатычнай, добрай і працавітай дзяўчынай з Гродзеншчыны, ва ўзросце 24—30 гадоў, якая б любіла вёску і сялянскую працу, не вельмі схільную да паўнаты. Пажадана, каб яна верыла ў Бога.

Мне 32 гады. Рост 177 см. Жанатым не быў. Па характару сціплы і крыху сарамлівы. Кажуць, што сімпатычны. Жыву і працую ў вёсцы, якая знаходзіцца паблізу ад раённага цэнтра. Месца прыгожае, і ні на якое другое яго не прамяняю. Матэрыяльна забяспечаны, маю невялікую гаспадарку. Кола маіх захапленняў разнастайнае. Гэта — літаратура, музыка, кіно, спорт, тэхніка.

**Юра.** (324).

### ДЗЕ ГЭТА ВУЛІЦА, ДЗЕ ГЭТЫ ДОМ!..

Вельмі шмат навокал дзяўчат і хлопцаў, якія не могуць вось так проста падысці і пазнаёміцца на вуліцы. А сябра мець вельмі хочацца. Гэта ж так здорава, калі ў цябе ёсць сапраўдныя сябры, хоць бы з-за таго, што можна ўволю выгаварыцца,— так ніколі не пагаворыш нават з роднымі бацькамі.

Многа моладзі жыве ў інтэрнатах, часам нават не ведаючы назвы суседняй вуліцы. А недзе ж ёсць і тая вуліца, і той дом, і той адзіны, да якога так імкнецца сэрца. Можа, сцяжынай да яго стане перапіска, якую ты дапаможаш наладзіць, шаноўная «Узаемадапамога»?

Мне 20 гадоў, кола інтарэсаў — самае шырокае, люблю новых сяброў, не забываю старых.

**Людміла.** (325).

Падрыхтавала Алена ШАБАЛІНА.
Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА.

## ДА ЎВАГІ ТЫХ, ХТО ШУКАЕ ЗГУБЛЕНЫХ У ВАЙНУ РОДЗІЧАЎ

**Працягваем распачатую ў № 2 «Беларусі» публікацыю спісаў савецкіх людзей, якія ў гады другой сусветнай вайны былі воляю лёсу закінуты на нямецкую зямлю і знайшлі ў гэтай зямлі свой апошні прытулак. Гэтыя спісы былі сабраны нямецкімі таварышамі. Можа, нехта знойдзе тут прозвішча, якое яго зацікавіць. За далейшымі даведкамі звяртайцеся ў рэдакцыю.**
**Майце на ўвазе, што ў напісанні тых ці іншых імёнаў і прозвішчаў могуць быць памылкі, зробленыя пры перакладзе нямецкімі таварышамі.**

| | |
|---|---|
| ГЛАДЗІЛІН Васіль | 1923 — 01.04.1945 |
| ГАРНАК Дар'я | 23.12.1923 — 26.08.1944 |
| ГУРАЎ Пётр | 16.11.1917 — 03.02.1945 |
| ГУСТА Яніна | 15.10.1899 — 11.02.1945 |
| ХАРАШЧАНКА Віктар | 13.05.1945 — 10.08.1945 |
| ХРЫСТАФОРАЎ Юзэф | 19.09.1921 — 19.05.1945 |
| ІПАТАЎ Павел | 26.10.1914 — 03.04.1945 |
| ЯФІМАЎ Рыгор | 15.02.1905 — 22.12.1944 |
| ЯРАЖЭНКА Сімон | 01.01.1915 — 22.12.1944 |
| ЮТКЕВІЧ Юзэф | 23.10.1917 — 22.02.1942 |
| КАРАКАШ Селма | 20.03.1924 — 14.07.1944 |
| КАРАЛОНЕКС Аўдон | 1919 — 21.02.1945 |
| КАРАВЕНКА Генадзь | 22.04.1919 — 22.12.1944 |
| КАРСАКІНА Ліба | 20.01.1926 — 09.08.1944 |
| КАСІБЕКАЎ Кумарбек | 1903 — 13.03.1945 |
| КАЛЕЧНІК Хведар | 15.04.1924 — 24.03.1943 |
| КАЛОДЗІН Мацвей | 25.08.1908 — 22.12.1944 |
| КАЛАНСОН Сімон | 27.09.1919 — 22.12.1944 |
| КАРНЛЕЙ Сава | 23.10.1905 — 23.03.1945 |
| КАЧАК Іван | 1910 — 08.05.1945 |
| КРАВЕЧЫК Клаўдзія | 1919 — 25.04.1945 |



# ЧАЛАВЕК— ЧАСЦІНКА СУСВЕТУ



**Імя старшыні Авестыйскай астралагічнай асацыяцыі, дырэктара міжнароднага астралагічнага Цэнтра пры прэзідыуме АН СССР Паўла ГЛОБЫ шырока вядома ў нашай краіне. Сёння астролаг Павел ГЛОБА госць нашай рэдакцыі.**

Дзеці прыходзяць у наш дом гасцямі — дасягнуўшы паўналецця яны могуць нас пакінуць. У дзіцяці ёсць свой асабісты лёс і свая праграма, умешвацца ў якую проста недаравальна. А праяўляць дэспатызм у адносінах да дзіцяці — злачынства. Іншая справа, што ў бацькоў і дзяцей ёсць блізкія параметры. Мы, астролагі, параўнаўшы гараскопы дзяцей і бацькоў, можам сказаць, якія ў дзіцяці спадчынныя прыкметы ад бацькі і якія — ад маці, на каго яно будзе падобна.

Па гараскопу дзіцяці можна вызначыць, якія рысы характару ў ім праявяцца. Сыходзячы з гэтых прыкмет, з яго асобы, унікальнай і непаўторнай, мы вызначаем генетычную лінію, па якой яно можа пайсці. Яго характар можа і не адпавядаць характару бацькоў, і дзіця будзе развівацца па іншай лініі — яно будзе генетычным або кармічным вандроўнікам.

Старажытныя астролагі пакінулі нам унікальную сістэму ацэнкі чалавечай асобы, ацэнкі яго магчымасцей, якая дазваляе прадвызначыць жыццёвы шлях чалавека, на якім ён раскрые найбольш поўна свае здольнасці. Сыходзячы з гэтых даных, у старажытнасці стваралі праграму выхавання для кожнага дзіцяці індывідуальна. У нашай краіне больш як 70 гадоў ідуць размовы, што ў выхаванні трэба ўлічваць асобу дзіцяці. А па сутнасці, у сістэме адукацыі і выхавання на першае месца ставіцца выхаванне, а спадчынныя прыкметы не адыгрываюць ніякай ролі.

У старажытнасці гаварылі: усё ў свеце ўзаемазвязана. Сусвет — адзіная цэласная сістэма. Тое, што наверсе, падобна на тое, што ўнізе. І чалавек — часцінка Сусвету. І як любая часцінка, адлюстроўвае ўсю структуру. І таму нават вонкава чалавек адлюстроўвае ўсё тое, што нясе ў сабе ўсярэдзіне.

Па некаторых рысах твару можна сказаць, якія задаткі могуць быць у чалавека. А гэта падказвае, як ён будзе развівацца, на што арыентавацца ў выхаванні. Вялікае значэнне, да прыкладу, мае пабудова... вуха. Сёння ўжо даказана, што вуха — гэта чалавечы эмбрыён у мініяцюры. У вуху маецца шмат энергетычных кропак, таму раней не рэкамендавалася пракалваць вушы, каб не парушыць кропку жыцця, якая знаходзіцца пасярэдзіне вуха. У многіх людзей пасля пракалвання вуха можа развівацца блізарукасць або, наадварот, дальназоркасць.

Форма вуха падказвае і тое, наколькі дзіця будзе самастойным у жыцці. Пра гэта гаворыць мочка вуха. Чаму менавіта мочка? Таму што яна нібыта ўвасабляе галаву чалавека, выконвае функцыю галаўнога мозгу ў мініяцюрным «эмбрыёне». У чалавека, які мае патрэбу ў кіраўніцтве, мочка прыціснута да галавы. Гэты чалавек у некаторай ступені не самастойны, і для таго, каб ён выканаў сваю жыццёвую праграму, яму неабходна апека, правільная выхаваўчая сістэма. Чалавеку, у якога мочка не прырастае да галавы, няма неабходнасці ў нейчым кіраўніцтве, ён можа самастойна авалодваць складанымі навыкамі і займацца самавыхаваннем.

Радзімыя знакі на целе чалавека паказваюць тое ж, што і спрыяльныя мясціны на целе зямлі, бо цела зямлі і цела чалавека ўзаемазвязаны. Нашы радзімыя плямы вывучаюцца навукай морфаскапіяй. Гэта старажытная сістэма зараз зусім забытая ў адрозненне ад фізіягномікі. Па радзімых знаках, іх пабудове і размяшчэнню на розных частках цела вызначаюцца здольнасці чалавека, а таксама схільнасць да жыццёвых падзей і сітуацый. Скажам, да шчаслівых выпадкаў ці катастроф.

Іначай, чым мы, адносіліся ў старажытнасці і да выбару імені. Раней лічылі, што імя нясе чалавеку пэўную жыццёвую праграму. Спецыяльная навука аб лічбах — нумаралогія — сцвярджала, што многія законы нашага свету могуць быць інтэрпрэтаваны і ўвасоблены з дапамогай лічбавых узаемаадносін. Лічба з'яўлялася патаемным носьбітам інфармацыі, з яе дапамогай можна было аднавіць любую сітуацыю, пабудаваць яе матэматычную мадэль. Праўда, матэматыка ў старажытнасці не была такой схаластычнай, як сучасная, яна грунтавалася на паняцці аб так званых жывых лічбах. Невыпадковымі былі і знакі алфавіта — яны адлюстроўвалі код цэлага народа. У нашай кірыліцы, якая існуе стагоддзі, кожная літара алфавіта таксама можа быць інтэрпрэтавана як лічба. Сума гэтых лічбаў, калі браць імя чалавека, вызначае астральны код чалавека. Гэтак жа і прозвішча, і імя па бацьку.

Галоўнае для старажытных людзей было супастаўленне імені чалавека з данымі яго гараскопа. Імя, якое не адпавядала гараскопу, было баластам. Пастаяннае вымаўленне такога імені стварае ў чалавеку незадаволенасць, расчараванне, зніжае яго аўтарытэт. Таму імя чалавеку падбіралася ў строгай адпаведнасці з касмічнай праграмай.

Шмат разоў мы пераконваліся, што людзі, названыя імем, якое не адпавядае гараскопу, моцна ад гэтага пакутуюць. У выпадках, калі гараскоп гаворыць аб стабільнасці чалавека, «не сваё» імя не прыносіць яму небяспекі. Людзі ж, у гараскопе якіх Месяц і Марс размешчаны пад вуглом 90° або Месяц знаходзіцца ў апазіцыі да Урана, надзвычай ранімыя, схільныя да неўрозаў, і для іх трэба асабліва старанна падбіраць імя.

Для тых, хто не ведае астралогіі, але жадае праверыць адпаведнасць імені дзіцяці яго гараскопу, я магу парэкамендаваць кнігу амерыканскага астролага Лінды Гудмен «Сонечныя знакі». Аўтар кнігі — тонкі псіхолаг, яна надзвычай прафесійна і даступна расказвае, як паводзіць сябе з дзіцем з пункту гледжання даты яго нараджэння.

Неўзабаве выйдзе і наша з Тамарай кніга «Зорная кніга лічбаў» — вынік нашай пятнаццацігадовай працы. Да кнігі мы дадаём слоўнік імён у розных інтэрпрэтацыях.

Фота Якава **МЯЦЕЛІЦЫ.**

— Яна ні ў чым не хоча здацца горшай за іх.
— А вы яму паверылі?
— Спачатку.
— А потым?
— А потым засумнявалася.
— Чаму?
— Надта ўжо добра ён зарабляў.
— Надта?
— Не ведаю, што для вас — «надта». Праз некалькі месяцаў ён сказаў маці, што яму зноў павялічылі зарплату, бо прызначылі памочнікам дырэктара. Маці пачала спрачацца: яна хацела, каб ён не пісаўся больш у пашпарце кладаўшчыком — яна гэтага заўсёды саромелася. Яна адчувала прыніжанасць праз тое, што яе муж — кладаўшчык! А ён адказаў, што не варта мітусіцца з-за такой драбніцы, былі б адно грошы.
— У гэты момант вы з бацькам, мабыць, пераглянуліся?
— Ён заўсёды, калі быў упэўнены, што маці не бачыць, пераглядваўся са мною. З таго часу ён пачаў падкладваць мне ў сумку грошы. Уранку, калі-нікалі.
— Каб заплаціць за ваша маўчанне?
— Не, чаму? Проста яму падабалася дапамагаць мне.
— Вы казалі, час ад часу ён запрашаў вас абедаць.
— Запрашаў. Шэптам назначаў спатканне і частаваў у рэстаране самымі дарагімі стравамі. Ён мяне і ў кіно запрашаў.
— І ўвесь гэты час вы сустракалі яго ў Парыжы ў жоўтых чаравіках?
— Заўсёды. Я спыталася ў яго, дзе ён пераабуваецца, і ён сказаў мне, што здымае для сваіх спраў пакой у Парыжы.
— Ён вам даў адрас?
— Не адразу. Прайшло яшчэ багата часу.
— У вас ужо быў які-небудзь сябра?
— Не.
— А калі вы пазнаёміліся з Альбэрам Жарысам?
Яна не запнулася, не пачырванела. Відаць, яна і да гэтага пытання падрыхтавалася.
— Месяцаў пяць назад.
— Вы яго, прабачце, кахаеце?
— Мы павінны разам з'ехаць.
— Каб ажаніцца?
— Тады, калі можна будзе. Пакуль яму яшчэ толькі дзевятнаццаць і ён не можа ажаніцца без згоды бацькоў.
— А бацькі яе не даюць?
— І не дадуць.
— Чаму?
— Дык у яго ж яшчэ нічога няма: ні працы нармальнай, ні адукацыі. Бацькі ж толькі пра гэта і думаюць. Як мая маці.
— І куды ж вы збіраецеся ехаць?
— У Паўднёвую Амерыку. Я ўжо падала заяву на візу.



# Чалавек на лаўцы

Ж о р ж СІМЯНОН. Працяг. Пачатак у №№ 1—5.

— Ён глядзеў на мяне гэтаксама ж, як і на любую іншую жанчыну з нашага аддзела.
— Значыцца, вы сустрэліся зноў пасля закрыцця фірмы?
— Так. Месяцаў праз восем — дзевяць пасля смерці мужа.
— Выпадкова?
— Выпадкова. Мне прыйшлося шукаць працу — вы ж разумееце, на пенсію ўдавы не пражывеш. Суседка пазнаёміла мяне з дырэктарам кінатэатра, і я ўладкавалася білецёркай. Пры жыцці мужа я не працавала, хіба што кароткі час у Капланаў... Скажыце, газеты не будуць пісаць пра мяне?
— Не. Можаце не баяцца.
— Дырэктар такі строгі, я магу страціць месца... Дык вось, у кінатэатры мы з панам Луі і сустрэліся... Неяк на ранішнім сеансе. Я яго пазнала, калі паказвала, дзе сесці. Ён таксама пазнаў мяне. Ніякай асаблівай размовы тады паміж намі не было, але з той пары ён стаў часта прыходзіць да нас і заўсёды на ранішнія сеансы. Аднаго разу прапанаваў мне схадзіць з ім у кавярню. Я згадзілася.
— Ён тады ўжо здымаў пакой на вуліцы Ангулем?
— Думаю, здымаў.
— Ён казаў, што нідзе не працуе?
— Не. Сказаў толькі, што ўдзень заўсёды вольны.
— І вы так і не даведаліся, чым ён займаўся?
— Не. Я ніколі б не стала ў яго пра гэта пытацца.
— А пра жонку ці дачку ён расказваў?
— Шмат.
— Што менавіта?
Ведаеце, цяжка перадаць... Калі чалавек няшчасны ў сям'і, ён пра гэта часта загаворвае... Жонка яго з-за сясцёр зневажала. У сясцёр мужы добра ўладкаваныя, бясплатны праезд усёй сям'і, пенсія... Яны ўсе папракалі Луі за тое, што ён не імкнецца знайсці што-небудзь лепшае за месца кладаўшчыка...
— Куды ж вы, прабачце, хадзілі ўдваіх?
— Амаль заўсёды ў адно і тое ж кафэ на вуліцы Сент-Антуан. Мы маглі гаварыць гадзінамі.
— Вы любіце пышкі?
— Адкуль вы ведаеце?
— Я ведаю, што пан Луі купляў іх для вас на вуліцы Акацый.
— Гэта было пазней, калі...
— Калі вы сталі хадзіць да яго ў пакой?
— Тады. Ён хацеў, каб я бывала там. Ён называў гэты пакой сваім закуткам... Вельмі ганарыўся ім...
— Ён не казаў вам, чаму ён зняў гэты пакой?
— Яму хацелася мець свой кут, хоць бы на некалькі гадзін у дзень.



— Дыму я не баюся, бацька курыў і дзядзькі таксама.
Мінулы раз яна была ўзнерваваная, устрывожаная.
— Панна Моніка, вы вельмі любіце сваю маці?
Мегрэ збіраўся пачаць допыт «з музыкай»: паступова і непрыкметна завесці дзяўчыну ў тупік, каб змусіць сказаць праўду. Аднак першы ж яе адказ збянтэжыў камісара.
— Не,— сказала яна зусім спакойна.
— Вы хочаце сказаць, што не ладзіце з ёю?
— Я яе ненавіджу.
— А чаму, вы можаце сказаць?
Яна паціснула плячамі.
— Вы ж былі ў нас дома. Бачылі яе.
— Дакладней можна?
— Яна думае толькі пра сябе, пра сваё становішча ў грамадстве, пра сваю старасць. Злуецца, што выйшла замуж не так удала, як сёстры, і што ёй прыходзіцца рабіць выгляд, што яна жыве не горш.
— А бацьку вы любілі?
Яна маўчала, і Мегрэ перапытаў.
— Я думаю. Не вельмі прыемна гаварыць пра гэта цяпер.
— І яго вы не надта любілі?
— Яго можна было толькі пашкадаваць.
— Што вы маеце на ўвазе?
— Ён нічога не рабіў, каб палепшыць сваё становішча.
— У чым палепшыць?
— Ва ўсім.— І тут яна загаварыла з імпэтам: — Я вось, дык толькі і думаю пра тое, каб палепшыць нашае так званае жыццё. Мне яно абрыдла. У мяне адна мэта — з'ехаць.
— Выйсці замуж?
— Выйсці, не выйсці, але з'ехаць.
— І вы гэта збіраліся зрабіць у бліжэйшым часе?
— На днях.
— А з бацькамі вы раіліся?
— А навошта?
— Значыцца, вы з'ехалі б, не сказаўшы ні слова?
— А чаму не? Што б гэта ў іхнім жыцці змяніла?
Мегрэ было ўсё цікавей слухаць дзяўчыну. Ён нават забыўся на сваю люльку, і яму прыйшлося запальваць яе два разы.
— Скажыце, а калі вы даведаліся, што бацька не працуе болей у Капланаў? — спытаўся ён раптам.
Мегрэ чакаў, што дзяўчына расхвалюецца, але тая, відаць, падрыхтавалася да падобных пытанняў. Інакш растлумачыць яе поўны спакой ніяк было нельга.
— Гады тры назад. Не памятаю дакладна. У студзені ці лютым.
Фірму, згадаў Мегрэ, закрылі ў кастрычніку.
— А як вы даведаліся?
— Выпадкова. Неяк пад вечар я разносіла кветкі...
— Вы ўжо тады працавалі на вуліцы Рывалі?
— Я пайшла працаваць туды ў васемнаццаць. Дык вось, мне трэба бы-



дазваляў. Калі б я згадзілася, ён бы мне багата чаго накупіў.
— А вы як-небудзь сустракалі яго выпадкова, калі ён сядзеў на лаўцы?
— На лаўцы?.. — збянтэжылася жанчына. Памаўчаўшы, яна згадала: — Адзін раз, неяк уранку, калі ішла ў магазін. Ён размаўляў з нейкім хударлявым чалавекам, дзівакаватым.
— А чым ён вас здзівіў?
— Ён быў падобны на клоуна, толькі без грыму. Праўда, я разгледзець яго не магла, але ўсё ж заўважыла: чаравікі на ім былі стаптаныя і штаны — абтрапаныя.
— Вы спыталіся потым у пана Луі, што гэта за чалавек?
— Канечне. Ён адказаў, што на лаўках якіх толькі тыпаў не сустрэнеш і што яму цікава пагаманіць з незвычайнымі людзьмі.
— Вам хацелася прыйсці на пахаванне?
— Я пабаялася. Праз дзень — два схаджу да яго на магілу...
Развітаўшыся з пані Машэр, Мегрэ паехаў у камісарыят.
— Ці ведаеш ты такую Марыету Жыбон? — спытаўся ён у інспектара ў аддзеле Нораваў.— Не?.. Будзь ласкавы, правер па картатэцы.
— Маладая?
— Гадоў пяцьдзесят.
Інспектар узяў скрынку з пажаўцелымі і запыленымі карткамі. Доўга шукаць не прыйшлося.
— Нарадзілася ў Сен-Мало, у картатэцы ўжо адзінаццаць гадоў. Тры арышты. Усе да вайны. Два — за абкраданне кліента.
— Сядзела?
— Адпусцілі. За адсутнасцю доказаў.
— Што яшчэ?
— Чакайце. Пагляджу ў другой скрыні...
Імя яе траплялася яшчэ на некалькіх картках, але ўсе яны былі даваенныя.
— Да вайны была масажысткаю ў салоне на вуліцы Марцір. Жыла з нейкім Наталі, асуджаным за забойства. Я згадваю гэтую справу. Іх было трое. Яны забілі хлопца з іншай банды каля тытунёвай будкі на вуліцы Фантэн. Так і не ўдалося разабрацца, хто пырнуў нажом. Вось і далі ўсім траім па дзесяць гадоў.
— Гэты Наталі цяпер на волі?
— Памёр.
Гэтыя факты нічога не давалі Мегрэ, адно пацвярджалі ягоныя здагадкі адносна мінулага пані Жыбон.
— А чым яна цяпер займаецца? — спытаўся камісар.
— Не ведаю. Можа, памерла.
— Не, жывая яшчэ.
— Значыцца, завязала. Вярнулася, можа, на радзіму і прыкінулася там самавітай дамаю.
— Не, яна ўсё яшчэ ў Парыжы. І здае мэбляваныя пакоі на вуліцы Ангулем. Неафіцыйна. І, заўважце, у доме амаль што адны дзеўкі.
Інспектар зацікавіўся.
— Аднак я не думаю, што яны прымаюць у гэтых нумарах.

— Ён купляў вам каштоўнасці?
— Пярсцёнак, зусім нядаўна.— Жанчына паказала пярсцёнак на руцэ.— Ён быў такі добры, такі чуллівы! Яму была патрэбна падтрымка. Я ведаю, што вы думаеце пра мяне, але перш за ўсё я была яму сябрам, адзіным сябрам.
— А сюды ён прыходзіў?
— Ніколі. З-за кансьержкі і суседзяў. Мяне б тады ўвесь дом абгаворваў.
— Вы бачылі яго ў панядзелак?
— Мы прабылі разам прыкладна гадзіну.
— У які час?
— Адразу пасля абеду.
— У вас было спатканне?
Жанчына кіўнула.
— Дзе?
— Як звычайна, у нашым кафэ. Праўда, зрэдку мы сустракаліся з ім і ў кафэ на рагу Сен-Мартэн.
— Ён прыйшоў у час?
— Ён ніколі не спазняўся. У той дзень было холадна, а ў мяне крыху балела горла, і мы вырашылі пайсці ў кіно.
— На бульвары Бон-Нувэль?
— Вы, я бачу, многае ведаеце.
— Калі вы развіталіся?
— Каля чатырох. За паўгадзіны да смерці, калі верыць газетам.
— Ён павінен быў з кім-небудзь сустрэцца?
— Ён мне нічога не сказаў.
— Ён гаварыў з вамі пра сваіх сяброў, пра людзей, з якімі бачыўся?
Яна пакруціла галавою і падышла да серванта.
— Можна, я прапаную вам шклянку? Праўда, у мяне толькі вермут. Даўно стаіць — я ж не п'ю.
Мегрэ не змог адмовіць ёй. Вермут купляў, напэўна, яшчэ сяржант, такі быў на дне бутэлькі асадак.
— Калі я прачытала ў газеце, то адразу ледзь не пабегла да вас. Мой муж часта пра вас расказваў. Я і фатаграфію вашу часта бачыла. Так што, адразу пазнала вас.
— Ці думаў ён развесціся, каб ажаніцца з вамі?
— Ён дужа баяўся жонкі.
— А дачкі?
— Яе ён вельмі любіў. Дзеля яе ён што хочаце зрабіў бы. Але мне здаецца, яна ў чымсьці расчаравала яго...
— Чаму вы так думаеце?
— Проста мне так здавалася. Ён часта быў сумны пасля сустрэчы з ёю.
Але і сама яна была не надта вясёлая: гаварыла нейкім вялым, манатонным голасам. Можа, яна прыходзіла да Турэ больш для таго, каб прыбраць у пакоі?.. Ва ўсякім разе, Мегрэ ніяк не мог уявіць яе ў ложку з каханкам. Яна больш бачылася яму ў паўзмроку за столікам кафэ, у ціхай, лагоднай размове.
— Ён ашчаджаў грошы?
— Не надта. Як на разуменне простага чалавека, дык ён многае сабе



ло якраз у той самы дом, у двары якога была бацькава кантора. Было ўжо цёмна, а святло ў ёй не гарэла. Я спыталася ў кансьержкі, у чым прычына, і тая сказала, што фірма Капланаў закрылася.
— І, вярнуўшыся дамоў, вы нічога не сказалі маці?
— Нічога.
— Чаму?
— Не хацела яго выдаваць. Ён пазбягаў сцэн. А тут пачаліся б такія разборы...
— Ён баяўся маці?
— Хутчэй, хацеў, каб яна не чапала яго.
У голасе дзяўчыны чулася пагарда.
— А ў бацькі вы спыталіся, дзе ён цяпер робіць?
— Не.
— Дык вы высачылі яго?
— Высачыла. Назаўтра паехала ў Парыж раней за яго, сказала, што ў мяне тэрміновая праца, а на вакзале дачакалася ягонага цягніка. І пайшла ўслед за ім.
— Што ж ён рабіў у той дзень?
— Хадзіў па розных установах. Папалуднаваў булкаю. Потым спыніўся каля дошкі аб'яў. І я ўсё зразумела: ён шукаў працу.
— Але ж ён кожны месяц, як і раней, прыносіў у дом зарплату?
— І мяне гэта вельмі дзівіла. Я ўсё чакала, калі ён нарэшце прыйдзе дамоў без грошай. А ён замест гэтага неяк нават аб'явіў маці, што запатрабаваў у Каплана надбаўкі і той яе даў!
— Калі гэта было?
— Прыкладна праз паўгода. У жніўні.
— І вы вырашылі, што бацька знайшоў працу?
— Але мне ўсё-такі хацелася праверыць, і я зноў дзень сачыла за ім. А ён і не думаў ісці ні на якую працу: гуляў па скверы, сядзеў на лаўцы. Я вырашыла, што ў яго выхадны. Праз тыдзень я зноў прасачыла за ім. Тады ён і заўважыў мяне — на Вялікіх бульварах, калі сядзеў на лаўцы. Ён збляднеў, але, доўга не думаючы, сам падышоў да мяне.
— Ён зразумеў, што вы сачылі за ім?
— Не думаю. Напэўна, вырашыў, што гэта выпадковасць. Была спякота, і ён запрасіў мяне выпіць кавы з марожаным на тэрасе.
— Што ён вам сказаў?
— Што фірмы Капланаў больш няма, што ён застаўся без працы, але не кажа нічога маці, каб не турбаваць яе, бо ўпэўнены, што хутка знойдзе новую працу.
— Ён тады ўжо быў у жоўтых чаравіках?
— Не, я ўбачыла іх на ім пазней, калі ён сказаў мне, што знайшоў працу. Ён дадаў тады яшчэ, што ўсё было цяжэй, чым ён думаў, але цяпер усё выдатна, ён займаецца страхаваннем і ў яго багата вольнага часу.
— А чаму ён не сказаў пра гэта маці?
— Яна пагарджае людзьмі, якія, каб зарабіць сабе на жыццё, ходзяць па кватэрах і нешта там прапануюць. Для яе гэта ўсе бадзягі, жабракі. Калі б ён сказаў ёй такое, яна б яго са свету зжыла. І ўсё праз сясцёр...
— Ваша маці, гляджу, дужа да іх прыслухоўваецца.



— Мы б ведалі,— запэўніў інспектар.
— Паназірайце, галубкі, за гэтым домам. Можа, суседзі што-небудзь падкажуць. Мае хлопцы могуць не пазнаць вашых добрых знаёмых.
— Зробім усё як след.
Прыйшоўшы ў свой кабінет, Мегрэ не паспеў і сесці, як увайшоў Люка.
— Што новага?
— Па тэлефоне яна не званіла нікому. Але сёння ўранку да нас звярнулася адна старая, якая жыве са сваім пляменнікам на вуліцы Гэй-Люсака. Яна выходзіла з дому, а калі вярнулася, дык выявіла, што з буфета знікла каўбаса, якая дзве гадзіны назад была яшчэ на месцы. Тады яна ўзяла стары рэвальвер мужа, з якім той ваяваў яшчэ ў першую сусветную, і абшукала кватэру. І знайшла пад пляменнікавым ложкам хлебныя крошкі і насоўку. Чужую, не пляменніка!
— Чым гэты пляменнік займаецца?
— Студэнт. Працуе рассыльным у кнігарні на бульвары Сен-Мішэль.
— Цікава... Дык, значыцца, цётка выклікала паліцыю?
— Яна патэлефанавала нам, і я адразу паслаў Леруа ў кнігарню распытаць гэтага хлопца. Ён затросся, а потым дык нават заплакаў.
— Жарыс — ягоны сябра?
— Так. Жарыс папрасіў у яго прытулку.
— З якой нагоды?
— Ён нібыта пасварыўся з бацькамі, а бацька ў яго такі жорсткі, што нават забіць можа.
— І колькі гэта ён праляжаў пад ложкам?
— Адзін дзень і адну ноч. Першую ноч ён сноўдаўся па горадзе. Прынамсі, так ён расказваў сябру. Я папярэдзіў усе пасты. Відаць, зноў бадзяецца.
— Грошы ў яго ёсць?
— Гэты хлопец не ведае.
— Вакзальныя пасты напагатове?
— Вядома.
Мегрэ набраў нумар службовага тэлефона Монікі Турэ.
— Скажыце, калі ласка, панна Турэ сёння на працы?
— Яна пайшла па сямейных справах, але заўтра... Выбачайце, а хто гэта?
Мегрэ павесіў трубку.
— Сантоні тут?
— Не бачыў з самае раніцы.
— Пакінь яму запіску, каб заўтра ўранку прывёў панну Турэ да мяне. З працы. І далікатна.

## 6. Жабракі

Моніка Турэ сядзела ў «клетцы» — так Мегрэ называў прыёмную. Камісар даваў ёй «настаяцца» — многія ў гэтай чакальні гублялі ўпэўненасць.
— Што яна там робіць? — спытаўся Мегрэ ў Сантоні.



— Нічога.
— Як у яе настрой?
— Маўчыць. Змрочная.
Ідучы на ранішні рапарт, Мегрэ мімаходзь зірнуў на дзяўчыну. Праз паўгадзіны, калі ён вяртаўся ў кабінет, яна сядзела ў той самай паставе.
З зашклёнай чакальні было добра відаць калідор аддзялення. Сноўдалі туды-назад інспектары з пульхнымі папкамі. Правялі арыштаванага ў наручніках, потым — нейкую заплаканую жанчыну. Аднак на дзяўчыну, здавалася, нішто не дзейнічала. Яна захоўвала поўны спакой, хоць за гэты час у кабінет да Мегрэ выклікалі ўжо ўсіх наведнікаў.
Праслухоўванне тэлефона Марыеты Жыбон нічога не дало: аніводнага званка. Можа, яна што-небудзь западозрыла?
Назіраючы за домам, інспектар з аддзела Нораваў таксама нічога не заўважыў.
— А Жарыса ўчора ў шэсць гадзін вечара бачыў на рагу плошчы Клішы і вуліцы Баціньёль адзін паліцэйскі. Жарыс выходзіў з бістро. Схапіць яго паліцэйскі не паспеў, Жарыс знік у натоўпе. Больш яго ў гэтым квартале не бачылі, колькі ні пільнавалі.
Як сказаў уладальнік бістро, гэты кліент нікому не тэлефанаваў, але з'еў пяць яек укрутую з булачкамі і выпіў тры кубкі кавы. Даўно, напэўна, нябога не еў як след.
Затым камісара запрасіў да сябе суддзя Камельё.
— Нічога новага? — спытаўся ён.
— Спадзяюся накрыць забойцу ў бліжэйшыя дні.
— Забойства з мэтаю абрабавання?
— Думаю, што так.
Нарэшце Мегрэ атрымаў ліст з фірмы, дзе быў зроблены нож, якім забілі Турэ. Фірма паведамляла: па нумары на дзяржанні ўдалося высветліць, што нож — з вялікай партыі тавару, прададзенай аптаўцы ў Марсэлі.
Выходзіць, марна пяць інспектараў ажно тры дні апытвалі ледзь не ўсіх парыжскіх гандляроў нажамі. Жанв'е мала не закалаціла.
— Нічога,— супакоіў яго камісар,— звяжыся з Марсэлем, няхай пашукаюць. Потым захапі Моэрса з лабараторыі і схадзі з ім на вуліцу Ангулем. Няхай Моэрс здыме ўсе адбіткі пальцаў, якія толькі знойдзе ў пакоі Турэ. Асабліва ўважліва трэба агледзець верх шафы.
А Моніка ўсё чакала. Час ад часу Мегрэ пасылаў каго-небудзь зірнуць на яе. Дзяўчына па-ранейшаму сядзела моўчкі, нічога не рабіла і заставалася зусім спакойная. Камісар дзівіўся: пасядзеўшы гадзіну ў «клетцы», мала хто не пачынаў нервавацца.
Нарэшце, калі прайшло паўтары гадзіны, Мегрэ загадаў запрасіць яе. Ён сустрэў дзяўчыну стоячы і папрасіў прабачэння.
— Мне хацелася б пагаварыць з вамі грунтоўна, і я быў вымушаны вырашыць спешныя справы. Сядайце, калі ласка.
Дзяўчына села, папраўліла прычоску, акуратна паклала сумку на калені.
Мегрэ сеў за стол, узяў у рот люльку, але перш чым чыркнуць запалкаю, запытаўся:
— Дазволіце?

# РАЗУМНЫ ВЫБАР



*«Калі чалавек, займаючыся нечым, пытаецца ў сябе: «А навошта гэта ўрэшце патрэбна?», гэта і ёсць праяўленне сапраўднага розуму».*
*Альбер ЖАКАР.*

Я не вельмі здзіўлю вас, паважаныя чытачы, калі скажу, што пытанне выбару прафесіі нярэдка непакоіць чалавека на працягу ўсяго жыцця. Сапраўды, дзе нам знайсці таго дарадчыка, які можа дапамагчы правільна вызначыць род дзейнасці, спецыяльнасць, якая б адпавядала нашым здольнасцям і захапленням? Паводле даных Сусветнай арганізацыі працы, толькі трое з дзесяці людзей больш-менш правільна з'арыентаваны ў моры больш як трох тысяч прафесій. Дарэчы, урон ад няправільнага выбару справы жыцця, па падліках эканамістаў, складае 270—300 мільёнаў рублёў у год. Тут маюцца на ўвазе толькі прыблізныя фінансавыя і матэрыяльныя страты. А як быць з маральнымі выдаткамі? Нервовыя, фізічныя, энергетычныя перагрузкі, пралікі ў арганізацыі працы прыводзіць і працягваюць прыводзіць да хвароб, росту злачыннасці, страты ўпэўненасці ў сабе, абыякавасці да грамадзянскага абавязку. Дзе ж выйсце?

Як вядома, прапаноў шмат — палепшыць прафарыентацыю моладзі, праводзіць шырокае тэстыраванне людзей і г. д. Усё гэта нядрэнна, і ўсё ж больш важна пры выбары аптымальнага варыянта ўлічваць псіхафізіялагічныя магчымасці чалавека, а ў ідэале — і асаблівасці яго характару. Слушныя, на мой погляд, парады дае ў гэтым напрамку арабскі гараскоп. Што ён нам прапануе?

### ЗЯМЛЯ:

**1 студзеня — 19 студзеня**
**20 красавіка — 19 мая**
**20 жніўня — 19 верасня**
**20 снежня — 31 снежня**

Прафесіі «зямлян» або меланхолікаў звязаны з вобразным мысленнем і жывой прыродай. Дзякуючы надзвычайнай уразлівасці і нават некаторай сентыментальнасці, іх жыццё больш эмацыянальна афарбаванае і звычайна больш яркае, чым жыццё прадстаўнікоў іншых знакаў. Часцей за ўсё гэта мастакі і журналісты, артысты, акцёры. І ўсё ж ёсць сферы дзейнасці, якія «зялёныя» лічаць на сто працэнтаў сваімі. Гэта прафесіі, звязаныя з біялогіяй, геаграфіяй, аграноміяй, абаронай навакольнага асяроддзя і наогул з усім жывым на нашай планеце. Можна прывесці шэраг спецыяльнасцей, дзе «зямляне» могуць праявіць свае здольнасці: біяфізіка, біяхімія, цыталогія, паразіталогія, арганічная хімія, фізіялогія, анатомія, генетыка, экалогія, аграномія і г. д.

Намнога ніжэйшая эфектыўнасць працы «зямлян» у тэхнічных, фізіка-матэматычных навуках, аўтамабільнай справе, касмічнай галіне. **Наўрад ці могуць паказаць сябе з найлепшага боку яны і ў спорце, інжынернай справе, медыцыне, эканоміцы, юрыспрудэнцыі. Але што рабіць, калі меланхолік усё ж выбраў адну з вышэйназваных прафесій? А вось што: у межах сваёй спецыяльнасці шукаць занятак, які хоць у некаторай ступені быў бы набліжаны да прыроды і вобразнага мыслення.** У інжынернай справе, напрыклад, лепш арыентавацца на будаўніка, спецыяліста па азеляненню, добраўпарадкаванню, карацей кажучы, на тое, што мае справу з непасрэдным аб'ектам, які можна ўбачыць і пакратаць рукой,— меланхоліку важна бачыць і адчуваць рэальны ўклад у справу, якой ён займаецца. Фізіку-меланхоліку можна параіць перанесці сваю энергію на вывучэнне з'яў, непасрэдна звязаных з чалавекам і жывой прыродай.

Нам застаецца дадаць, што ў чалавека знака ЗЯМЛІ павінна быць асобнае, ізаляванае ад вытворчай мітусні рабочае месца. Гэта можа быць невялічкі асобны пакойчык або пакойчык, дзе працуюць 2—3 чалавекі. Меланхолік не можа прадукцыйна працаваць у вялікіх залах, цэхах, дзе шмат людзей, тлумна, не можа выконваць адразу некалькі вытворчых аперацый, займацца рознымі справамі. У гэтых выпадках ён губляе арыентацыю, хутка стамляецца, узнікае небяспека захварэць на сэрца, печань, нервовую сістэму.

Калі прадстаўніку ЗЯМЛІ ўсё ж даводзіцца працаваць у вялікім шумным памяшканні, пажадана адгарадзіць яму шафай ці перагародкай асобны куток, які ён можа ўпрыгожыць па свайму густу: развесіць пакаёвыя расліны, пышныя кветкі з густой зелянінай. Гэта будзе супакойваць «зялёнага» і настройваць на рабочы рытм. Меней рэклам, яркіх фарбаў, эратычных здымкаў — лепш фота звычайных хатніх жывёлін і сакавітай зеляніны.

### ПАВЕТРА:

**20 студзеня — 19 лютага**
**20 мая — 19 чэрвеня**
**20 верасня — 19 кастрычніка**

У сангвінікаў («паветраных», «белых») значна меней праблем у выбары прафесіі, чым у прадстаўнікоў іншых знакаў. І справа тут не толькі ў асаблівасцях характару. Як правіла, «паветраныя» вызначаюцца моцным здароўем, менш ранімыя і эмацыянальныя, чым, напрыклад, «зямныя», менш пакутуюць ад стрэсаў і непрыемных «сюрпрызаў» нашага бурнага жыцця і ў выніку лёгка пераключаюцца ад аднаго віду занятку да другога, не вельмі зважаючы на перамены жыццёвых абставін.

Людзям гэтага знака пасуюць практычна ўсе прафесіі, прычым дзякуючы іхняй рухомасці і актыўнасці яны могуць з лёгкасцю спалучаць самыя розныя віды дзейнасці. Напрыклад, «белы» адначасова можа быць фотакарэспандэнтам, журналістам, аператарам ды яшчэ і прафесійным аквалангістам, альпіністам або проста спартыўным чалавекам. Увесь букет гэтых спецыфічных заняткаў дазваляе сангвініку не толькі пабываць у незвычайных, экстрэмальных абставінах, але і паспяхова займацца навуковай і практычнай дзейнасцю там, дзе прадстаўнікі іншых знакаў звычайна бездапаможныя.

Прыгадайце знакамітыя тэлеальманах пра жыццё мора, падводныя даследаванні італьянскага рэжысёра Бруна Вайлаці «Дзённік Нептуна». Уся група аквалангістаў, журналістаў, піратэхнікаў, фотаапаратараў Вайлаці складалася з людзей смелых, талковых, да таго ж прадстаўнікоў аднаго знака — ПАВЕТРА. Вада не заўсёды добра іх прымала, ім не раз даводзілася сур'ёзна змагацца са стыхіяй. Не заўсёды яны былі ўдалымі плыўцамі, затое бліскуча выконвалі дзесяткі іншых работ разумовага і фізічнага характару — яркі прыклад шматфункцыянальнасці, уласцівай толькі **ПАВЕТРУ.**

Але ці ўсё так гладка ў «караля прафесій»? Ці ёсць галіны чалавечай дзейнасці, дзе сангвінікі адчуваюць сябе менш упэўнена? Так, сапраўды, ёсць ахілесава пята і ў «паветраных» — гэта цыкл біялагічных навук, геаграфія і ўсё, што звязана з раслінным і жывёльным светам. Іншая справа — фізіка, хімія, кібернетыка, матэматыка, філасофія, увесь спектр тэхнічных навук — ад мікракамп'ютэраў да спадарожнікаў Зямлі. Поспех чакае сангвінікаў і ў спорце, і ў камерцыйнай дзейнасці — яны хутчэй практыкі, чым фундаментальныя даследчыкі, эксперыментатары, а не тэарэтыкі.

Працаваць людзям **ПАВЕТРА** лепш у вялікіх памяшканнях, дзе збіраецца шмат людзей, дзе пануе дзелавая мітусня. Тут «белы» можа на хаду перакінуцца з некім навінай, выпіць шклянку кавы, удакладніць разлік чарцяжа. Дынамічная атмасфера абуджае яго мысленне, выклікае азарт творчага пошуку, здымае стому і прыўзнімае настрой. Сангвініку не патрэбны для работы ўтульны куток, упрыгожаны кветкамі. Яго рабочае месца адразу пазнаеш па творчым беспарадку, змешчаным побач яркім плакаце авангарднага, а то і эратычнага характару. Шум і мітусня не адцягваюць увагі «паветранага», ён умее адкінуць лішнія перажыванні, сканцэнтраваць і накіраваць энергію ў патрэбным напрамку.

Такія спецыфічныя ўмовы (з-за нашай заўсёднай неўладкаванасці і цеснаты вельмі распаўсюджаныя), на жаль, далёка не ўсім дазваляюць працаваць плённа. Прадстаўнік знака ВАДЫ, напрыклад, у такім калектыве адчувае сябе не зусім утульна. Але пра гэта — наступны раз.

Сяргей **АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**



**Пад рэдакцыяй міжнароднага гросмайстра Віктара КУПРЭЙЧЫКА.**

# «МЕФІСТА» ГУЛЯЕ ПА-БАНКУ,

## АБО ПРА ТОЕ, ЯК «КАБІНЕТНЫ НАВУКОЎЦА» ПЕРАКВАЛІФІКАВАЎСЯ Ў «БЕГУНА-МАРАФОНЦА»

Яшчэ ў XIX стагоддзі знакаміты Сэрвантэс зазначыў у «Дон Кіхоце»: «Жыццё — гэта шахматная партыя».

Пазней бацька кібернетыкі Норберт Вінер вынайшаў сваю формулу ўяўлення чорна-белай магіі: «Мы гуляем у шахматы, бо не ведаем, як трэба гуляць у гэтую гульню; калі ж даведаемся, шахматы страцяць для нас цікавасць...»

Норберт Вінер, канечне ж, жартаваў... Да таго ж, у ягоным выказванні ёсць недвухсэнсавы намёк на тое, што адказ на пытанне «Як трэба гуляць у шахматы?» павінна даць ЭВМ. І яна, ЭВМ, у хуткім часе — ужо ў 50-я гады, займеўшы камп'ютэрную праграму, пачала рабіць свае першыя крокі-хады на чорна-белых палях. Здаецца, гэта было даўно... А сёння шахматныя камп'ютэры даволі лёгка рашаюць задачы, эцюды і добра гуляюць самі: ужо адбыліся і чэмпіянаты свету сярод ЭВМ.

Шмат у якіх краінах свету сёння сыходзяць з канвеераў дзесяткі шахматных ЭВМ розных мадыфікацый. Ёсць і супер-ЭВМ, сярод якіх першынстве «Мефіста» (ФРГ). Аўтара камп'ютэрнай шахматнай праграмы «Мефіста» Рычарда Лэнга ў свой час называлі «Кабінетным навукоўцам», а потым за яго камп'ютэрныя распрацоўкі — «бегуном-марафонцам»...

Што ўяўляюць сабой ЭВМ, чытачы ведаюць. Электронны цуд XX стагоддзя ЭВМ нагадвае сінтэз тэлевізара (дысплея) і клавіятурнай пішучай машынкі. Каб згуляць з машынай шахматную партыю, дастаткова ўвесці ў ЭВМ (дакладней — у дыскавод) дыскету (яна нагадвае гнуткую грампласцінку), на якой занатавана шахматная праграма.

...Але ж нас болей цікавіць не вонкавы выгляд ЭВМ, а тое, як яны, ЭВМ, паводзяць сябе ў часе шахматнай гульні.

Увага...

«Хайтэк» — «Шах»



Як ацаніць пазіцыю? Мяркую, яна роўная. Але «белая ЭВМ» знаходзіць надзвычай цікавую ідэю, сэнс якой — «выключыць» з гульні чорнага ферзя на a5.

20. Cb5!! C:b5 21. Ф:h5 g5.

У гэтым становішчы «Шах» магла «заблытаць» сітуацыю на дошцы: 21. ...Л:c3! І пасля — 22. Л:g6+ Kph8 23. Лdg1 матавай атакай пагражалі ўжо чорныя.

23. ...Л:c2!! 24. Kpb1 Л:b2+! 25. Kp:b2 Фb4+, і гэтак далей.

Няўжо «чорная ЭВМ» не знайшла гэты працяг? Наўрад ці. Справа ў іншым: камп'ютэр убачыў не толькі сваю ўласную камбінацыю, але і сустрэчны контрудар з ахвярай ферзя: 23. Ф:h7+!!

23. Kp:h7 24. Лh6 Kpg8 25. Лg1+ Kpf8 26. Лh8+ Kpf7 27. Лh7+ Kpf8 28. Ch6X.

Але ж мы з вамі крыху збочылі ў разліках.

Пабачым, як гулялі далей машыны.

22. C:g5!! 23. Л:g5+ Kph8 24. Лdg1. Чорныя капітулявалі, бо ім нельга абараніцца ад двух трапных udaраў: 25. Ф:h7+! і Лh5X.

Яшчэ адзін фрагмент. На чэмпіянаце свету сярод ЭВМ гуляюць «Цырус» і «Мефіста».



У гэтай спакойнай на першы погляд сітуацыі «Мефіста» наносіць нечаканы ўдар — 17. ...Л:d4!

Што рабіць «Цырусу»? Трэба браць ахвяру — ладдзю! 18. Ф:d4 Cb7 19. f3 Cc5 20. Лfd1 C:d4+. Белыя прайгралі.

Гэтыя «машынныя гульні» сталі прадвеснікамі дуэлей машыны і чалавека. У хуткім часе гэта і здарылася.

Але аб паядынках чалавека і машыны — на чарговых «Уроках шахматнага караля».

# ЧАЙНВОРД



1. Малады пачынаючы спартсмен. 2. Былы футбаліст мінскага «Дынама». 3. Масавая з'ява, сродак фізічнага выхавання. 4. Дарожка для гоначных спаборніцтваў. 5. Прыз. 6. Спартыўны бег. 7. Спартыўнае таварыства. 8. Пляцоўка для гульні ў тэніс. 9. Футбольная каманда Масквы. 10. Футбольнае поле з пляцоўкамі для спартыўных гульняў, састаўная частка стадыёна. 11. Усебакова развіты спартсмен. 12. Спартыўнае спаборніцтва. 13. Спартыўная пляцоўка. 14. Спартыўная гульня. 15. Удзельнік спаборніцтва, які ідзе першым. 16. Перыяд баксёрскага бою. 17. Пачатак шахматнай партыі. 18. Спартыўны настаўнік. 19. Спаборніцтва на вёсельных, парусных або маторных суднах. 20. Спартыўны суддзя. 21. Венгерскі шахматыст, міжнародны гросмайстар. 22. Вядомая беларуская спартсменка-лёгкаатлетка. 23. Сістэма гімнастычных практыкаванняў. 24. Месца правядзення фіналу ўсесаюзных гульняў «Старты надзей».

**Склаў Васіль КАСЕНКА.**

## АДКАЗЫ НА КРАСВОРД, ЗМЕШЧАНЫ Ў № 5

ПА ГАРЫЗАНТАЛІ: 1. Струг. 4. Апука. 7. Малка. 9. Лаконіка. 10. Авангард. 11. Томск. 13. Умбра. 15. Кантраверза. 18. Львоў. 19. Талаш. 23. Акалічнасць. 27. Зебра. 28. Верас. 29. Мальберт. 30 Лабрадор. 31. Вабік. 32. Крэда. 33. Аймак.

ПА ВЕРТЫКАЛІ: 2. Тварог. 3. Гунька. 5. Прабірка. 6. Красавік. 7. Мянтуз. 8. Курарэ. 12. Скульптар. 14. Манпансье. 16. Нажоўка. 17. Рукапіс. 20. Алігатар. 21. Мангольд. 22. Серада. 24. Казбек. 25. Цвірка. 26. Залоза.



**Беларусь**

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ ЧАСОПІС

**№ 6 (630)**

**ЧЭРВЕНЬ 1991 г.**

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1930 ГОДА.

**Галоўны рэдактар**
**А. А. ШАБАЛІН.**

**Рэдкалегія:**
**Т. М. БОНДАР (намеснік галоўнага рэдактара), Вера ВЯРБА (Г. П. САКАЛОВА), А. І. ВЯРЦІНСКІ, А. М. КАШКУРЭВІЧ, У. М. КОНАН, А. А. ЛОЙКА, Х. А. ЛЯЛЬКО, А. І. МАЛЬДЗІС, В. А. ЯНОЎСКІ, М. М. ЯРОМЕНКА.**

**Адказны сакратар**
**І. А. КАЛЮТА.**

**Мастацкі рэдактар**
**Н. І. БАГАМОЛАВА.**
**Карэктар**
**М. У. ВАСІЛЕЎСКАЯ.**
**Афармленне**
**Л. А. КАРНЕЕВАЙ.**

НА ПЕРШАЙ СТАРОНЦЫ ВОКЛАДКІ: **фотаэцюд Віктара ЖЫЛІНА «Лавіся, рыбка, вялікая і маленькая...».**

ЗАСНАВАЛЬНІК — САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

**Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па друку. Мінск.**

**Журнал «Беларусь» на белорусском языке.**
**Здадзена ў набор 13.04.91.**
**Падпісана да друку 15.05.91.**
**Фармат 70×108 1/16.**
**Афсетны друк.**
**Ум. друк. арк. 7.**
**Ул.-выд. арк. 11,1.**
**Ум. фарбаадб. 12,6.**
**Т. 13 310 экз.**
**Зак. 215.**
**Цана 40 кап.**

**Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, вуліца Захарава, 19.**

**Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 33-20-01; намесніка галоўнага рэдактара, адказнага сакратара, аддзела літаратуры — 33-02-29; аддзелаў грамадска-палітычнага, культуры і мастацтва — 33-20-53; аддзела мастацкага афармлення — 33-20-54.**

**Рэдакцыя разглядае рукапісы памерам не больш як 12 машынапісных старонак.**

**220041, Мінск, Ленінскі праспект, 79. Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.**

# ЛЕТА Ў СТЫЛІ РЭТРА



Фотаэцюд Віктара ЖЫЛІНА.

**ФОТАВІКТАРЫНА**

# «ВЫ — ПРА ЗОРАК, ЗОРКІ — ДЛЯ ВАС»

**НАШЫ ПЫТАННІ:**

**● Перад вамі — малодшая «галінка» магутнага «дрэва» вядомай на Беларусі тэатральнай дынастыі. Назавіце яе імя.**

**● Назавіце тэатр, у якім дэбютавала артыстка, і яе першыя сур'ёзныя ролі ў спектаклях.**

**● Нядаўна тэатр, дзе працуе наша гераіня, паставіў п'есу класіка беларускай літаратуры, якая была напісана паўстагоддзя назад. Назавіце п'есу і ролю, якую іграе артыстка.**

**По ўмовах віктарыны той, хто правільна адкажа на ўсе пытанні, атрымае фотапартрэт «зоркі» з аўтографам.**

Фота Генадзя АНАТОЛЬЕВА.

**ЛІПЕНЬ**

| П | А | С | Ч | П | С | Н | П | А | С | Ч | П | С | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ☾1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8● | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 |
| 15☽16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22○23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | | |
| 29 | 30☾31 | | | | | | | | | | | | |

Фазы Месяца: ☾ — 1—8 — ветах, ● — 9—15 — маладзік, ☽ — 16—22 — сход, ○ — 23—30 — поўня, ☾ — 31—6 жніўня — ветах.

Цана 40 кап. «Беларусь», 1991, № 6, 1—36. Індэкс 74820.